● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

23 сакавіка 1996 г.
субота, № № 79 — 80
(22882 — 22883)



# ЗВЯЗДА

## ПАВОДКА: МЕДЫКІ ГАТОВЫ ДА СУСТРЭЧЫ

**Усё менш застаецца часу да пачатку веснавой паводкі, і ўсё больш шпаркімі тэмпамі адпаведныя службы рыхтуюцца да яе сустрэчы: грамадзянская абарона, вайскоўцы, меліяратары, вяскоўцы і г. д. Не сталі выключэннем і медыкі. Аб тым, як (а галоўнае — з чым) сустрэнуць «вялікую ваду» людзі ў белых халатах, карэспандэнту «Звязды» згадзіўся расказаць загадчык аддзела медыцынскай абароны ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС і ў надзвычайных сітуацыях Міністэрства аховы здароўя Валянцін Сцяжко.**

Паводле папярэдніх прагнозаў, сёлета могуць пацярпець ад паводкі 165 населеных пунктаў Беларусі. У адпаведнасці са шматгадовай практыкай санітарныя страты (хваробы, звязаныя з пераахаладжэннем) трэба чакаць на ўзроўні 1-2 працэнтаў ад агульнай колькасці насельніцтва, якое пражывае ў месцах падтаплення.

Як і раней, з мэтай размяшчэння магчымых хворых, у кожнай вобласці краіны (цэнтральных, гарадскіх і раённых бальніцах) зарэзерваваны па 2,5 тысячы шпітальных ложкаў. Да таго ж у кожнай вобласці працуюць службы тэрміновай медыцынскай дапамогі, якія маюць спецыяльны запас медыкаментаў на 500 чалавек. Пакуль паводка не пачалася, лекі завозяцца ва ўсе месцы, дзе ў іх можа потым узнікнуць неабходнасць. Літаральна днямі Міністэрствам аховы здароўя будзе наладжана рэгулярнае паступленне інфармацыі з месцаў (з ФАПаў, бальніц) аб маючых адбыцца прытоках вады і наяўнасці неабходных медыкаментаў. Сітуацыя будзе своечасова выпраўляцца.

Як падкрэсліў у гутарцы В.Сцяжко, у 45 раёнах, якія могуць пацярпець ад паводкі, ёсць 143 аўтамашыны («хуткія дапамогі», спецыяльныя аўтамабілі), якія будуць працаваць падчас затаплення. У дадатак да гэтага да зоны паводкі будуць «прыпісаны» яшчэ 50 адзінак аўтатранспарту з іншых ведамстваў. Словам, медыкамі зроблена ўсё неабходнае. Слова за паводкай?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## АНОНС

### Вам адкажа Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён ШАРЭЦКІ

Чытачы «Звязды» несумненна памятаюць, што крыху больш чым месяц назад, падчас правядзення «прамой лініі», Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Сямён Георгіевіч Шарэцкі выказаў асабістае жаданне рэгулярна сустракацца з імі па тэлефоннай сувязі. Слова сваё кіраўнік парламента стрымаў.

**У пятніцу, 29 сакавіка, С. Г. Шарэцкі зноў прыедзе ў рэдакцыю нашай газеты, каб шчыра, адкрыта і сумленна пагаварыць з вамі, нашы паважаныя чытачы. «Прамая лінія» са Старшынёй Вярхоўнага Савета пачнецца ў той дзень з 14 гадзін.**

Як і раней, папярэдне можна пісаць пісьмы з пытаннямі да Сямёна Георгіевіча.

Адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-А, рэдакцыя газеты «Звязда».

Пытанні прымаюцца таксама па тэлефоне 68-27-40.

Пішыце, тэлефануйце. Вам адкажа Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Георгіевіч Шарэцкі.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**



У час сустрэчы. Фота БЕЛТА.

## «УСЁ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА Ў РАСІІ, ВЕЛЬМІ ВАЖНА ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ»

Дэлегацыя Савета Федэрацыі Расіі на чале з яго старшынёй Ягорам Строевым 22 сакавіка прыбыла ў Мінск з двухдзённым афіцыйным візітам. Гэта першая замежная паездка прадстаўнікоў верхняй палаты расійскага парламента новага саставу.

У аэрапорце «Мінск-2» Ягора Строева і членаў расійскай дэлегацыі сустракалі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, іншыя прадстаўнікі парламента краіны.

Праграма візіту Ягора Строева пачалася з яго сустрэчы сам-насам з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Яны абмяняліся думкамі па ідэі заключэння беларуска-расійскага саюзнага дагавора, якую кіраўнік беларускай дзяржавы мае намер прапанаваць прэзідэнту Расійскай Федэрацыі Барысу Ельцыну на іх сустрэчы ў Маскве, куды Аляксандр Лукашэнка вылецеў адразу пасля гутаркі з Ягорам Строевым.

Прэзідэнт асабліва падкрэсліў, што пасля падпісання беларуска-расійскага саюзнага дагавора да гэтага дакумента могуць падключыцца іншыя дзяржавы. «Шлях нашай інтэграцыі дакладна акрэслены, і мы з яго не сыдзем», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка. На яго думку, заключэнне саюзнага дагавора надзвычай важна для нашых дзвюх дзяржаў, у тым ліку і для больш чым 2 мільёнаў этнічных рускіх, якія пражываюць сёння на тэрыторыі Беларусі. А вартасць палітыка, адзначыў Прэзідэнт, «будзе заключацца ў тым, наколькі блізка ён падыдзе да рэалізацыі ідэі зблізкэння». Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ў сённяшняй складанай сітуацыі Савет Федэрацыі Расіі на чале з яго старшынёй Ягорам Строевым «з'яўляецца стабілізатарам у грамадстве». Ён заявіў таксама, што ўсе, што адбываецца цяпер у Расіі, вельмі важна для беларускага народа.

Ягор Строеў у гутарцы з беларускім Прэзідэнтам падкрэсліў, што гэты візіт у Мінск — першая замежная паездка дэлегацыі новага саставу верхняй палаты Федэральнага сходу Расіі. «Адзіная і галоўная наша мэта — працягваць шлях глыбокай інтэграцыі», аб чым была дасягнута дагаворанасць прэзідэнтаў Расіі і Беларусі ў час нядаўняга візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву. Ён назваў стварэнне пасля заключэння беларуска-расійскага саюзнага дагавора «наднацыянальных органаў самым здаровым, разумным і моцным напрамкам на шляху інтэграцыі».

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ,**
**Валянціна МЕНШЫКАВА,**
**БЕЛТА.**

## МІЖПАРЛАМЕНЦКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ І РАСІІ БУДЗЕ ПАГЛЫБЛЯЦЦА

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі і Старшыня Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі Ягор Строеў на праведзенай 22 сакавіка сустрэчы падпісалі заяву парламенцкіх дэлегацый.

У ёй, у прыватнасці, пацверджана ўзаемная зацікаўленасць у паглыбленні парламенцкага ўзаемадзеяння ў мэтах усямернага развіцця інтэграцыйных працэсаў паміж дзвюма дзяржавамі. Бакі згадзіліся ўтварыць Змешаную парламенцкую камісію Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з мэтай сумеснай падрыхтоўкі заканадаўчых актаў, якія забяспечылі б інтэграцыйны працэс, паглыбленне міжпарламенцкага супрацоўніцтва.

Дэлегацыі, адзначана ў дакуменце, абмеркавалі стан спраў з ратыфікацыяй двухбаковых дагавораў і пагадненняў, удзялілі асаблівую ўвагу праблемам удасканалення гандлёва-эканамічных і разлікова-плацежных адносінаў, адпрацоўцы механізма кантролю за належнай рэалізацыяй падпісаных паміж дзвюма краінамі пагадненняў, у тым ліку тых, што адносяцца да эканамічнага і мытнага саюзаў, удзельнікамі якіх з'яўляюцца Расія і Беларусь.

Разглядаючы некаторыя аспекты ўзаемадзеяння на міжнароднай арэне, бакі аднадушна прызналі неабходнасць больш цеснай каардынацыі дзейнасці парламенцкіх дэлегацый дзвюх краін, якія ўдзельнічаюць у рабоце розных міжнародных міжпарламенцкіх арганізацый, выказалі зацікаўленасць ва ўдасканаленні дзейнасці Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц СНД.

Дэлегацыі дагаварыліся аб заключэнні пагаднення аб міжпарламенцкім супрацоўніцтве паміж Федэральным сходам Расіі і Вярхоўным Саветам Беларусі, якое будзе падпісана ў час візіту ў адказ у Маскву Сямёна Шарэцкага.

Пасля заканчэння сустрэчы, адказваючы на пытанні журналістаў, у прыватнасці, якой бачыцца яму форма саюза паміж Беларуссю і Расіяй, Ягор Строеў сказаў: час пакажа, галоўнае — рухацца наперад. На першым этапе, адзначыў ён, магчыма, мы прыйдзем да канфедэрацыі. «Пачынаць трэба з малога: спачатку даць магчымасць аб'яднацца эканоміцы, аб'яднацца ў сацыяльныя групы, а потым і самі палітыкі пойдуць аб'ядноўвацца», — сказаў Ягор Строеў. На яго думку, у парламентаў Расіі і Беларусі, як і ў Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў—удзельніц СНД, адна задача — знаходзіць заканадаўчыя шляхі да далейшай інтэграцыі, садзейнічаць разумным працэсам, якія выспяваюць у гушчы народных мас, не рэвалюцыйным, а эвалюцыйным метадам. Гаворачы аб сваіх адносінах да рашэння беларускага парламента, звязанага з дэнансацыяй Дзярждумай Белавежскіх пагадненняў, Ягор Строеў ахарактарызаваў яго як разумныя паводзіны дэпутатаў і мудры падыход. «Любы рэзкі рух сёння прынясе менш карысці, чым узважаны падыход», — адзначыў ён.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## БЕЛАРУСКІХ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ НАВЕДАЎ ЯГОР СТРОЕЎ

22 сакавіка беларускі парлмент працаваў без традыцыйнага раздзела «Рознае». Дэпутаты з раніцы перайшлі да вырашэння актуальных пытанняў, паколькі графік работы на пятніцу абяцаў быць даволі напружаным.

Па-першае, неабходна было зацвердзіць намеснікаў старшыні і членаў Савета Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь. Іх кандыдатуры прадставіў Васіль Саковіч, а паколькі яны былі папярэдне абмеркаваны на пасяджэннях фракцый, то працэдура зацвярджэння прайшла хутка. З новымі пасадамі можна павіншаваць новых намеснікаў старшыні і членаў Савета Кантрольнай палаты Вячаслава Радомскага і Васіля Рудэнку, а таксама Вікенція Сержановіча і Яўгена Маісеенку, якія абраны членамі Савета.

Па-другое, парламентарыі працягнулі работу над папраўкамі і дапаўненнямі ў Закон «Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год», якія яны не паспелі абмеркаваць падчас папярэдніх пасяджэнняў. Тым не менш, нягледзячы на моцнае жаданне зацвердзіць бюджэт на бягучым тыдні, дэпутатам гэта так і не ўдалося зрабіць: заўваг як з боку народных абраннікаў, так і з боку ўрада аказалася больш, чым патрэбнага на іх разгляд часу. Такім чынам, сесія працягне работу ў аўторак, 26 сакавіка, і тады, відаць, праект бюджэту нарэшце будзе канчаткова адобраны.

Па-трэцяе, учора беларускі парламент наведаў Старшыня Савета Федэрацыі Расіі Ягор Строеў, які на чале расійскай дэлегацыі знаходзіцца ў нашай краіне з афіцыйным візітам па запрашэнню Аляксандра Лукашэнкі і Сямёна Шарэцкага. Як і меркавалася, раніцай Я. Строеў сустрэўся з Прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам, з міністрам замежных спраў У. Сянько, правёў перамовы з Сямёнам Шарэцкім. Пасля гэтага ён выступіў перад Вярхоўным Саветам. Амаль усё яго выступленне было

**(Заканчэнне на 9-й стар.)**

## ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР НАВЕДАЕ БЕНІЛЮКС

З 25 па 27 сакавіка ўрадавая дэлегацыя на чале з прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Міхаілам Чыгіром наведае з рабочым візітам Бельгію, Нідэрланды і Люксембург. Графік паездкі чакаецца вельмі насычаным.

У ходзе візіту пройдуць сустрэчы з прэм'ер-міністрамі гэтых дзяржаў, а таксама са старшынёй Еўрапейскай камісіі Ж.Сантэрам і Генеральным сакратаром НАТО Х.Саланай. Акрамя гэтага, Міхаіл Чыгір сустрэнецца з прадстаўнікамі дзелавых і банкаўскіх колаў краін Бенілюкса. У прыватнасці, ён наведае сусветна вядомую кампанію «Філіпс».

Па выніках шматлікіх перагавораў плануецца падпісанне Часовага пагаднення аб гандлі і пытаннях, якія датычаць гандлю паміж Рэспублікай Беларусь і ЕС, а таксама двухбаковых пагадненняў з Каралеўствам Бельгіі і Каралеўствам Нідэрланды.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

## *Работнікам гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь*

Сардэчна віншую шматтысячныя калектывы работнікаў прадпрыемстваў і арганізацый гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі з прафесіянальным святам.

У перыяд рэфарміравання эканомікі, накіраванага на павышэнне яе эфектыўнасці, паляпшэнне дабрабыту насельніцтва, вельмі ўзрасла значнасць галін, звязаных з яе абслугоўваннем. І гэта зразумела. Узровень вашай работы ў многім вызначае грамадскую стабільнасць у рэспубліцы. Кожны дзень, вырашаючы складаныя задачы па стварэнню неабходных умоў для забеспячэння жыцця людзей, вы дапамагаеце ім захоўваць настрой, здароўе, веру ў будучыню і цярпліва пераадольваць цяжкасці ў гэты няпросты час.

Аддаючы даніну павагі вашай нялёгкай працы, спадзяюся, што вы будзеце актыўна садзейнічаць працэсу стварэння на карысць роднай Беларусі.

Моцнага здароўя вам, вялікага шчасця, новых працоўных здзяйсненняў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

## «НЕЛЬГА ЗАЙМАЦЦА ПАЛІТЫКАНСТВАМ НА ЛЁСАХ НАРОДАЎ»

— Пастанова Дзяржаўнай думы Расіі аб дэнансацыі белавежскіх пагадненняў стала для мяне асабістай трагедыяй, — заявіў на праведзенай 20 сакавіка сустрэчы з кіраўніцтвам Міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір» і дырэктарамі яе Нацыянальных прадстаўніцтваў у краінах СНД Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. — З аднаго боку, усім вядомы мае намаганні, накіраваныя на больш цесную інтэграцыю дзяржаў Садружнасці, і я, па ідэі, павінен быў бы радавацца рашэнню расійскай Дзярждумы. Аднак я балюча ўспрыняў гэту сітуацыю, таму што ў нас з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным таксама ёсць аб'яднальныя планы і мы ўжо нямала зрабілі ў гэтым напрамку.

Кіраўнік Беларусі падкрэсліў, што не схільны рабіць цяпер паспешлівых высноў. Ён мае намер 22 сакавіка сустрэцца з Барысам Ельцыным і пастарацца разам знайсці прымальнае выйсце з узнікшай сітуацыі.

**Валянціна МЕНШЫКАВА,**
**БЕЛТА.**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

**А.** Унесці змяненні ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 21 снежня 1991 года «Аб падаходным падатку з грамадзян» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992г., №5, арт.79, №12, арт.206; 1993г., №3, арт.27; 1995г., №6, арт.57, №17, арт.189, №20, арт.239), выклаўшы яго ў новай рэдакцыі:

### «ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ПАДАХОДНЫМ ПАДАТКУ З ГРАМАДЗЯН

### Глава І. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Плацельшчыкі падатку**

Плацельшчыкамі падаходнага падатку ў адпаведнасці з гэтым Законам з'яўляюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна або часова пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь*.

Да грамадзян, якія ў мэтах падаткаабкладання разглядаюцца як пастаянна пражываючыя ў Рэспубліцы Беларусь, адносяцца грамадзяне, што знаходзяцца ў Рэспубліцы Беларусь больш за 183 дні ў любым дванаццацімесячным перыядзе.

**Артыкул 2. Даходы, якія падлягаюць падаткаабкладанню**

1. Аб'ектам падаткаабкладання ў грамадзян, якія маюць пастаяннае месцажыхарства ў Рэспубліцы Беларусь, з'яўляюцца даходы ў грашовай (нацыянальнай і замежнай валюце) і натуральнай форме, атрыманыя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама за яе межамі ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам.

Да даходаў, што падлягаюць падаткаабкладанню, адносяцца таксама сумы, якія залічваюцца на асабовыя рахункі работнікаў як у нацыянальнай, так і ў замежнай валюце.

Даходы грамадзян, якія часова пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, падлягаюць абкладанню падаткам, калі гэтыя даходы атрыманы з крыніц у Рэспубліцы Беларусь.

2. Выплата падаткаў з даходаў, атрыманых у замежнай валюце, праводзіцца па жаданню плацельшчыка ў рублях або замежнай валюце, якая купляецца банкамі Рэспублікі Беларусь.

3. Даходы ў замежнай валюце для мэт падаткаабкладання пералічваюцца ў рублі па курсу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на дату атрымання даходу.

**Артыкул 3. Даходы, якія не падлягаюць падаткаабкладанню**

Падаходным падаткам не абкладаюцца:

1) дапамогі па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню і дзяржаўнаму сацыяльнаму забеспячэнню, акрамя дапамог па часовай непрацаздольнасці (у тым ліку дапамог па догляду за хворым дзіцем), а таксама выплаты і іншыя віды дапамогі ў грашовай і натуральнай форме, якія аказваюцца фізічным асобам са сродкаў пазабюджэтных, дабрачынных і экалагічных фондаў.

Пералік указаных фондаў вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь і зацвярджаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь;

2) аліменты, якія атрымліваюцца фізічнымі асобамі;

3) сумы стыпендый, якія атрымліваюцца студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў, аспірантамі, навучэнцамі сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, слухачамі духоўных навучальных устаноў, выплачваюцца ім гэтымі навучальнымі ўстановамі або ўстанаўліваюцца дабрачыннымі фондамі, а таксама сумы стыпендый, што выплачваюцца ў перыяд прафесійнага навучання з Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці;

4) сумы, якія выплачваюцца вучням сярэдніх школ і навучэнцам прафесійна-тэхнічных вучылішчаў за выконваемыя імі работы, звязаныя з навучальна-вытворчым працэсам;

5) усе віды пенсій, якія назначаюцца ў парадку, устаноўленым пенсіённым заканадаўствам, а таксама дадатковыя пенсіі, якія выплачваюцца на ўмовах добраахвотнага страхавання пенсій;

6) сумы, якія атрымліваюцца грамадзянамі за здачу крыві, за іншыя віды донарства, за здачу мацярынскага малака, а таксама сумы, што атрымліваюцца работнікамі медыцынскіх устаноў за збор крыві;

7) сумы грашовых дапамог (кампенсацый), што выплачваюцца дзяржавай грамадзянам, якія пацярпелі ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС;

8) сумы, якія атрымліваюцца для пакрыцця шкоды пры страце працаздольнасці, звязанай з калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, а таксама ў сувязі са стратай карміцеля, вылічаныя ў адпаведнасці з Правіламі пакрыцця шкоды, прычыненай жыццю і здароўю грамадзяніна, што зацвярджаюцца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

9) сумы, якія атрымліваюцца фізічнымі асобамі ад аднаразовага на працягу пяці гадоў продажу кватэр, жылых дамоў, дач, садовых домікаў і іншай нерухомасці, што належыць ім на праве ўласнасці, аднаразовага на працягу каляндарнага года продажу аўтамабіляў або іншых транспартных сродкаў, а таксама сумы, што атрымліваюцца ад продажу іншых рэчаў, якія належаць фізічным асобам на праве ўласнасці, акрамя даходаў ад продажу гэтай маёмасці (рэчаў) пры ажыццяўленні прадпрымальніцкай дзейнасці;

10) даходы грамадзян ад рэалізацыі прадукцыі асабістай падсобнай сельскай гаспадаркі, у тым ліку ад вырошчвання па дагаворах з прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі маладняку жывёлы і птушкі, за выключэннем даходаў ад рэалізацыі прадукцыі нехарчовага прызначэння (насенне, кветкі, жэньшэнь і да т.п.)**.

Указаныя даходы грамадзян не падлягаюць абкладанню падаходным падаткам пры ўмове прадастаўлення даведкі мясцовага выканаўчага і распарадчага органа, якая пацвярджае наяўнасць у фізічнай асобы асабістай падсобнай гаспадаркі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Пры адсутнасці такой даведкі падатак бярэцца ў агульнаўстаноўленым парадку;

11) даходы, якія атрымліваюцца ў выніку атрымання ў спадчыну наследнікамі па завяшчанню, наследнікамі першай і другой чаргі па закону, за выключэннем узнагароджанняў, што атрымліваюцца наследнікамі аўтараў твораў навукі, літаратуры, мастацтва, а таксама адкрыццяў, вынаходстваў і прамысловых узораў;

12) даходы, што атрымліваюцца ў выніку дарэння ад фізічных асоб, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама ад блізкіх сваякоў з-за мяжы. Пры гэтым да блізкіх сваякоў адносяцца бацькі, дзеці, усынавіцелі, усыноўленыя, родныя браты, сёстры, дзед, бабка, унукі, муж і жонка;

13) выйгрышы па аблігацыях дзяржаўных пазык Рэспублікі Беларусь і былога СССР, а таксама выйгрышы па ліцэнзуемых відах дзейнасці;

14) працэнты і выйгрышы па ўкладных рахунках ва ўстановах банкаў, якія знаходзяцца ў Рэспубліцы Беларусь, і па дзяржаўных каштоўных паперах;

15) сумы, якія атрымліваюцца грамадзянамі па абавязковаму і добраахвотнаму страхаванню;

16) сумы прэмій міжнародных арганізацый і Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь, а таксама сумы ўзнагароджанняў, выплачаныя за здачу ў даход дзяржавы скарбаў;

17) вартасць падарункаў (рэчавых прэмій), атрыманых ад прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, а таксама вартасць прызоў у грашовай і натуральнай форме, атрыманых на конкурсах і спаборніцтвах, у памеры да 20 мінімальных заработных плат на працягу каляндарнага года на момант выдачы;

18) вартасць прызоў у грашовай і натуральнай форме, атрыманых спартсменамі на міжнародных і рэспубліканскіх спаборніцтвах;

19) сумы матэрыяльнай дапамогі, якая аказваецца ў сувязі са стыхійнымі бедствамі, іншымі надзвычайнымі абставінамі, а таксама ў тых выпадках, калі такая дапамога аказваецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, незалежна ад памеру сумы, якая выплачваецца;

20) выплачаныя па месцы асноўнай работы ў межах 30 мінімальных заработных плат у год: сумы матэрыяльнай дапамогі, вартасць бясплатных або льготных пуцёвак і курсовак і іншыя сумы на мэты сацыяльнай абароны;

21) вартасць выдаваемых работнікам па месцы іх асноўнай работы бясплатна або на льготных умовах пуцёвак у дзіцячыя аздараўленчыя ўстановы, а таксама вартасць пуцёвак, аплачаных за кошт сродкаў сацыяльнага страхавання;

22) вартасць натуральнага забеспячэння, прадугледжанага адпаведным заканадаўствам, або сумы, якія выплачваюцца ўзамен гэтага забеспячэння;

23) грашовае забеспячэнне, сутачныя і іншыя сумы, якія атрымліваюцца па месцы службы (збораў) ваеннаслужачымі абавязковай тэрміновай ваеннай службы і ваеннаабавязанымі, прызванымі на вучэбныя і паверачныя зборы;

24) кампенсацыйныя выплаты ў грашовай і натуральнай форме ў памерах, якія ўстанаўліваюцца дзеючым заканадаўствам, за выключэннем кампенсацыі за нявыкарыстаны водпуск;

25) заработная плата і іншыя віды грашовых узнагароджанняў рабочых, служачых і прыроўненых да іх па падаткаабкладанню грамадзян у памеры месячнай мінімальнай заработнай платы, якія атрымліваюцца па месцы іх асноўнай работы (службы, вучобы);

26) даходы (акрамя ўказаных у падпункце 25 гэтага артыкула), якія не перавышаюць памеру месячнай мінімальнай заработнай платы, пры адсутнасці ў грамадзян месца асноўнай работы;

27) выхадныя дапамогі, якія выплачваюцца пры звальненні ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам;

28) сумы сродкаў, што бязвыплатна атрымліваюцца па месцы асноўнай работы ад прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый грамадзянамі, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, і выкарыстоўваюцца на набыццё, будаўніцтва жылля або былі накіраваны на пагашэнне крэдытаў, выкарыстаных на гэтыя мэты;

29) дапамогі па беспрацоўю;

30) заработная плата і іншыя віды грашовых узнагароджанняў рабочых, служачых і прыроўненых да іх па падаткаабкладанню грамадзян, якія атрымліваюцца па месцы іх асноўнай работы (службы, вучобы), у памеры месячнай мінімальнай заработнай платы на кожнае дзіця да 18 гадоў і кожнага ўтрыманца, а для грамадзян, якія выхоўваюць трох і больш дзяцей да 18 гадоў, — у памеры двух месячных мінімальных заработных плат на кожнае дзіця. Пры гэтым студэнты і навучэнцы, якія атрымліваюць стыпендыі, працаздольныя асобы, старэйшыя за 18 гадоў, якія не маюць самастойных крыніц даходаў, да дасягнення імі пенсіённага ўзросту ўтрыманцамі не з'яўляюцца.

Аналагічная льгота прадастаўляецца грамадзянам, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, па даходах ад гэтай дзейнасці пры адсутнасці ў іх іншага асноўнага месца работы;

31) сумы матэрыяльнай дапамогі, у тым ліку надбаўкі да пенсій, якія выплачваюцца прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі пенсіянерам, якія раней працавалі на гэтых прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях, у межах 20 мінімальных заработных плат у год;

32) сумы матэрыяльнай дапамогі, у тым ліку на льгатаванне пуцёвак і курсовак у санаторыі, пуцёвак у дзіцячыя аздараўленчыя ўстановы, якія выплачваюцца са сродкаў прафсаюзных арганізацый, у межах 20 мінімальных заработных плат у год.

**Артыкул 4. Ільготы па падатку для асобных катэгорый плацельшчыкаў**

1. Пры вылічэнні падаходнага падатку льгатуецца заработная плата і іншыя выплаты, звязаныя з выкананнем працоўных абавязкаў, і сумы даходаў ад заняцця прадпрымальніцкай дзейнасцю, выканання дагавораў грамадзянска-прававога характару, аўтарскія ўзнагароджанні ў памеры 10 мінімальных заработных плат у месяц (120 мінімальных памераў заработных плат у год) наступных катэгорый плацельшчыкаў:

а) асоб, якія захварэлі і перанеслі прамянёвую хваробу, выкліканую вынікамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;

б) асоб, якія прымалі ў 1986 — 1987 гадах удзел у работах па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у межах зоны эвакуацыі або былі занятыя ў гэты перыяд на эксплуатацыі або іншых работах на ўказанай станцыі (у тым ліку часова накіраваныя і камандзіраваныя), уключаючы ваеннаслужачых і ваеннаабавязаных, прызваных на спецыяльныя зборы і прыцягненых да выканання работ, звязаных з ліквідацыяй вынікаў дадзенай катастрофы;

в) Герояў Сацыялістычнай Працы, Герояў Савецкага Саюза, поўных кавалераў ордэнаў Славы, Працоўнай Славы;

г) удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, грамадзян, якія прымалі ўдзел у баявых дзеяннях па абароне Айчыны ў складзе дзеючай арміі (флоту), партызанскіх атрадаў і падполля, а таксама прымалі ўдзел у лакальных войнах і ваенных канфліктах на тэрыторыі іншых краін у складзе фарміраванняў і ў якасці спецыялістаў і саветнікаў Узброеных Сіл, Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР, Міністэрства ўнутраных спраў СССР, а таксама іншых асоб, прыроўненых па льготах да дадзенай катэгорыі згодна з артыкулам 21 Закона «Аб ветэранах»;

д) інвалідаў I і II групы ўсіх відаў інваліднасці;

е) грамадзян — па даходах ад здачы закупачным прадпрыемствам дзікарослых лекавых раслін, ягад, грыбоў, арэхаў, іншай дзікарослай прадукцыі.

2. Права грамадзян на льготы ўзнікае з моманту прадстаўлення адпаведных дакументаў, якія вызначаюцца Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 5. Устараненне двайнога падаткаабкладання**

Даходы, атрыманыя за мяжой асобамі, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, уключаюцца ў даходы, што падлягаюць падаткаабкладанню ў Рэспубліцы Беларусь. Пры гэтым сумы даходаў, атрыманыя ў замежнай валюце, пералічваюцца ў рублі па курсу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на дату атрымання даходу.

Сумы падаткаў, выплачаныя за мяжой у адпаведнасці з заканадаўствам замежных дзяржаў асобамі, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, — плацельшчыкамі падаходнага падатку ў Рэспубліцы Беларусь, залічваюцца пры выплаце імі падаходнага падатку ў Рэспубліцы Беларусь. Пры гэтым памер залічваемых сум падаткаў, выплачаных за мяжой, не можа перавышаць суму падатку, што падлягае выплаце ў Рэспубліцы Беларусь.

**Артыкул 6. Міжнародныя дагаворы**

Калі міжнародным дагаворам устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

### Глава II. ПАДАТКААБКЛАДАННЕ СУМ ЗАРАБОТКАЎ, ЯКІЯ АТРЫМЛІВАЮЦЬ ГРАМАДЗЯНЕ ЗА ВЫКАНАННЕ ІМІ ПРАЦОЎНЫХ АБАВЯЗКАЎ, І ПРЫРОЎНЕНЫХ ДА ІХ ДАХОДАЎ

**Артыкул 7. Катэгорыі плацельшчыкаў падатку і аб'екты падаткаабкладання**

У адпаведнасці з палажэннямі гэтай главы Закона прыцягваюцца да выплаты падатку:

а) рабочыя і служачыя — па сумах заработнай платы, прэміях і любых іншых узнагароджаннях і выплатах, звязаных з выкананнем імі працоўных абавязкаў, уключаючы даходы, што ўтвараюцца ў выніку прадастаўлення за кошт сродкаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый сваім работнікам матэрыяльных і сацыяльных даброт;

б) прыроўненыя па падаткаабкладанню да рабочых і служачых катэгорыі плацельшчыкаў:

члены калгасаў, кааператываў, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак і асобы, якія працуюць у іх па працоўных дагаворах, — па даходах, што выплачваюцца гэтымі калгасамі, кааператывамі і гаспадаркамі;

грамадзяне, якія працуюць на сумесных прадпрыемствах, у іх філіялах, аддзяленнях, прадстаўніцтвах і ва ўстановах, што ствараюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з удзелам замежных арганізацый, фірм і органаў кіравання, у міжнародных аб'яднаннях і арганізацыях, замежных фірмах, банках і іх прадстаўніцтвах, у замежных дыпламатычных, консульскіх і іншых афіцыйных прадстаўніцтвах замежных органаў сродкаў масавай інфармацыі, — па сумах заработнай платы, прэміях і іншых узнагароджаннях і выплатах, звязаных з выкананнем імі працоўных абавязкаў;

грамадзяне, якія працуюць па працоўнаму дагавору (пагадненню) у сялянскіх (фермерскіх) гаспадарках, у іншых прадпрымальнікаў і не маюць іншага (асноўнага) месца работы, — па сумах заработнай платы, прэміях і іншых узнагароджаннях і выплатах, звязаных з выкананнем імі дагаворных абавязацельстваў;

адвакаты — па сумах узнагароджанняў, якія атрымліваюцца імі за работу ў юрыдычных кансультацыях і аб'яднаннях;

грамадзяне, уключаючы свяшчэннаслужыцеляў, якія працуюць у рэлігійных арганізацыях, на прадпрыемствах, заснаваных рэлігійнымі арганізацыямі, а таксама ў створаных імі дабрачынных установах, — па даходах, што выплачваюцца гэтымі арганізацыямі, прадпрыемствамі і ўстановамі.

**Артыкул 8. Стаўкі падатку**

З даходаў, пералічаных у артыкуле 7 гэтага Закона, падаходны падатак бярэцца ў наступных памерах:

| Памер абкладаемага месячнага даходу | Сума падатку |
|---|---|
| 1. Да 10-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | 9% з сумы даходу |
| 2. Ад 10-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы + 1 руб. да 15-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 1 + 12% з сумы, якая перавышае 10-кратную месячную мінімальную заработную плату |
| 3. Ад 15-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы + 1 руб. да 20-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 2 + 15% з сумы, якая перавышае 15-кратную месячную мінімальную заработную плату |
| 4. Ад 20-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы + 1 руб. да 30-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 3 + 20% з сумы, якая перавышае 20-кратную месячную мінімальную заработную плату |
| 5. Ад 30-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы + 1 руб. да 60-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 4 + 25% з сумы, якая перавышае 30-кратную месячную мінімальную заработную плату |
| 6. Ад 60-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы + 1 руб. да 70-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 5 + 30% з сумы, якая перавышае 60-кратную месячную мінімальную заработную плату |
| 7. Ад 70-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы і вышэй | Сума падатку па пункту 6 + 50% з сумы, якая перавышае 70-кратную месячную мінімальную заработную плату. |

### Глава III. ПАДАТКААБКЛАДАННЕ ДАХОДАЎ, ЯКІЯ АТРЫМЛІВАЮЦЦА АД ВЫКАНАННЯ РАЗАВЫХ РАБОТ, І ІНШЫХ ВЫПЛАТ НЕ ПА МЕСЦЫ АСНОЎНАЙ РАБОТЫ

**Артыкул 9. Даходы, якія падлягаюць абкладанню падаткам, і стаўкі падатку. Парадак вылічэння і выплаты**

1. У адпаведнасці з палажэннем гэтай главы Закона падлягаюць падаткаабкладанню заробкі і іншыя даходы ў грашовай і натуральнай форме, што атрымліваюцца ад прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый грамадзянамі, якія не знаходзяцца у іх штатах, за выкананне разавых і іншых работ, што ажыццяўляюцца на падставе дагавораў грамадзянска-прававога характару, калі яны не носяць сістэматычнага характару, а таксама за работу па сумяшчальніцтву, узнагароджанні, прэміі, якія выплачваюцца не па месцы асноўнай работы.

Для мэт падаткаабкладання:

да разавых работ адносяцца работы кароткачасовага характару працягласцю не больш пяці дзён з разавай аплатай працы (незалежна ад колькасці такіх работ у каляндарным годзе);

да работ, якія ажыццяўляюцца на аснове дагавораў падраду і не носяць сістэматычнага характару, адносяцца работы працягласцю больш пяці дзён, але не больш двух месяцаў у каляндарным годзе.

2. Падатак з даходаў, указаных у гэтым артыкуле, бярэцца па стаўках, указаных у артыкуле 8, без прадастаўлення льгот, прадугледжаных пунктам 25 артыкула 3 гэтага Закона.

### Глава IV. ПАДАТКААБКЛАДАННЕ СУМ ДАХОДАЎ, ЯКІЯ АТРЫМЛІВАЮЦЬ ГРАМАДЗЯНЕ ЗА ВЫКАНАННЕ РАБОТ НА ПАДСТАВЕ ДАГАВОРАЎ ГРАМАДЗЯНСКА-ПРАВАВОГА ХАРАКТАРУ

**Артыкул 10. Парадак вылічэння і выплаты падатку**

1. Сумы, якія атрымліваюцца грамадзянамі ад выканання работ па дагаворах падраду і дагаворах грамадзянска-прававога характару, што носяць сістэматычны характар, абкладаюцца падаткам па стаўках артыкула 8 гэтага Закона зыходзячы з гадавога даходу і сум мінімальных заработных плат, якія склаліся ў разліку за год.

2. Падатак з указаных даходаў утрымліваецца непасрэдна па месцы выплаты даходу. Пры кожнай наступнай выплаце робіцца пераразлік падатку зыходзячы з агульнай сумы выплат у бягучым годзе.

3. Канчатковая сума падатку за год з даходаў, указаных у гэтай главе, вызначаецца падатковымі органамі на падставе паведамленняў суб'ектаў гаспадарання і (або) дэкларацый аб фактычным гадавым даходзе, якія прадстаўляюцца грамадзянамі штогод не пазней 15 лютага. Розніца паміж вылічанай на аснове гэтых паведамленняў і (або) дэкларацый гадавой сумай падатку і сумай, выплачанай на працягу года, падлягае выплаце або вяртанню не пазней 15 сакавіка.

4. Дэкларацыя аб такіх даходах не прадстаўляецца, калі даходы атрыманы ад аднаго суб'екта гаспадарання.

5. Штогод не пазней 1 лютага суб'екты гаспадарання, якія рабілі выплаты ўказаных даходаў, абавязаны прадстаўляць падатковым органам па месцы свайго знаходжання пісьмовыя звесткі аб выплачаных за мінулы год сумах грамадзянам з указаннем адрасоў іх пастаяннага месцажыхарства і аб утрыманых з гэтых даходаў сумах падатку.

Гэтыя звесткі падатковыя органы па месцы знаходжання суб'ектаў гаспадарання перасылаюць падатковым органам па месцы пастаяннага жыхарства атрымальнікаў даходу для ўліку ў мэтах правільнага і поўнага падаткаабкладання.

### Глава V. ПАДАТКААБКЛАДАННЕ СУМ АЎТАРСКІХ УЗНАГАРОДЖАННЯЎ

**Артыкул 11. Катэгорыі плацельшчыкаў падатку і аб'екты падаткаабкладання**

У парадку і памерах, прадугледжаных у гэтай главе Закона, прыцягваюцца да выплаты:

а) аўтары твораў навукі, літаратуры і мастацтва, іх правапераемнікі і наследнікі за стварэнне, выданне, выкананне або іншае выкарыстанне ці прадастаўленне права выкарыстання гэтых твораў — па сумах аўтарскага ўзнагароджання;

б) аўтары перакладаў твораў навукі, літаратуры і мастацтва, іх правапераемнікі і наследнікі — па сумах аўтарскага ўзнагароджання;

в) аўтары адкрыццяў, вынаходстваў, прамысловых узораў, карысных мадэлей і сартоў раслін, іх правапераемнікі і наследнікі — па сумах аўтарскага ўзнагароджання;

г) грамадзяне, якія ажыццяўляюць рэдагаванне і рэцэнзаванне твораў навукі, літаратуры і мастацтва, — па сумах аўтарскага ўзнагароджання за гэтыя віды работ;

д) іншыя грамадзяне, якія ў адпаведнасці з заканадаўствам аб аўтарскім праве атрымліваюць аўтарскае ўзнагароджанне, — па сумах аўтарскага ўзнагароджання.

**Артыкул 12. Парадак вылічэння і выплаты падатку**

1. Падатак з даходаў грамадзян, указаных у артыкуле 11, вылічваецца ў парадку, прадугледжаным у главе IV гэтага Закона, з улікам расходаў, звязаных з атрыманнем гэтых даходаў.

Парадак вызначэння такіх расходаў устанаўліваецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Пры наяўнасці дагавораў на стварэнне твораў навукі, літаратуры і мастацтва, на іх выданне, выкананне або іншае выкарыстанне ўзнагароджанні, якія выплачваюцца ў лік гэтых дагавораў авансам і абкладзеныя падаходным падаткам, пры канчатковым разліку падсумоўваюцца і размяркоўваюцца для мэт падаткаабкладання на колькасць гадоў дзеяння дагавора.

3. У такім жа парадку вылічваецца падатак з грамадзян, якія рэалізуюць створаныя імі творы жывапісу, скульптуры, графікі, іншых відаў мас-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

---

** У далейшым — грамадзяне.*

*** Не абкладаюцца падаткам даходы грамадзян ад рэалізацыі насення, гароднінных культур і саджанцаў пладовых дрэў дзяржаўным спецыялізаваным насенняводчым прадпрыемствам Рэспублікі Беларусь.*

# Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян»

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

тацтва і вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва музеям, арганізацыям Мастацкага фонду, а таксама праз выстаўкі-продажы, што спецыяльна засноўваюцца прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі, па даходах, якія атрымліваюцца ад указаных арганізацый або дырэкцый выставак.

4. З сум узнагароджанняў, якія выплачваюцца наследнікам аўтараў паўторна (неаднаразова), падатак бярэцца ў памеры 40 працэнтаў пры выплаце ўзнагароджання.

## Глава VI. ПАРАДАК ПАДАТКААБКЛАДАННЯ ДАХОДАЎ АД ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ І ІНШЫХ ДАХОДАЎ

**Артыкул 13. Катэгорыі плацельшчыкаў падатку і аб'ект падаткаабкладання**

1. Плацельшчыкамі па даходах ад прадпрымальніцкай дзейнасці з'яўляюцца грамадзяне, якія займаюцца самастойнай ініцыятыўнай дзейнасцю без утварэння юрыдычнай асобы па атрыманню асабістага даходу, а таксама грамадзяне, што маюць іншыя даходы, не пералічаныя ў артыкулах 7, 9, 10, 11 і 17 гэтага Закона.

2. Абкладаемым даходам лічыцца розніца паміж валавым даходам (у грашовай і натуральнай форме) і дакументальна пацверджанымі расходамі, звязанымі з атрыманнем даходу.

Склад расходаў, звязаных з атрыманнем даходу, вызначаецца ў парадку, які ўстанаўліваецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь або ўпаўнаважаным ім органам.

**Артыкул 14. Стаўкі падатку**

З даходаў, указаных у артыкуле 13 гэтага Закона, падаходны падатак бярэцца па стаўках артыкула 8 гэтага Закона зыходзячы з гадавога даходу і сум мінімальных заработных плат, якія склаліся ў разліку за год.

У выпадку рэгістрацыі грамадзяніна ў якасці прадпрымальніка без утварэння юрыдычнай асобы або спынення яго дзейнасці на працягу года шкала ставак карэкціруецца зыходзячы з фактычнай мінімальнай месячнай заработнай платы, якая склалася за адпаведны перыяд ажыццяўлення гэтай дзейнасці.

Абласныя і Мінскі гарадскі Саветы дэпутатаў або па іх даручэнню адпаведныя выканаўчыя і распарадчыя органы могуць устанаўліваць стаўкі падаходнага падатку ў цвёрдых сумах на даходы ад заняцця асобнымі відамі дзейнасці, пералік якіх вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15. Парадак вылічэння і выплаты падатку**

1. Грамадзяне, зарэгістраваныя ва ўстаноўленым парадку ў якасці прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы, самастойна вылічваюць і выплачваюць падаходны падатак штоквартальна нарастаючым вынікам з пачатку года не пазней 5—га чысла другога месяца, які ідзе за справаздачным кварталам.

Разлікі аб атрыманых даходах і суме падаходнага падатку, што падлягае выплаце, прадстаўляюцца імі ў падатковы орган па месцы свайго пастаяннага жыхарства не пазней 20—га чысла месяца, які ідзе за справаздачным кварталам.

Па заканчэнні года не пазней 15 лютага прадпрымальнікамі без утварэння юрыдычнай асобы, у тым ліку тымі, якія выплачваюць падаходны падатак у цвёрдых сумах, падаецца дэкларацыя аб фактычна атрыманых на працягу года даходах.

Пераразлік падаходнага падатку, выплачанага ў цвёрдых сумах, не праводзіцца.

2. Падатак з іншых даходаў, атрыманых грамадзянамі, неназванымі ў пункце 1 гэтага артыкула, вылічваецца па агульнаму гадавому даходу на падставе дэкларацый плацельшчыкаў аб фактычна атрыманых на працягу года даходах і іншых звестак аб даходах плацельшчыкаў.

Вылічэнне падатку з фактычнага даходу праводзіцца падатковым органам па месцы пастаяннага жыхарства плацельшчыка.

На працягу года ўказаныя плацельшчыкі штоквартальна ўносяць у бюджэт па 25 працэнтаў гадавой сумы падатку, вылічанай па магчымаму даходу, за выключэннем тых даходаў, па якіх падатак утрымліваецца ў крыніцы выплаты.

Для выплаты авансавых плацяжоў устанаўліваюцца наступныя тэрміны: 15 сакавіка, 15 мая, 15 жніўня, 15 лістапада.

Пры перавышэнні на працягу года даходу, зыходзячы з якога прад'яўлены авансавыя плацяжы, плацельшчыкі падатку абавязаны падаць у дзяржаўную падатковую інспекцыю дэкларацыю ў пяцідзённы тэрмін па сканчэнні месяца, у якім адбылося павелічэнне даходу.

Па заканчэнні года плацельшчыкі абавязаны не пазней 15 лютага падаць у падатковы орган па месцы пастаяннага жыхарства дэкларацыю аб агульнай суме даходу, атрыманай у мінулым годзе. Розніца паміж вылічанай на аснове гэтай дэкларацыі гадавой сумай падатку і выплачанай на працягу года (акрамя падаходнага падатку, выплачанага ў цвёрдай суме) падлягае выплаце або вяртанню плацельшчыку не пазней 15 сакавіка.

Пры атрыманні даходу на працягу года грамадзяне ў пяцідзённы тэрмін па сканчэнні першага месяца з дня атрымання даходу падаюць дэкларацыю, у якой указваюць памер фактычна атрыманага і памер магчымага даходу да канца года.

3. У выпадку спынення атрымання даходу на працягу года дэкларацыя аб атрыманых даходах павінна быць пададзена ў пяцідзённы тэрмін з моманту спынення атрымання даходу, а пераразлік падатку, спагнанне або вяртанне вылічаных сум праводзіцца ў пятнаццацідзённы тэрмін з дня прадстаўлення дэкларацыі падатковаму органу.

4. Пры выплаце на працягу года даходу (выручкі) прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі і грамадзянамі, зарэгістраванымі ў якасці прадпрымальнікаў, падатак утрымліваецца імі ў крыніцы выплаты даходу (выручкі). Пры кожнай наступнай выплаце праводзіцца пераразлік падатку зыходзячы з агульнай сумы даходу, выплачанай у бягучым годзе па дадзеным месцы выплаты. Не ўтрымліваецца ў крыніцы выплаты падатак з даходаў, якія выплачваюцца грамадзянам, пры прад'яўленні імі пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі ў якасці прадпрымальніка ў Рэспубліцы Беларусь.

Суб'екты гаспадарання абавязаны штоквартальна не пазней 15-га чысла месяца, які ідзе за справаздачным кварталам, прадстаўляць падатковым органам па месцы свайго знаходжання звесткі аб выплатах грамадзянам і ўтрыманых з іх сумах падатку.

5. Грамадзяне, якія атрымліваюць даходы, пералічаныя ў артыкулах 7, 9, 10, 11 і 13 гэтага Закона, за мяжой або з-за мяжы, прадстаўляюць дэкларацыю ў пятнаццацідзённы тэрмін пасля прыбыцця ці атрымання даходу. Падатак, вылічаны падатковым органам на аснове прадстаўленай дэкларацыі, падлягае выплаце ў месячны тэрмін з дня прадстаўлення дэкларацыі.

## Глава VII. ПАДАТКААБКЛАДАННЕ ДАХОДАЎ ЗАМЕЖНЫХ ГРАМАДЗЯН І АСОБ БЕЗ ГРАМАДЗЯНСТВА, ЯКІЯ ПАСТАЯННА АБО ЧАСОВА ПРАЖЫВАЮЦЬ НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 16. Падаткаабкладанне даходаў замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь**

Вызначэнне абкладаемага падаткам даходу і вылічэнне падаходнага падатку з замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія разглядаюцца як тыя, што пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, праводзіцца ў парадку і памерах, прадугледжаных гэтым Законам для абкладання падаходным падаткам аналагічных даходаў грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Даходы ўладальнікаў асабістых кампаній абкладаюцца падаткам у памерах, прадугледжаных артыкулам 14 гэтага Закона.

Указанні па прымяненню гэтага артыкула даюцца Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыяй пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 17. Падаткаабкладанне даходаў замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія часова пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь**

З сум выручкі, атрыманай на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і па даручэннях (даверанасцях) юрыдычных асоб (акрамя даходаў, указаных у главах II, III гэтага Закона), асобамі, якія часова пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, падатак утрымліваецца ў крыніцы выплаты гэтых сум або вылічваецца дзяржаўнай падатковай інспекцыяй па стаўцы 20 працэнтаў без прымянення льгот, устаноўленых гэтым Законам.

З даходаў, указаных у главах II, III гэтага Закона, падатак утрымліваецца па прыведзеных у іх стаўках.

## Глава VIII. АСАБЛІВАСЦІ ПАДАТКААБКЛАДАННЯ АСОБНЫХ ДАХОДАЎ

**Артыкул 18. Асаблівасці вылічэння падатку**

1. Сумы заработнай платы, выплачаныя прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі за работы працягласцю звыш аднаго месяца без выплаты за гэты перыяд штомесячна заработнай платы або з выплатай няпоўнай заработнай платы, размяркоўваюцца прапарцыянальна колькасці адпрацаваных месяцаў. У такім жа парадку ў галінах з сезонным характарам работ размяркоўваюцца для мэт падаткаабкладання прэміі, якія атрымліваюцца па заканчэнні сезона або года.

2. Сумы, якія атрымліваюцца грамадзянамі ў выглядзе дывідэндаў па акцыях, а таксама даходы, што атрымліваюцца імі ў выніку прыбытку (даходу) прадпрыемства, установы, арганізацыі прапарцыянальна долі іх паю ў статутным фондзе (маёмасці), абкладаюцца падаткам па стаўцы 15 працэнтаў пры налічэнні ўказаных сум.

3. З сум, якія выдаюцца прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі грамадзянам у выглядзе пазык, падатак вылічваецца ў парадку, прадугледжаным у артыкуле 10 гэтага Закона, і ўносіцца ў бюджэт за кошт сродкаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, за выключэннем фінансава-крэдытных устаноў, што выдаюць пазыкі грамадзянам, якія не працуюць у іх. Пасля пагашэння запазычанасці па пазыцы раней утрыманы падатак падлягае вяртанню прадпрыемству, арганізацыі або ўстанове, якія выдалі пазыку, за кошт вылічанага да выплаты падаходнага падатку.

4. Усе сумы даходаў, якія атрымліваюцца грамадзянамі ад прадпрыемстваў і арганізацый, што ліквідуюцца і рэарганізуюцца, у тым ліку сумы даходаў, якія налічваюцца грамадзянам у сувязі з рэалізацыяй маёмасці такіх прадпрыемстваў і арганізацый, абкладаюцца падаткам па сукупнасці з іншымі даходамі (заработкамі) таго месяца, у якім гэтыя даходы выплачваюцца, без размеркавання па месяцах.

## Глава IX. ПАРАДАК УТРЫМАННЯ І ПЕРАЛІЧЭННЯ ПАДАХОДНАГА ПАДАТКУ

**Артыкул 19. Парадак утрымання і пералічэння ў бюджэт падаходнага падатку**

1. Падаходны падатак з заработкаў і іншых даходаў у грашовай і натуральнай форме вылічваецца і ўтрымліваецца прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі, якія праводзяць выплаты (выдачу) заработкаў і іншых даходаў, і прадпрымальнікамі без утварэння юрыдычнай асобы.

2. Прадпрыемствы, установы, арганізацыі і прадпрымальнікі адначасова з атрыманнем ва ўстановах банка сродкаў на выплату належных грамадзянам сум пералічваюць у бюджэт сумы вылічанага падатку.

Суб'екты гаспадарання, якія выплачваюць заработную плату з выручкі ад рэалізацыі прадукцыі і аказання паслуг або выдаюць яе ў натуральнай форме, уносяць вылічаныя сумы падатку ва ўстановы банка на наступны дзень пасля выплаты (выдачы) заработнай платы.

3. Забараняецца выплата падатку з заработкаў і іншых даходаў грамадзян за кошт сродкаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных пунктам 3 артыкула 18 гэтага Закона.

Парушальнікі ўстаноўленага парадку выплаты падатку прыцягваюцца да адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры выплачаных сум падатку. Пры гэтым даход фізічных асоб, які падлягае падаткаабкладанню, павялічваецца на суму падатку, выплачанага крыніцай даходу.

4. У парадку, прадугледжаным гэтым артыкулам, праводзіцца ўтрыманне і пералічэнне ў бюджэт сум падатку прадпрымальнікамі без утварэння юрыдычнай асобы, якія выплачваюць заработную плату і іншыя даходы занятым у іх па найму рабочым і служачым.

5. Падаткі з даходаў, атрыманых у выглядзе дывідэндаў па акцыях і ў выніку размеркавання прыбытку (даходу) прапарцыянальна долі паю ў статутным фондзе (маёмасці), утрымліваюцца ў крыніцы выплаты і пералічваюцца ў даход бюджэту не пазней дня, што ідзе за тым, у якім былі налічаны дывідэнды і размеркаваны прыбытак (даход).

## Глава X. ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ВЫКАНАННЯ ГЭТАГА ЗАКОНА

**Артыкул 20. Абавязкі грамадзян, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый**

1. Грамадзяне, даходы якіх падлягаюць падаткаабкладанню ў адпаведнасці з гэтым Законам, абавязаны:

а) фізічныя асобы, якія займаюцца дзейнасцю, што не патрабуе абавязковай рэгістрацыі, а таксама якія атрымліваюць даходы не па месцы асноўнай работы, рэгістравацца ў якасці падаткаплацельшчыка ў падатковым органе па месцы свайго пражывання;

б) прадстаўляць у прадугледжаных гэтым Законам выпадках падатковым органам дэкларацыі аб даходах і расходах і іншыя неабходныя дакументы і звесткі, якія пацвярджаюць дакладнасць указаных у дэкларацыі даных, а таксама ўлічваць даходы, што падлягаюць падаткаабкладанню, і расходы, звязаныя з атрыманнем гэтых даходаў;

в) прад'яўляць, а ў адпаведных выпадках прадстаўляць дакументы, якія пацвярджаюць права на льготы па падатку;

г) своечасова і ў поўным памеры выплачваць у бюджэт сумы падатку, якія прад'яўляюцца падатковымі органамі;

д) дапускаць службовых асоб падатковых органаў у памяшканні, якія выкарыстоўваюцца для атрымання даходаў ці звязаны з утрыманнем аб'ектаў падаткаабкладання незалежна ад месца іх знаходжання.

Прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, вядуць бухгалтарскі ўлік у адпаведнасці з заканадаўствам. Форма ўліку вызначаецца Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыяй пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Прадпрыемствы, установы, арганізацыі і прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, абавязаны:

а) своечасова і правільна налічваць, утрымліваць і пералічваць у бюджэт сумы падаткаў з заработнай платы рабочых і служачых і іншых даходаў, якія падлягаюць падаткаабкладанню ў крыніцы выплаты;

б) своечасова прадстаўляць падатковым органам звесткі аб выплачаных імі грамадзянам даходах, якія падлягаюць падаткаабкладанню падатковымі органамі.

**Артыкул 21. Парадак утрымання і вяртання няправільна ўтрыманых сум падаткаў**

Своечасова не ўтрыманыя прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі сумы падатку з заработнай платы рабочых і служачых і іншых даходаў грамадзян, якія абкладаюцца памесячна, могуць быць утрыманы не больш чым за тры месяцы, а вяртанне залішне ўтрыманых сум падатку дапускаецца не больш чым за адзін год да выяўлення няправільнага ўтрымання.

Калі грамадзяне, падаткаабкладанне даходаў якіх ажыццяўляецца па дэкларацыі, своечасова не прыцягнуты да выплаты падатку ці няправільна абкладзены падаткам, то спагнанне ці вяртанне ім падатку праводзіцца не больш чым за адзін папярэдні справаздачны год.

Сумы падатку, не спагнаныя ў выніку ўхілення плацельшчыка ад падаткаабкладання, бяруцца за ўвесь час ухілення.

**Б.** ЗАКЛЮЧНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 22. Асаблівасці падаткаабкладання ў 1996 годзе**

Не распаўсюджваць на членаў калгасаў (сельскагаспадарчых фарміраванняў з калектыўнай формай уласнасці, утвораных на базе былых калгасаў у 1994 годзе) дзеянне главы II гэтага Закона.

Захаваць на 1996 год збіранне з калгасаў падаходнага падатку з фонду аплаты працы калгаснікаў, за мінусам неабкладаемай часткі фонду ў памеры адной мінімальнай заработнай платы на кожнага сярэднямесячнага работніка калгаса (сельскагаспадарчага фарміравання з калектыўнай формай уласнасці, утворанага на базе былых калгасаў).

Устанавіць стаўку падатку ў памеры 8 працэнтаў.

**Артыкул 23. Увядзенне Закона ў дзеянне**

Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 красавіка 1996 года».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь** **А. ЛУКАШЭНКА**

29 лютага 1996 г., г. Мінск. № 132-XIII.

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 108
# АБ УДАСКАНАЛЬВАННІ ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

У мэтах стымулявання вытворчасці і экспарту прадукцыі, удасканальвання знешнеэканамічнай дзейнасці **пастанаўляю:**

1. Адмяніць кватаванне і ліцэнзаванне пры экспарце нафты і нафтапрадуктаў (коды па Таварнай наменклатуры знешнеэканамічнай дзейнасці 2709, 271000, 271210, 2713).

Міністэрству знешніх эканамічных сувязей ва ўстаноўленым парадку ажыццяўляць рэгістрацыю кантрактаў пры экспарце нафты і нафтапрадуктаў (коды па Таварнай наменклатуры знешнеэканамічнай дзейнасці 2709, 271000, 271210, 2713), якія з'яўляюцца ўласнасцю Рэспублікі Беларусь.

2. Дазволіць:

без рэгістрацыі кантрактаў экспарт вуглевадароднай сыравіны — бензолу, стыролу, фенолу, аніліну (коды па Таварнай наменклатуры знешнеэканамічнай дзейнасці 290220, 290250000, 290711000, 292141000);

па-за ўстаноўленымі квотамі без ліцэнзій і рэгістрацыі кантрактаў па даручэнню ўласніка і па ўзгадненню з Беларускім дзяржаўным канцэрнам па вытворчасці хімічнай і нафтахімічнай прадукцыі вываз суб'ектамі гаспадарання — вытворцамі азотных і фосфарных угнаенняў гэтай прадукцыі, выробленай імі з сыравіны і матэрыялаў, што знаходзяцца ва ўласнасці заказчыка — нерэзідэнта рэспублікі.

3. Унесці ва ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь наступныя змяненні і дапаўненні:

3.1. Абзац сёмы пункта 7 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 лютага 1995 г. № 52 «Аб устанаўленні парадку рэгулявання экспартна-імпартных і валютных аперацый і павышэнні адказнасці за парушэнне заканадаўства ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995г.,№ 5, арт.98) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«за парушэнне ўстаноўленага парадку перамяшчэння тавараў праз мытную мяжу Рэспублікі Беларусь (адсутнасць ліцэнзіі, дазволу або рэгістрацыі кантракта пры ажыццяўленні знешнегандлёвай аперацыі) — у памеры кошту ўвозімых або вывозімых тавараў»;

3.2. ва Указе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 19 красавіка 1995 г. № 151 «Аб некаторых пытаннях мытнага рэгулявання» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 16, арт.358);

абзац дзесяты пункта 10 Часовага палажэння аб відах мытных рэжымаў у Рэспубліцы Беларусь пасля слоў: «мытнымі пошлінамі» дапоўніць словамі:»і падаткамі»;

абзац пяты пункта 5 Часовага палажэння аб мытных плацяжах у Рэспубліцы Беларусь пасля слоў:»Нацыянальнага банка» дапоўніць словамі:»Пры ўвозе ў Рэспубліку Беларусь камплектуючых, запасных частак, матэрыялаў і сыравіны, прызначаных для вырабу экспартнай прадукцыі, мытнымі органамі ў парадку, які вызначаецца Дзяржаўным мытным камітэтам па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў, прадастаўляецца адтэрміноўка выплаты мытных пошлін і падатку на дабаўленую вартасць, што збіраюцца пры ўвозе, да 6 месяцаў без выплаты працэнтаў. У выпадку вывазу гэтых тавараў у саставе гатовай прадукцыі ў названыя тэрміны або выкарыстання іх для вырабу экспартнай прадукцыі мытныя пошліны і падатак на дабаўленую вартасць не збіраюцца. Рашэнне аб прадастаўленні адтэрміноўкі выплаты ўвазных мытных пошлін і падатку на дабаўленую вартасць без выплаты працэнтаў пры ўвозе па дагаворах арэнды (лізінгу) тэхналагічнага абсталявання і транспартных сродкаў, акрамя легкавых аўтамабіляў, на тэрмін дзеяння заключаных дагавораў, але не звыш трох гадоў, прымаецца Дзяржаўным мытным камітэтам па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў»;

3.3. З абзаца пятага пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 мая 1995 г., №191 «Аб упарадкаванні распараджэння дзяржаўнай маёмасцю» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 15, арт.331) выключыць словы: «нафты і прадуктаў яе перапрацоўкі».

4. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухтыднёвы тэрмін:

зацвердзіць пералік вострадэфіцытных тавараў, па якіх вяртаюцца ўвазныя мытныя пошліны і падатак на дабаўленую вартасць, выплачаныя пры мытным афармленні, і вызначыць парадак вяртання гэтых плацяжоў. У выпадку вывазу тавараў, па якіх прадастаўлена льгота пры ўвозе ў адпаведнасці з названым пералікам, увазныя мытныя пошліны і падатак на дабаўленую вартасць не вяртаюцца, а ў выпадку вяртання - паўторна выплачваюцца ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку;

унесці Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб вызваленні субъектаў гаспадарання ад выплаты мытных пошлін і падатку на дабаўленую вартасць за рэчы, увезеныя на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь па кантрактах, плацяжы па якіх уносяцца за кошт замежных крэдытаў, выдадзеных пад урадавыя гарантыі, і бюджэтных пазык;

забяспечыць прывядзенне заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Указам.

5. Для спрашчэння мытных працэдур Дзяржаўнаму мытнаму камітэту ўвесці сістэму папярэдняга дэкларавання на падставе пашпарта здзелкі.

6. У мэтах садзейнічання руху тавараў беларускіх суб'ектаў гаспадарання на знешнія рынкі Міністэрству знешніх эканамічных сувязей стварыць фонд падтрымкі выставачнай дзейнасці за кошт добраахвотных узносаў суб'ектаў гаспадарання і сумесна з зацікаўленымі ў двухмесячны тэрмін прадставіць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь на зацвярджэнне палажэнне аб гэтым фондзе.

7. Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам з улікам мясцовых і галіновых асаблівасцей ажыццявіць мерапрыемствы па пашырэнню вытворчасці і экспарту прадукцыі.

8. Указ увесці ў дзеянне з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

19 сакавіка 1996 г., г.Мінск.

***АНОНС***

## ПРАМАЯ ЛІНІЯ

***Шаноўныя чытачы!***

***2 красавіка ў «Прамой лініі» на пытанні чытачоў газеты «Звязда» адкажа міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мікалаевіч РЫЖАНКОЎ.***

***Мы чакаем вашых званкоў з 15 да 17 гадзін вечара па тэлефонах: 32-38-92, 32-38-21.***

***Папярэдне пытанні задавайце па тэлефонах: 68-27-81, 68-29-68, 68-29-19, а таксама дасылайце па пошце.***

## ЗВАЛЬНЕННІ, НАЗНАЧЭННІ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў шэраг новых кадравых указаў.**

Бутэвіч Анатоль Іванавіч вызвалены ад пасады міністра культуры і друку ў сувязі з пераводам на іншую работу.

Цвяткоў Юрый Мікалаевіч і Стральчонак Юрый Сцяпанавіч назначаны намеснікамі міністра культуры.

Грыгораў Аляксандр Уладзіміравіч назначаны намеснікам міністра спорту і турызму.

**БЕЛТА.**

## ГЕНЕРАЛЬНЫЯ КОНСУЛЬСТВЫ ПЕРАЎТВОРАНЫ Ў ПАСОЛЬСТВЫ

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб пераўтварэнні генеральных консульстваў Рэспублікі Беларусь у Рыме, Бухарэсце, Гаазе і Таронта адпаведна ў Пасольствы Рэспублікі Беларусь у Італьянскай Рэспубліцы, Румыніі, Каралеўстве Нідэрландаў і ў Канадзе.

**БЕЛТА.**

# ЗАЯВА

## Беларускага рэспубліканскага і Мінскага навуковага аб'яднанняў «Гістарычныя веды»

У апошнія гады адбываецца ўсё больш актыўная палярызацыя прагрэсіўных і рэакцыйных сіл нашага грамадства. Рост класавых і сацыяльна-палітычных супярэчнасцей вядзе да падзелу грамадзян Рэспублікі Беларусь на прыхільнікаў савецкай улады, сацыялізму і прыхільнікаў капіталізму. Пасля таго як 25 жніўня 1991 года ў Беларусі пачаўся контррэвалюцыйны, антысавецкі пераварот, прыхільнікі капіталізму значна ўзмацнілі сваю актыўнасць. Яны сталі адкрыта ганіць і ганьбіць савецкую ўладу, якая збавіла іх бацькоў і дзядоў ад галечы і некультурнасці, а іх саміх зрабіла адукаванымі і матэрыяльна забяспечанымі людзьмі.

Усхваляючы капіталістычны лад, яго прыхільнікі сталі ўслаўляць спробу ўстанаўлення буржуазнай дзяржаўнасці ў Беларусі ў сакавіку 1918 года. 25 сакавіка 1993 г. прыхільнікі капіталізму адзначалі 75-годдзе ўяўнай «незалежнасці» буржуазнай, так званай Беларускай народнай рэспублікі (БНР), якая была абвешчана на акупіраванай германскімі захопнікамі частцы тэрыторыі Беларусі. Палітыка яе так званага ўрада вяла да поўнага падпарадкавання Беларусі кайзераўскай Германіі, ператварэння яе ў калонію германскага імперыялізму. Марыянетачны ўрад БНР існаваў толькі пры падтрымцы нямецка-кайзераўскіх, а потым польскіх акупантаў. Рэанімацыя ўрада БНР адбываецца да гэтага часу пад эгідай імперыялістычных колаў ЗША.

У сакавіку 1993 г. наша грамадская арганізацыя «Гістарычныя веды» апублікавала ў газетах артыкул «25 сакавіка: чыё гэта свята?», у якім быў растлумачаны класавы, антынародны сэнс такога юбілею, і яго святкаванне тады не набыло масавага характару.

У гэтым годзе прыхільнікі капіталізму робяць спробу арганізаваць 25 сакавіка святкаванне 78-й гадавіны «незалежнасці» БНР пад дэвізам «Дзень Волі-96».

Але якая ж і для каго існуе воля ў 1996 годзе? У выніку больш чым чатырохгадовай барацьбы контррэвалюцыі супраць савецкага, сацыялістычнага ладу адбылася небачаная ў гісторыі Беларусі дэградацыя эканомікі і культуры, у працоўных горада і вёскі катастрафічна знізіўся матэрыяльны ўзровень іх жыцця. У многіх сем'ях амаль увесь заробак ідзе на аплату кватэры. За кошт аграблення дзяржавы і працоўных мас узбагачаюцца капіталісты. Новы клас буржуазіі рвецца да ўлады. Яго прадстаўнікі або прыхільнікі ўзмацняюць свой уплыў у Вярхоўным Савеце.

Усхваленне мёртванароджанай і адданай імперыялістычным захопнікам БНР у наш час штурхае Беларусь на той жа шлях падпарадкавання інтарэсам транснацыянальных манаполій, сілам НАТО, страты нацыянальнай незалежнасці.

Працоўныя Беларусі не могуць святкаваць і ўшаноўваць юбілей БНР, як і іншыя юбілеі капіталістычнага ладу, сацыяльнага прыгнёту народных мас і страты нацыянальнай незалежнасці.

Заява абмеркавана і зацверджана на сумесным пасяджэнні бюро Беларускага рэспубліканскага і прэзідыума Мінскага навуковага аб'яднанняў «Гістарычныя веды».

**А. ЗАЛЕСКІ,**
**старшыня Беларускага рэспубліканскага аб'яднання «Гістарычныя веды», доктар гістарычных навук, прафесар;**
**У. ПАЛУЯН,**
**намеснікі старшыні рэспубліканскага аб'яднання: доктар гістарычных навук, прафесар;**
**К. ДАМАРАД,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт;**
**А. ХАХЛОЎ,**
**старшыня Мінскага навуковага аб'яднання «Гістарычныя веды», доктар гістарычных навук, прафесар;**
**М. БАГУШЭВІЧ,**
**намеснік старшыні Мінскага аб'яднання, кандыдат гістарычных навук, дацэнт;**
**І. СЁМКІН,**
**вучоны сакратар Мінскага аб'яднання.**

***Галоўнаму рэдактару газеты Звязда»***

*Просім Вас надрукаваць у Вашай газеце заяву Грамадзянскага Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта святкавання 78-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.*

**Дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Багданкевіч, А. Дабравольскі, М. Грыб.**

# ЗАЯВА

## Грамадзянскага Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта святкавання 78-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі

25 сакавіка спаўняецца 78 гадоў з таго вялікага, вызначальнага, дарагога кожнаму беларусу дня, калі ў далёкім 1918 годзе ў цяжкіх абставінах першай сусветнай вайны была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Закончыўся адзін этап нацыянальна-вызваленчага руху — змаганне за аднаўленне незалежнасці Беларусі. Пачалася стваральная праца над будаўніцтвам новай беларускай дзяржавы.

Але збег міжнародных абставінаў склаўся вельмі неспрыяльна для Беларусі. На ўсходзе і захадзе выспявалі жорсткія, варожыя беларускай незалежнасці таталітарныя рэжымы. Праз дзевяць месяцаў пасля акта 25 сакавіка Беларусь была акупіравана бальшавікамі. Аднак гэты акт усё ж прымусіў іх абвясціць БССР. У 1921 годзе Беларусь была падзелена паміж Расіяй і Польшчай. Наш народ перажыў ґенацыд, панёс велізарныя людскія, духоўныя і тэрытарыяльныя страты. Але справа 25 Сакавіка не памерла, бо нельга жыць без свабоды. Гэты дзень адчыніў народу вольны беларускі шлях.

З асаблівым энтузіязмам адзначала беларуская свабодная грамадскасць гэтую натхняльную дату пасля 25 жніўня 1991 года, калі, ідучы да свабоды ў рэчышчы агульных намаганняў усіх народаў былога СССР, Беларусь аднавіла сваю незалежнасць. Акт 25 Сакавіка — гэта не толькі слаўная гістарычная падзея, але і пуцяводная зорка на шляху будаўніцтва і ўмацавання беларускай дзяржавы, грунт у стваральнай працы ўсяго беларускага народа.

Мы, усе беларусы, усе грамадзяне нашае краіны, будзем заўсёды шанаваць гэтую вялікую дату. Асабліва важна гэта цяпер, калі над нашай краінай зноў згусціліся хмары небяспекі, узнікла пагроза нашай незалежнасці, культуры, нацыянальнаму існаванню.

Аргкамітэт заклікае грамадзян Беларусі, грамадскія, палітычныя, дзяржаўныя арганізацыі ўрачыста і з годнасцю адзначыць 78-я ўгодкі незалежнасці БНР. У шэрагу акцый плануецца правядзенне ў нядзелю, 24 сакавіка, масавага шэсця і мітынгу ў гонар акта 25 Сакавіка і ў абарону Канстытуцыі, законнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Шэсце пачнецца а 12-й гадзіне ад плошчы Незалежнасці да сквера і помніка Янку Купалу і потым да помніка Максіму Багдановічу.

Грамадскі Нацыянальны камітэт віншуе ўсіх грамадзян Беларусі са слаўнай датай незалежнасці БНР і 78-мі ўгодкамі вялікай падзеі. Зычым свабоды, дабра і натхнення ўсім людзям нашай краіны.

Жыве Беларусь!

**В. БЫКАЎ (старшыня), Р. БАРАДУЛІН, А. ГРЫЦКЕВІЧ, М. БІЧ, Г. КАРПЕНКА, М. ГРЫБ, А. ДАБРАВОЛЬСКІ, С. БАГДАНКЕВІЧ, П. ЗНАВЕЦ, І. СЯРЭДЗІЧ, Л. БАРШЧЭЎСКІ, І. ГЕРМЯНЧУК, В. МАЗЕЦ, Ю. БЕЛЕНЬКІ, Ю. ХАДЫКА, В. ВЯЧОРКА, В. АСТАШЫНСКІ, А. БЯЛЯЦКІ, В. СІЎЧЫК, А. МАРАЧКІН, С. ГУСАК, М. КУПАВА, М. АНЦЫПОВІЧ, І. САВЕРЧАНКА, С. НАВУМЧЫК, М. ЧАРНЯЎСКІ, З. ПАЗЬНЯК.**

## Асацыяцыя беларусаў у Аўстраліі віншуе з 78-мі ўгодкамі БНР

З далёкай Аўстраліі ад нашых суайчыннікаў у газету прыйшоў ліст, падпісаны генеральным сакратаром Асацыяцыі беларусаў спадаром Алесем Алехнікам. У ім пішацца: «Актам 25 сакавіка 1918 года Беларусь была абвешчана вольнай і незалежнай дзяржавай. Гэты акт з'явіўся яркім доказам таго, што, нягледзячы на ўсе неспрыяльныя гістарычныя ўмовы, наш народ не страціў прыроднае жаданне быць свабодным».

Дарэчы, на святкаванне 78-х угодкаў БНР да суайчыннікаў у Аўстралію днямі адпраўляюцца прадстаўнікі Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

**Т. АНТОНАВА.**

*СЕМ ЧЫСТЫХ*

# Васіль РАЗАНАЎ «САМОТНАЕ»

АДЗІН З КРЫТЫКАЎ пачатку стагоддзя напісаў аб яго лепшай кніжцы «Апалае лісце»: «З грэблівай грымасай адвернуцца ад шчырай спо-ведзі старога грэшніка сучаснікі. З суровым дакорам будуць успамінаць яго нашчадкі...» Артыкул называўся — «Гнілая душа».

Без пяці хвілін дванаццаць, стагоддзе заканчваецца. Усё становіцца на свае месцы. Васіль Разанаў вяртаецца да нас. Дакладней, да тых, каму яго не хапала.

Зусім нямногія разумелі маштаб яго звышскладанай, у вышэйшай ступені супярэчлівай асобы. «Літаратурны дар яго быў цудоўны, самы вялікі дар у рускай прозе. Гэта сапраўдная магія слова». Так сказаў Мікалай Бярдзяеў, сучаснік і таксама велічыня, супастаўная з Разанавым.

У Бярдзяева, дарэчы, лёс складваўся больш удала. Так, эміграцыя, адрыў ад Радзімы, ад «родных дамавін», але ў 70-я, 80-я гады ў асяроддзі дысідэнствуючай маскоўска-піцерскай інтэлігенцыі модным быў Бярдзяеў, а не Разанаў. Верагодна, тады час яго яшчэ не прыйшоў. Была патрэба ў паслядоўным выкрывальніку камунізму Бярдзяеве. Васіль Разанаў з яго крыху нярускім імкненнем да анціномій, да спроб агледзець з'яву з двух бакоў, не ўпісваўся.

Мы прывыклі да гранічнай вызначанасці: гэта белае, а гэта чорнае. Нам патрэбна яснасць. Мы не хочам заўважаць адценні, як, дарэчы, і чужое меркаванне. Нябожчык Хрушчоў адліў і прыпячатаў: «Ёсць маё меркаванне і няправільнае». Увогуле, можа, гэта і не яго словы. Але вышыць золатам на сцягах інтэлігенцыі гэтую фразу, думаю, варта. Калі нехта грэбуе, можна ўзяць з латыні: «Aut Caesar, aut nihil». Альбо Цэзар, альбо ніхто.

Разанаў так не лічыў...

●

У нас ён, канешне, быў забаронены. Філасофію і гісторыю замяняў «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)». Там была яснасць, якой так прагнулі многія. Думаць было неабавязкова, трэба было завучваць схаластычную абракадабру «лепшага сябра савецкіх філосафаў» з семінарскай адукацыяй.

Нелюбоў да яго бальшавікоў зразумелая. Але — парадокс — яго не прымалі тыя, каго можна лічыць аднадумцамі.

«Разанаў не вядзе і не можа нікога весці за сабою: проста таму, што фізічна немагчыма ісці зараз і налева, і направа», — пісаў Міхайлоўскі.

Прайшоў час, і фраза Міхайлоўскага здаецца сама меней меры смешнай. А чаму — трэба весці? Я не хачу, каб мяне вялі, я — не баран, я сам разбяруся, куды мне ісці. І, Божа мой, стагоддзе амаль мінула, а непаразуменні паміж Міхайлоўскім і Разанавым больш чым сучасныя.

Частка народа (што ў Расіі, што ў Беларусі) блакітна марыць аб правадыру, які павінен некуды «весці». Але правадыр, ці «поводырь» па-руску, — гэта ўсяго толькі, калі пакапацца ў семантыцы, чалавек, які водзіць за сабою сляпых. Рэальнасць: камуністы зноў прыходзяць да ўлады. Думаю, не таму, што ў іх ідэалы нехта верыць, проста — не хочацца думаць. Не прывучаны-с. Не ўмеем.

Другая частка народа (меншая) задумваецца вымушана. Прымус думаць дыктуецца бытам: чалавек, які валодае маёмасцю, павінен думаць, як яе захаваць і прымножыць. Яго мары практычныя і зямныя. Уражанне: імперыя спала летаргічным сном 70 гадоў, вось прачнулася — і ўсё знаходзіцца на сваіх месцах, супярэчнасці засталіся, спрэчкі не скончаны, кропкі не расстаўлены, усё пачынаем спачатку...

Народжаны ў 1856 годзе, Васіль Разанаў больш сучасны, чым многія і многія жывыя. Увогуле, тут яшчэ можна паразважаць аб катэгорыі смерці духоўнай: чалавек ходзіць, дыхае, гаворыць — на самай справе вы бачыце толькі кавалак мяса, у якім адбываюцца фізічна-хімічныя рэакцыі, не больш таго. Між іншым, думка — гэта, калі груба, таксама прадукт гэтых рэакцый. Калі вашы думкі жывуць доўга, то фактычна вы працягваеце існаваць. Нават на фізічным узроўні...

Я доўга баяўся, нават у размовах, выказваць адну даволі жорсткую выснову: нічога не зменіцца, пакуль не вымруць пакаленні, заражаныя міфам стагоддзя — камунізмам. Нядаўна такую ж думку выказаў акадэмік Ліхачоў. За яго аўтарытэтнай спінай можна асмеліцца. Вось я і кажу: нічога не зменіцца.

Што можна сказаць аб чалавеку, які ў адным выпадку піша: «Нацiск рэвалюцыі ёсць націск дзікасці і самай грубай азіяцкай элементарнасці, а не націск духу і вышыні. Рэвалюцыя ніколі не была сябрам філасофіі — гэта ніколі не трэба забываць. Яна заўсёды ішла варожа да паэзіі — гэта таксама факт. Увесь застой Расіі тлумачыцца таксама з рэвалюцыі... Без Чарнышэўскага і «Сучасніка» Расія мела б канстытуцыю ўжо ў 60-х гадах; без Жалябава, як «дабрадзея», яна мела б яе ў 1881 годзе» (Існуе легенда, што ў кішэні забітага Аляксандра II знаходзіўся праект канстытуцыі.)

І ў другім выпадку: «Усё, што робіцца ў спакойныя эпохі, выходзіць крыху ляніва, апатычна; усё, што робіцца сярод бяды, хвалявання, небяспечнасці, — выходзіць жывуча, моцна... Дзесяцігоддзі мы шкадавалі, абураліся, чаму канстытуцыя не дорыцца «своечасова» і «зверху»; але цяпер, здаецца, можна толькі дзякаваць Богу, што мы не атрымалі ў 81-м годзе мёртванароджанай лорыс-melікаўскай ці ігнацьеўскай канстытуцыі, што ўсё пайшло сваёй чаргой і да канца стары парадак, можна сказаць, «выбернў душу» ў японскай вайне...»

Напісана ў адным і тым годзе, праз нейкі інтэрвал, адным чалавекам. Адно выказванне абвяргае другое. Уважлівы чытач знойдзе ў тэкстах Разанава мноства падобных прыкладаў. І на першы погляд усё гэта цяжка звязаць у нешта цэлае. Нават шчодра разумны Пётр Струве не мог зразумець калегу.

Трэба адчуваць тую атмасферу канца аднаго стагоддзя і пачатку другога — яе можна адчуць праз літаратуру — калі пераважала аднабокасць думак, каб зразумець уразлівасць канцэпцыі Разанава. Ён быў чужым і для левых, і для правых. Большасць хацела рэвалюцыі, меншасць — не хацела, мэтр быў пасярэдзіне, якраз на «залатым сячэнні».

Зусім мала было людзей, якія маглі падняцца па-над саслоўным светапоглядам, як бы ўзняцца і цвяроза ацаніць, што філасофія Разанава ёсць адзіна карэктны і правільны метад мыслення.

Сярод гэтых нямногіх быў Карней Чукоўскі, якога савецкі народ ведае як дзіцячага пісьменніка (да рэвалюцыі ён быў вядомым літаратурным і мастацкім крытыкам, публіцыстам першага шэрага). Менавіта Чукоўскі заўважыў, што ў кнігах Разанава «як быццам не адно, а тысяча сэрцаў, і кожнае поўнае нейкім гарачым вінам, у кожным — гэты цудоўны «зялёны шум, вясенні шум».

●

Да канца зразумелым Васіль Разанаў мне стаў у дыялогу з уяўным «апанентам»:

«— Колькі можна мець меркаванняў, думак аб прадмеце?

— Колькі заўгодна... Колькі ёсць «думак» у самім прадмеце: бо няма прадмета без думкі, і бывае — без мноства ў сябе думак...

— Дзе ж тады ісціна?

— У паўнаце ўсіх думак. Разам. Са страхам выбраць адну. У ваганні.

— Няўжо ж ваганне — прынцып?

— Першы ў жыцці. Адзіны, які цвёрды. Той, якім цвіце ўсё, усё — жыве. Няхай наступіць устойлівасць — і свет закамянеў бы, заледзянеў».

Ну скажыце, маглі бальшавікі з ім змірыцца? Іх асноўная ідэя была — каб «свет закамянеў, заледзянеў». Якія, Божа, ваганні?

Вобразна кажучы, бальшавіцкая рука не вагалася на спускавым кручку, уганяючы кулю за куляй у патыліцы тых, хто «вагаўся». Тых, хто не прагнуў жыццёвай яснасці. І ўсведамляў, што яснасць і заканчанасць ёсць сінонім канца. Дзе няма сумненняў, там няма жыцця, там развіццё затухае і пануе смерць; спачатку духоўная, потым — фізічная...

●

Так здарылася — чыста выпадкова — што я чытаў Разанава праз невялікі час пасля Мантэня. Француз жыў за многія стагоддзі да рускага, але кідаецца ў вочы нейкая роднасць іх метадаў.

Мантэнь, калі можна так сказаць, быў бытавым філосафам. Не варта звяртаць увагу на шчодра раскіданыя па яго тэкстах цытаты з грэкаў і рымлян — Мантэнь ішоў ад жыцця, ад асабістых назіранняў, вопыту. Тое ж адчуваецца ў Разанава.

Ён не баяўся выстаўляць на ўсеагульны агляд сваё асабістае, чым многіх уводзіў у засмучэнне. Плоскаму «дыялектычнаму» мысленню ён проціпаставіў жыццёвае і парадаксальнае.

Гэта блізка і зразумела. Асабліва цяпер, калі ёсць празмерная стомленасць ад схемы. Нам (і гэта так ясна адчуваецца!) смяротна надакучыла аднамернасць, вечная праўда (каменная) адных і вечная ж няпраўда другіх.

Падсвядома чакаеш разнастайнасці. І не знаходзіш. Зноў спрабуюць засунуць у «бетонныя боты» адназначнасці. Хто? Вядома хто.

«П'яны шавец ды п'яны пан — уся Русь.

Цвярозы толькі чыноўнік, ды і то па неабходнасці. Ад цвярозасці ён неверагодна сумуе, злуецца на тых, хто да яго звяртаецца, і нічога не робіць», — тлумачыць нам Разанаў у «Перад Сахарнай».

Так што час Разанава — настаў. Не вельмі патрэбны сучаснікам, ён неабходны нам. Мы — тыя ж рускія, беларусы, украінцы, якія паспыталі камунізму. Тады яго не чулі і не хацелі чуць. Можа цяпер? Вось, слухайце:

«Як паправіць грэх грэхам — тэма рэвалюцыі. І той, хто папраўляе грэх, горшы за таго, каго папраўляюць».

А таму што — папраўляць грэх грэхам — значыць множыць іх да бясконцасці, да абсурду, да поўнага знішчэння цывілізацыі. Ад чаго мы зараз — у адным кроку.

●

«Што рабіць?» — спытаў нецярплівы пецярбургскі юнак. Як што рабіць: калі гэта лета — чысціць ягады і варыць варэнне; калі зіма — піць гарбату з гэтым варэннем».

Тут, канешне, ёсць элемент здзеку і я разумею — з каго. Тут бачыцца і глыбінны сэнс: хопіць ставіць пытанні, трэба проста працаваць. Такі заходні, рацыянальны падыход: жыві і радуйся, што жывеш. Гэта ў Разанава ад жыцця, чым ён выгадна адрозніваецца ад большасці сучаснікаў-схаластаў, беззапаветных «сістэматызатараў» усяго жывога.

Мне радасна, што пераважная большасць равеснікаў схіляецца да канцэпцыі Разанава. Не падазраючы, праўда, аб існаванні гэтага чалавека.

Разанаў памёр у 1919 годзе, паспеўшы пераканацца ў сваёй праўдзе: «грэх грэхам не паправіш» — усё роўна выходзіць грэх.

Я думаю, яму нецікава было б жыць далей. Ну, проста нічога новага чалавек, які зазірнуў праз стагоддзе непасрэдна ў нашы душы, не ўбачыў бы. У рэвалюцыі для яго нічога раднаснага не было. «І не будзе», — дадае ён у «Самотным». «Бітага посуду будзе шмат», але «новага збудавання не выбудуецца».

Гэта ён прадбачыў, а мы ў гэтым — пераканаліся...

●

«Заходняе жыццё рухаецца па законах лірыкі, наша дагэтуль — у формах эпасу; але некалі і мы ўвойдзем у формы лірыкі.

Пытанне Чарнышэўскага, пастаўленае ў загалоўку яго рамана, ёсць пытанне пераважна лірычнае, несвоечасовае; яму можа быць дадзены толькі бытавы адказ: «рабіць трэба тое, што рабілася ўчора».

Так хочацца лірыкі...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*ПРЭЗІДЭНЦКАЯ ВЕРТЫКАЛЬ: СПРАВЫ І ПРАБЛЕМЫ*

# САМЫ СУЧАСНЫ АПТЫМІСТ

## Штрыхі да партрэта старшыні Капыльскага райвыканкома Уладзіміра ЛУЦКАГА



**1** **У яго рабочым кабінеце** практычна ні на хвіліну не закрываюцца дзверы, не змаўкае тэлефон. І гэта зусім не выпадкова. Па-першае, нямала пытанняў да старшыні райвыканкома ў кіраўнікоў самых розных рангаў. Па-другое, шмат хто перакананы, што гаспадар кабінета ніколі не адмовіць у прыёме наведвальніку, а яго тэлефонны нумар, без перабольшання, ведае кожны жыхар Капыльшчыны. І калі ёсць у кагосьці патрэба — ідзе альбо тэлефануе напрамую...

Людзей, асабліва ў цяперашнім іх бядотным становішчы, як кажуць, не правядзеш. Адзін аднаго, а тым болей начальнікаў — яны бачаць, што называецца, наскрозь, і, натуральна ж, беспамылкова, пасля дзвюх-трох сустрэч ці літаральна праз некалькі месяцаў працы, «установяць» цану іх слоў і спраў. І, калі ты заслугоўваеш гэтага, да цябе пацягнуцца са сваімі пытаннямі, праблемамі, бедамі і горам — саслужыўцы, падначаленыя, знаёмыя і зусім незнаёмыя людзі.

Такую вось цягу да сябе заваяваў ці, дакладней кажучы, заслужыў старшыня Капыльскага раённага выканаўчага камітэта Уладзімір Луцкі.

**2** **Рабочы дзень старшыні** пачынаецца ў 8, а вельмі часта і ў 7 гадзін раніцы. З аднаго боку — прывычка, з другога — процьма неадкладных спраў і пытанняў. Капыляне ведаюць гэта, таму, як правіла, не прытрымліваючыся нейкіх там графікаў ды прыёмных гадзін, ідуць да Уладзіміра Міхайлавіча, што называецца, без папярэджанняў.

Аляксандр Маляўка ўзначальваў калгас «Праца». Нібы і стараўся, але... На агульным сходзе вяскоўцы выказалі Аляксандру Цімафеевічу недавер як старшыні праўлення. Прынамсі, далей і адступаць не было куды: запазычанасць гаспадаркі перад дзяржавай дасягнула 2 мільярдаў 37 мільёнаў рублёў. Не бачачы выйсця з тупіка, калгаснікі аднагалосна выказаліся за правядзенне рэфарміравання. На месцы калгаса стварылі акцыянернае таварыства «Капыльаграпраца», аб'яднаўшыся з райаграпрамзабеспячэннем. Дарэчы, гэта было другое рэфарміраванне гаспадаркі: крыху раней частку яе ўзяло пад сваё крыло аб'яднанне райаграпрамтэхнікі.

Кадрамі, аднак, на Капыльшчыне не раскідваюцца, і У. Луцкі запрасіў А. Маляўку да сябе на размову. Старшыня райвыканкома прапанаваў яму пасаду намесніка кіраўніка гаспадаркі па кормавытворчасці ў Цімкавічы.

— Спраў там, Цімафеевіч, табе хопіць, — сказаў яму Уладзімір Міхайлавіч.

— Яшчэ б, — па-свойму адрэагаваў той. — Кармоў у гаспадарцы ніколі не было і не скора яны там будуць...

— Будуць, — запярэчыў Луцкі. — Канюшыну і алейную рэдзьку трэба вырошчваць. А наогул, круціцца трэба зараз.

Пацiснулі адзін аднаму рукі, развіталіся.

...Зайшла жанчына, маладога яшчэ веку, прыветлівая. Мае трое дзяцей, муж сядзіць у турме. Жыве ў бацькавай хаце, а той... б'е дачку, здзекуецца, зневажае. Просіць: дайце хоць якое жыллё, але — асобнае.

— Валянціна Майсюк? — удакладніў Уладзімір Міхайлавіч. — Чуў я і пра вас, і пра вашага бацьку. Ніяк не мог паверыць, што чалавек можа так абыходзіцца з дачкой. Штонебудзь будзем думаць. Патэлефануйце мне тыдні праз два-тры...

...У Ларысы Рапінчук гора не меншае, калі не большае: яна — беспрацоўная. Два гады стаіць ужо на ўліку на біржы. Інжынер, мае вышэйшую адукацыю. Працавала ў калгасе «Прагрэс», ды не складліся адносіны з кіраўніцтвам. Пачаліся здзекі, ёй прапанавалі пайсці... аўтамеханікам. Уяўляеце: жанчына — аўтамеханік... Луцкі задумаўся, нешта прыкідваючы ў памяці.

— Зразумейце мяне правільна: не ведаю, што вам прапанаваць ці паабяцаць. Сёння на біржы зарэгістраваны 400 чалавек, з іх 350 — жанчыны. Вакансій для спецыялістаў ні ў горадзе, ні ў раёне няма ніякіх. Я выйду на кіраўніцтва «Прагрэса»: няўжо не ўладзім ваш канфлікт?!

Яшчэ адзін наведвальнік — на гэты раз з суседняга, Уздзенскага раёна. Прадстаўніца тамтэйшага масласырзавода просіць-моліць: дазвольце якой-небудзь з гаспадарак пастаўляць ім хоць бы дзве тоны малака на перапрацоўку. Завод гарантуе нават перадаплату.

Пытанне вырашылі — з выгадай для абодвух бакоў: капыльскага калгаса і ўздзенскага прадпрыемства.

**3** **Крыху больш чым год назад** спадчына У. Луцкаму дасталася, мякка кажучы, не з лепшых. Але Уладзімір Міхайлавіч з тых людзей і кіраўнікоў, хто не любіць (а, хутчэй за ўсё, проста не ўмее) ківаць на іншых, у дадзеным выпадку — на сваіх папярэднікаў. І правільна, на маю думку, робіць: усе мы разумныя, як кажуць у народзе, заднім чыслом.

Ён больш ахвотна можа расказаць пра тое, што ўжо паспеў зрабіць сам.

— Праблем і пытанняў тады, напрыканцы 1994-га, было больш чым дастаткова, — расказвае Луцкі. — Ды вы гэта, несумненна, памятаеце і самі. Брацца за ўсё было не тое што справай рызыкоўнай, а хутчэй за ўсё проста пагібельнай. Мы вызначылі для сябе некалькі галоўных накірункаў.

1995 год — з усімі на тое падставамі і довадамі — ён называе годам станаўлення і замацавання.

Найперш — станаўлення кадраў.

Улады на месцах — Уладзімір Міхайлавіч цвёрда перакананы ў гэтым і сёння — тады зусім не было. Кіраўнікі калгасаў і саўгасаў, сельскіх Саветаў, не кажучы ўжо пра брыгадзіраў, проста згубілі пачуцці адказнасці і меры. Усё навокал яны лічылі сваім, і, натуральна, дзейнічалі па прынцыпу: што хачу, тое і раблю. Вяскоўцы не тое што не верылі ім, а нават пабойваліся іх (ці не таму вясковых кіраўнікоў у нас пачыналі ўжо адназначна зваць «чырвонымі памешчыкамі»?!). Не ў мянушцы, натуральна ж, справа; проста дыскрэдытавалася літаральна ўсё: прынцыпы ўдзелу ў калектыўнай працы, размеркавання прыбытку, ды і чалавечыя годнасць і гонар зневажаліся, проста растоптваліся. І зусім не ў тым была закавыка, што тыя ж прынцыпы, скажам, называліся сацыялістычнымі, а звычайныя працаўнікі яшчэ зусім нядаўна з павагай насілі на грудзях ордэны і медалі, знакі лаўрэатаў і пераможцаў спаборніцтва... «Сакрэт» быў у іншым: кіраўнічы корпус проста стаў нахабным, адчуў беспакаранасць і ўсёдазволенасць... Безадказнасць, невыкананне абавязкаў, крадзеж — чаго толькі не было ў жыцці-быцці!

Змагацца з усім гэтым можна (і трэба было!) толькі адным: заменай кадраў — на ўсіх узроўнях і ўчастках.

Кадры на Капыльшчыне — і Луцкі сёння гаворыць пра гэта з добрымі ноткамі ў голасе — абнавілі на адну трэць. Прыйшлі новыя, маладыя энергічныя кіраўнікі, якія не толькі ўмеюць, але і хочуць працаваць. Памяняліся людзі, памяняліся і патрабаванні да іх.

— Цяперашнія кадры, — гаворыць Уладзімір Міхайлавіч, — надзелены ў нас вельмі вялікай уладай. Рэальнай уладай. Яе сёння хапае ўсім і кожнаму, і трэба толькі ўмела распарадзіцца ёй. Скажу больш: звыш сямідзесяці працэнтаў праблем і нявырашаных пытанняў у сельскай гаспадарцы можна вырашаць на месцах. Думаю, мы змаглі пераканаць у гэтым мясцовых кіраўнікоў.

Новыя людзі, як любіць называць іх старшыня райвыканкома, прыйшлі і ў апарат РВК. Прыйшлі не для таго, каб адседжвацца за спінай Луцкага, а быць побач — ва ўсіх справах і здзяйсненнях, калі трэба — дзейнічаць ягоным імем, а калі ёсць у тым патрэба ці вымагае таго сітуацыя — апярэджваць падзею, зводзіць яе негатыўныя вынікі да мінімуму і г. д. Жыццё — рэч разнастайная і шматгранная, на ўсе выпадкі яго рэкамендацый і інструкцый не назапасішся, таму людзям, надзеленым уладай, так часта даводзіцца дзейнічаць на свой страх і рызыку.

Хто з паплечнікаў Уладзіміра Міхайлавіча вызначаецца ў гэтым — дарэчы, вызначаецца на думку саміх жыхароў Капыльшчыны — дык гэта першы намеснік старшыні райвыканкома Станіслаў Чарнушэвіч і загадчыца аддзела культуры Ядвіга Пацэйка. У кожнага з іх багаты жыццёвы вопыт, вялікі стаж практычнай работы. І Станіслава Канстанцінавіча, і Ядвігу Васільеўну ведае ў твар ледзь не ўвесь раён, ды і самі яны пабывалі практычна ў кожнай вёсачцы Капыльшчыны. С. Чарнушэвіч на тое і ёсць першы намеснік, каб быць У. Луцкаму надзейнай апорай і дарадцам... А Я. Пацэйка наогул адважылася на рызыкоўную і, на першы погляд, зусім няўдзячную справу: узялася за адраджэнне капыльскіх традыцый — найперш у культуры, адпачынку, святах... І вось ужо летась, дзякуючы надзвычай вялікім намаганням Ядвігі Васільеўны, «успомнілі» тут, **што** такое свята ўраджаю — з яго віншаваннямі лепшых працаўнікоў, канцэртам, наогул весялосцю. І хоць на адзін дзянёк забыліся людзі пра жыццёвыя цяжкасці і нягоды, парадаваліся жыццю, удосталь павесяліліся. Дарэчы, падобных мерапрыемстваў — не дзеля «птушачкі», а дзеля справы і людзей — праведзена тут ужо нямала.

Аднак працэс замены кадраў на Капыльшчыне зусім не звялі да простай механічнай працэдуры так званага абнаўлення. Той, хто шчыраваў і шчыруе, ведае, куды і якім шляхам ісці, застаўся, што называецца, пры пасадзе, і, да гонару свайго і раённага кіраўніцтва, вядзе сёння справу калі не на «пяць» ці на «чатыры», дык, у крайнім выпадку, стабільна і надзейна. Сярод лепшых гаспадарак раёна за мінулы год калгасы «Семежава», «Бальшавік», «Авангард», «Новы свет», «Рассвет», якія ўзначальваюць (і ўжо даволі даўно!) Іван Малюжыц, Уладзімір Ткачоў, Уладзімір Майсейчык, Мар'ян Рубель, Анатоль Буцько.

**4** **Капыльскі раён,** як ужо адзначалася вышэй, сельскагаспадарчы. Натуральна, што праблемы вёскі ў штодзённай працы новага кіраўніка выканаўчай улады занялі самае што ні ёсць галоўнае месца.

— За пяць апошніх гадоў, — гаворыць У. Луцкі, — мы страцілі практычна ўвесь фізічны патэнцыял у раслінаводстве і жывёлагадоўлі. Так, летась у калгасах «Бальшавік» і «Авангард» здолелі яшчэ сабраць адпаведна па 40,2 і 35,8 цэнтнера збожжавых з кожнага гектара, а ў тым жа «Бальшавіку» і «Рассвеце» — па 200 цэнтнераў бульбы. Сям-там родзяць цукровыя буракі і караняплоды, лён і агароднiна, кукуруза і травы... Але ж яшчэ так нядаўна для Капыльшчыны ў цэлым такія паказчыкі былі ўсяго толькі сярэднестатыстычнымі. Сёння ж шмат дзе збіраюць з палёў па сутнасці тое, што сеюць... Ды, уласна кажучы, адкуль быць таму ўраджаю?! Калгасы і саўгасы ўносяць пад збожжавыя, бульбу і караняплоды ў дзесяць разоў (!) менш угнаенняў, чым раней. Плюс незахаванне аптымальных тэрмінаў сяўбы, дрэнны догляд пасеваў, несвоечасовая ўборка... І як вынік: летась мы недаатрымалі прадукцыі сельскагаспадарчай вытворчасці на 18 мільярдаў рублёў, што склала восем працэнтаў ад яе агульнага аб'ёму.

Гэткі малюнак у раслінаводстве. Нярадасны ён і ў жывёлагадоўлі. Рэзка скарацілася пагалоўе грамадскага статку, павялічыўся падзеж маладняку. Прывагі на адкорме таксама нікчэмныя. Ну а надоі малака... Зімой капыльскія рагулі даюць малака больш, чым... у летні пашавы перыяд.

Такім чынам, куды ні кінь — усюды клін. Але ж жыццё працягваецца, грамадства чакае ад сельскагаспадарчай вытворчасці калі не выхадаў на новыя вышыні і рубяжы, дык хаця б вяртання на ранейшыя пазіцыі, калі мяса і малака, садавіны і агародніны было на паліцах магазінаў дастаткова, добрай якасці і па прымальных цэнах.

Уладзімір Луцкі не патрабуе сёння ад кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў нейкіх там плюсаў-мінусаў адносна 1995 ці 1994 гадоў. Ён — і гэта ў дадзеных умовах абсалютна правільна — хоча аднаго: каб сельскагаспадарчая прадукцыя была рэнтабельнай, каб яе можна было сёння рэалізаваць.

— Прадукцыі жывёлагадоўлі, — сцвярджае Уладзімір Міхайлавіч, — цяпер патрэбна столькі, каб яе было дастаткова для поўнага аднаўлення цыкла вытворчасці ў той ці іншай гаспадарцы. Паўтары тысячы літраў малака ад каровы сёння не патрэбна абсалютна нікому. Трэба як мінімум дзве з паловай тысячы літраў: тады малако рэнтабельнае хоць бы на пяць працэнтаў...

Выйсце тут старшыня райвыканкома бачыць у адным: аднаўленні племяннай работы ў жывёлагадоўлі.

А ў прынцыпе, калі не далёкая «светлая» будучыня, дык, прынамсі, заўтрашні дзень вёскі выразна бачыцца на Капыльшчыне на прыкладзе саўгаса «Доктаравічы».

Быў час — прычым зусім недалёкі, — калі гэта гаспадарка ў прамым сэнсе слова карміла ледзь не палову беларускай сталіцы. Доктаравіцкія агуркі, памідоры, сталовыя буракі, зяляніна з'яўляліся на прылаўках мінскіх магазінаў практычна круглы год. А яшчэ тут умелі рабіць даволі прыстойны па якасці спірт, які таксама ішоў у сталіцу. Пасля меў месца заняпад: агародніну ў «Доктаравічах» ледзь не звялі, спіртзавод і цяпліцы — прыкрылі... І вось літаральна год-два назад, нягледзячы на дзяржаўную форму ўласнасці, у гаспадарцы знайшлі свой шлях да выжывання. Ініцыятарам тамтэйшых пераўтварэнняў стаў дырэктар саўгаса Леанід Снігір.

Абгрунтоўваючы разам са спецыялістамі гаспадаркі асноўныя напрамкі эканамічнай дзейнасці, Леанід Уладзіміравіч пастаянна трымаў у полі зроку рыначныя падыходы і патрабаванні. Вопытны, сталы спецыяліст сельскагаспадарчай вытворчасці, ён разумеў: разлічваць сёння можна і трэба толькі на саміх сябе. Ні раён, ні вобласць, ні які-небудзь добры «дзядзька» не дасць табе цяпер нейкіх паслабленняў, уступак, іншых спрыяльных прывілей. «Круціся, выжывай!» — іншыя «дэвізы» рынак ці нават рыначны сацыялізм наўрад ці прызнае...

Ужо летась кіраўніцтва саўгаса здолела вярнуць ранейшую славу доктаравіцкай агародніны. Пачалі мантаж свайго, уласнага завода па перапрацоўцы малака. У самых бліжэйшых планах-задумах Л. Снігіра — саўгасны каўбасны цэх, цэх па выпуску вінна-гарэлачных вырабаў. Саўгасныя рабочыя ўзяліся за аднаўленне мясцовых садоў. На цэнтральнай сядзібе маюць намер мець невялікую птушкаферму, перапрацоўчы і пашывачны цэхі...

А яшчэ ў «Доктаравічах» займаюцца ўласнай кадравай палітыкай. Мясцовыя настаўнікі ледзь ці не з пачатковых класаў пачынаюць прыглядацца да здольных дзетак, скіроўваць іхнія схільнасці і здольнасці да сельскагаспадарчых ведаў. Пасля атрымання атэстатаў сталасці саўгас ужо накіраваў некалькі выпускнікоў на вучобу ў вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы за кошт гаспадаркі. Леанід Снігір чакае іх вяртання з вялікім нецярпеннем і ніколькі не сумняваецца: у «Доктаравічы» прыйдуць кваліфікаваныя, адданыя сельскагаспадарчай вытворчасці спецыялісты.

Усё ж такі свае!

— З кадрамі трэба працаваць — заўсёды і ўсюды, — перакананы і Уладзімір Луцкі. — Мы маем рэестр спецыялістаў, ведаем патэнцыял кожнага з іх. І тых, хто здольны на добрую дзейнасць, будзем падтрымліваць, вылучаць, давяраць самыя адказныя ўчасткі вытворчасці.

**5** **Па натуры старшыня** Капыльскага райвыканкома — аптыміст. Але аптыміст рэальны, калі можна так сказаць, — заземлены. Ён сам у нястомным штодзённым пошуку, натхняе і заклікае да гэтага і іншых. Падначаленыя бачаць і разумеюць гэта. І ўсяляк імкнуцца дапамагчы Уладзіміру Міхайлавічу.

Летась на капыльскіх палетках прайшлі выпрабаванне галандскія гатункі бульбы. Нягледзячы на неспрыяльнае засушлівае лета, на асобных участках атрымалі да 600 цэнтнераў клубняў з кожнага гектара. Прадстаўнікі замежнай фірмы «Агрыка» засталіся задаволенымі вынікамі выпрабаванняў, і сёлета такая бульба зойме ўжо плошчу каля 600 гектараў. Акрамя паставак насення, тэхналагічнай дапамогі галандцы гарантуюць збыт прадукцыі. Дарэчы, на 1997 год яны маюць намер прапанаваць капылянам вырошчваць свой «другі хлеб» ажно на трохтысячнай плошчы.

— Галандская бульба, — гаворыць У. Луцкі, — будзе размешчана ў першую чаргу ў тых гаспадарках, у якіх слабая эканамічная і матэрыяльна-тэхнічная база. І вось чаму. Прадукцыя са стогектарнага бульбянога поля па акупнасці і валавому грашоваму даходу можа замяніць усю іншую гаспадарчую дзейнасць. Скажыце: **што** больш сёння трэба?!

Сапраўды: **што?!**

Уладзімір Міхайлавіч працягвае:

— Без дапамогі дзяржавы сельскай гаспадарцы сёння не абысціся. А з другога боку, гэта дапамога павінна быць канкрэтнай — пад нейкую праграму, план, задумку. Узяць крэдыт зараз можна без праблем — рублёвы, доларавы, у расійскіх грашах... А вось як ён будзе рэалізаваны, як гэтыя грошы будуць вернуты... І ці будуць вернуты наогул?! Беззваротных грошай больш быць не павінна. Таму і трэба неадкладна браць на ўзбраенне інтэнсіўныя заходнія тэхналогіі. Мы і бяром іх: па бульбе, жывёлагадоўлі, агародніне. Бяром не толькі ў Галандыі, а і ў Германіі, Англіі, Бельгіі. Замежныя спецыялісты ўжо пераканаліся: з намі можна супрацоўнічаць. І калі мы апраўдаем іх спадзяванні — будуць і ў нас набыткі. Сёння калгас «Рассвет» павінен спаборнічаць не з калгасам імя Леніна ці саўгасам «Доктаравічы», а з заходняй, той жа галандскай, фірмай «Агрыка»...

❑❑❑

**Ён верыць:** дзяржава можа і павінна ўзняцца з хаосу, бязладдзя. «Людзі хочуць і яшчэ ўмеюць працаваць», — перакананы У. Луцкі. І дадае:

— А вось кіруем мы імі пакуль што дрэнна...

Ну **што** тут я магу дадаць?!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

Капыльскі раён.

# ... Адзінае, што адпісваю табе, — гэта Любоў да краю роднага

***ПРЫСУТНАСЦЬ КОЖНАГА З НАС у свеце гэтым вызначаецца характарам, зместам зробленага. Тымі слядамі, што пакінуў чалавек на зямлі. Ёсць такія сляды, якія не сціраюць ні дождж, ні снег. Добрай памяццю пра пакінуўшага нас у месяц свайго нараджэння (8 сакавіка Яраславу Сільвестравічу споўнілася 66 гадоў) пісьменніка і краязнаўцу застаюцца кнігі. Яны — краязнаўча-дакументальныя расповяды пра Беларусь — і сапраўды ёсць сляды. Кнігі свае Яраслаў Сільвестравіч выхадзіў у дарогах, выпеставаў думкамі, выспеліў, вандруючы па ўсёй неабсяжнай і бясконцай Беларусі. Паслухайце назвы: «Жаваранак над полем», «Зямля бацькоў нашых», «Пад высокім сонцам», «Дарогамі надзеі і трывог», «Крыніца ёсць у родным краі», «Жальба жытняга коласа»... Хіба такое прыдумаеш у кабінетнай цішы?!***

***Апошнія гады пра плён краязнаўча-публіцыстычнай працы Яраслава Пархуты пачалі пісаць. І не столькі крытыкі, колькі ўдзячныя чытачы. У 1992 годзе за кнігу «Зямля бацькоў нашых» пісьменнік быў ушанаваны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь імя К.Каліноўскага. Некалькі месяцаў назад пашчасціла і мне пагутарыць з Яраславам Сільвестравічам. Задумалі зрабіць інтэрв'ю для «Звязды». Размаўлялі не адзін раз — сустракаліся і ў нас у рэдакцыі, і ў пісьменніка дома. Не здарылася б няшчасця — мы яшчэ разам дапрацоўвалі б гутарку. Але ж бяда прыйшла раптоўна — спакутаванае сэрца пісьменніка не вытрымала. Таму вось і прапаную ўвазе чытачоў толькі фрагменты з некалькіх нядаўніх дыялогаў.***



**— Яраслаў Сільвестравіч, вы бачылі розныя куточкі Беларусі. Вы можаце, адным поглядам акінуўшы ўсе ўражанні вонкавыя, лаканічна вызначыць, на што ж падобна наша Айчына?**

— На кляновы лісточак. І гэты вобраз не толькі з-за знешняга картаграфічнага падабенства. Сапраўды, абрысы Беларусі — як у лісточка. У восеньскага кляновага лісточка — і колераў шматаблічча. Краіна наша такая ж шматколерная, з ручаінкамі-рэкамі як жылачкамі на твары кляновіка. І трапяткая такая ж, дрыготкая Беларусь — як і лісточак увосень. На ветры яму неспакойна, у любую хвіліну магутны павеў можа сарваць лісточак з дрэва, выкінуць яго ў паветра, збіць у халодную калюжыну. Так і Беларусі, яе прыродзе — дрыготка, неспакойна, балюча-пякельна.

**— Экалагічныя бядоты нашай краіны — навідавоку. І не толькі Чарнобыль іх спарадзіў. Меліярацыя бяздумная, хімізацыя... Сёння мы атрымалі вынік — хворая прырода, фізічныя захворванні людзей, маральная занядбанасць грамадства. Можна маўкліва сузіраць усё гэта, вачыма і сэрцам фіксаваць працяг. Чакаць, што ж здарыцца заўтра. А можна і будзіць людзей ад сну. Пісьменнікі, публіцысты звычайна пра гэта і рупяцца. Зірнём на Расію — вядомыя выступленні Залыгіна, Распуціна. І на Украіне, у Малдове пісьменнікі не маўчалі. А што ж на Беларусі? Чый голас будзіць?..**

— Так, мо арганізацыйных выразных захадаў было і мала. Але ж не маўчалі і раней беларускія пісьменнікі. Адзін Анатоль Казловіч колькі зрабіў. Было б такіх дзесяць—дваццаць Казловічаў, то мо грамадства і зусім па-іншаму глядзела б на меліярацыю. Мо падлічылі б тады з большай стараннасцю, што ж набылі мы і што страцілі.

**АДСТУПЛЕННЕ ПЕРШАЕ.** *У 1989 годзе ў мінскім выдавецтве «Ураджай» пабачыла свет невялікая кніга Яраслава Пархуты «Дарогамі надзеі і трывог». У падзагалоўку яе: «Палескі дзённік». Першаштуршок да кнігі — ліст з Інстытута заалогіі, тады яшчэ АН БССР, які з 1 па 30 чэрвеня 1987 года праводзіў комплексную экспедыцыю па рэках Беларускага Палесся па маршруту Пінск—Мікашэвічы—Тураў—Петрыкаў—Мазыр—Нароўля—Чарнобыль—Лоеў—Гомель. Адна з задач экспедыцыі — абагульненне даных па гісторыі фауны Палесся, яе змен пад уздзеяннем меліярацыі і стварэння польдэрных сістэм у басейне Прыпяці, інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі... Інстытут папрасіў: камандзіраваць для ўдзелу ў экспедыцыі члена Саюза пісьменнікаў Я.С.Пархуту. З дня ў дзень занатоўваў на працягу месяца свае ўражанні Яраслаў Сільвестравіч. А яно ж — убачанае — было надзіва балючым. І сумнай атрымалася адна з высноў «Палескага дзённіка»: «...чалавек не цар прыроды, якому дазволена ўсё, а маленькая часцінка яе. І калі гэтая часцінка належным чынам будзе адпавядаць свайму прызначэнню, то і ўсё астатняе ў прыродзе будзе адпавядаць сваёй існасці».*

**— Яраслаў Сільвестравіч, і ўсё ж слабенькі, пагадзіцеся, голас чутны... Няма звону, няма набату...**

— Чарнобыль прымусіў заварушыцца. Пісьменнікі тут нашы раней абудзіліся, страпянуліся, чым маскоўскія і мясцовыя функцыянеры, якія ў адзін голас заяўлялі: «Чарнобыль — гэта глупства...» Быў і пленум пісьменніцкай арганізацыі, прысвечаны Чарнобылю, экалогіі і літаратуры.

Пісьменнікі — часцінка грамадства. І якая вакол экалагічная бездухоўнасць, такая ж яна як адлюстраванне і ў пісьменніцкім асяродку. Праблему бачу ў іншым — у стане грамадства, у ступені яго выхаванасці, у разуменні людзьмі, што ж значыць для нас прырода. І тут ужо размову трэба весці пра грамадскую педагогіку.

**— Яраслаў Сільвестравіч, мне здаецца, што сёння ўжо няма часу на нейкія далёкія падыходы, на вырашэнне звышзадач. Катастрафічная сітуацыя з экалагічным станам навакольнага асяроддзя патрабуе рашучых мераў...**

— Якраз шляхам рашучых мераў, з фармулёўкамі пра «курс» і пра «ажыццяўленне» мы прыйшлі да таго, што маем сёння. Любіць прыроду і Айчыну трэба ціха, без шматгалосных «запэўніванняў». І задача пісьменніка (а вы ўжо самі выбірайце фармулёўку — якая задача: сацыяльная, палітычная, грамадзянская) — навучыць любіць. Мне асабіста думаецца, што многа дзеля гэтага маглі б зрабіць пісьменнікі-анімалісты. Тыя літаратары, якія ведаюць прыроду, якія з замілаваннем пішуць пра жывёльны і раслінны свет. Такіх на Беларусі — адзінкі.

**— Сапраўды, іх — адзінкі. З апошніх прыкладаў — Васіль Жушма...**

— Так, яго аповесць пра вавёрку, надрукаваная ў «Маладосці» параўнальна нядаўна, — рэч выключная. У цывілізаваным свеце дзяржава, якая збіраецца выхоўваць здаровую будучыню, адразу б выдала гэтую кніжачку самым масавым тыражом. У кожную школу б яе, у кожны садочак накіраваць...

**— Дык вы бачыце ратаванне прыроды — у экалагічным выхаванні?**

— Не трэба рабіць ніякіх падзелаў. Прырода і духоўнасць грамадства ўзаемазвязаны. Навошта нам дзяліць бацькоўскае слова, пісьменніцкую працу ці іншы важкі клопат на экалагічнае ці якое б там ні было яшчэ выхаванне? Было ж ужо так — піянерскае выхаванне, героіка-патрыятычнае выхаванне. Іншая справа, што спакойна, ціха, без рытарычнасці лішняй трэба весці адно толькі патрыятычнае выхаванне. А гэта — і любоў да маці, і павага да жанчыны, і боль за прыроду, і любоў да Айчыны.

Я таму і ўзяўся за краязнаўчыя кніжкі. Ды вырашыў пісаць пра ўбачанае, а не пра тое, што занатавана ў архіўных паперах. Для мяне любоў да Айчыны — гэта вачыма адкрытае. Мне, як нядбайнаму сыну краю свайго, сорамна. Я ведаю, што зямля не даруе. І усё ж я іду да яе, каб вочы ў вочы адчуць усю глыбіню. Страшна кожны раз некага ці нешта губляць. Няўжо, часам задумваюся, і ў прыродзе спрацоўвае закон непазбежнасці? Мы ведаем, што рана ці позна пахаваем сваіх старэйшых блізкіх. Маркоцімся ад кожнай страты. А ў прыродзе... Знікае рэчка, губляецца шнурочак, што ўчора ратаваў нас у спёку. І гэта страшна — рачулка-шнурочак можа не вярнуцца зусім. А раптам, можа, — і клопат, вера ў першаснасць духоўнага пачатку даюць падставы спадзявацца — праз стагоддзі забруяе жывая вада, праб'е тое ж самае рэчышча? А колькі ж крыніц загублена. Вось на Магілёўшчыне ёсць вёска Палыпавічы. Там, дарэчы, дзед Лепяшынскага Панцеляймона Мікалаевіча быў архірэем. Тры царквы былі там. І чаму ў звычайнай вёсцы гэтулькі храмаў? А там жа ў падножжы гары выцякала крыніца. І вельмі ўжо жыватворнай вады была. Хадзіла легенда, што калі з тае крыніцы вадою засаліць агуркі, то сто гадоў будуць стаяць. Цяпер слязіцца-плача крынічка, закіданая смеццем усякім. Каму за гэта баліць галава?!

Архірэю — дзеду Лепяшынскага — балела. Так жа атрымліваецца? Унукам архірэяў, бальшавікам, ці балела галава? А нам, сённяшнім, ці баліць?..

**АДСТУПЛЕННЕ ДРУГОЕ.** *Яраслаў Пархута. «Пастамент». «Адпісаў бы табе зямлі. Але ў мяне, селяніна, адабралі яе і, знявечыўшы, засеялі чарнабыльнікам.*

*Адпісаў бы табе грошы. Але я існаваў з працы рук сваіх — не сабраў за жыццё і капейчыны.*

*Адпісаў бы табе храм. Але яго няма, а на руінах святыняў яшчэ правіць шабаш антыхрыст.*

*І таму адзінае, што адпісваю табе, — гэта любоў да краю роднага. Зберажы яе і перадай дзецям сваім. А дзеці няхай перададуць сваім дзецям. А тыя — сваім...*

*Тады мо ўсё і вернецца на кругі свая».*

**РАЗВІТВАЮЧЫСЯ ЎЧОРА З ЧАЛАВЕКАМ, які быў і застаецца для мяне высокім, у многім — недасягальным прыкладам шчырай, праніклівай працы ў імя Айчыны, у знак любові да яе, канешне ж, думаў пра тое, як нялёгка жылося Яраславу Сільвестравічу. Узгадваў і тое, што за апошнія гады пісьменнік перанёс некалькі інфарктаў. І заўсёды вяртаўся да жыцця. Гэтым разам не вярнуўся. Пайшоў у іншы шлях. Праўда, кіраваць намі, уплываць на нашы думкі будуць кнігі Яраслава Сільвестравіча. Сапраўдная бібліятэчка сапраўдных кніг пра Беларусь.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Міхася ХАМЦА.**

***«НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..»***

**Янка БРЫЛЬ**

# З ЛЮДЗЬМІ І САМ-НАСАМ

**Пад такою назвай у майскім нумары часопіса «Полымя» мае з'явіцца публікацыя маіх лірычных запісаў за некалькі апошніх гадоў, на актуальныя тэмы нашай сучаснасці. Вось некаторыя з іх.**

Гуга Калантай, славуты польскі асветнік XYIII стагоддзя, у сваёй працы «Стан асветы ў Польшчы ў апошнія гады ўладання Аўгуста III (1750—1764)» гаворыць такое:

«Пагарда чытачоў да літаратуры на польскай мове адбівала ў пісьменнікаў ахвоту ствараць карысныя творы або рабіць пераклады замежных твораў, і справа дайшла, нарэшце, да таго, што польская мова стала служыць толькі для казанняў, для рэлігійнага пісання, для панегірыкаў, для вясельных ці пахавальных прамоў, для прамоў на сеймах і сейміках і зрэдку можна было ўбачыць вельмі дрэнныя пераклады на польскую мову замежных твораў».

Такі вынік моды на лацінскую, а пасля на французскую мовы.

Як гэта падобна на тое, што ў нас робіцца цяпер! Праўда... на дзвесце з гакам гадоў раней. Калі быў вялікі паэт Ян Каханоўскі, калі ўжо можна было прадчуваць з'яўленне яшчэ большых — Адама Міцкевіча і Юліюша Славацкага.

* * *

Як яна ў нас далёка, шырока, грунтоўна зайшла — савецкая русіфікацыя!..

Канцэрт па заяўках, па радыё мноства імён, назвы вёсак, раёнаў, а песні просяць перадаваць больш, чым у пераважнай колькасці, рускія. Дыктары па службе з намаганнем, з накульгваннем беларушчаць і сваё, і цытуючы з пісьмаў, а вершыкі, радкоў чатыры ці трохі больш, альбомная шырпатрэбшчына або хатняе самапляценне, даецца абавязкова парýску.

На колькі пакаленняў разлічана яно, наша беднае адраджэнне? Ды яшчэ пры нашай нацыянальнай энергіі...

* * *

Слухаючы выступленні таго ці іншага з нашых высокіх і найвышэйшых начальнікаў, не аднойчы думалася:

Ім нібыта здаецца — усё тое, што зроблена і робіцца (развал, інфляцыя і іншае) — не яны зрабілі і робяць, а само па сабе зрабілася ці робіцца далей... Яны толькі канстатуюць гэта, паведамляюць пра яго, як пра нейкую верхнюю волю, вышэйшую яшчэ і за іх.

* * *

На пасяджэнні рады Саюза пісьменнікаў, паколькі прынялі ў Саюз адразу двух беларускіх піцерцаў, Валянціна Грыцкевіча і Анатоля Кірвеля, жартавалася так, што можа ўжо там, у «горадзе над Нявой», адкрываць не проста аддзяленне нашага Саюза, але зноў суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца», — каб зноў, праз дзевяноста гадоў, закручваць справу сваю ад пачатку.

* * *

Кнігу Мікалая Рэрыха «Зажигайце сердца» думаў чытаць падрад, аднак неўзабаве пацягнула на выбарачнае чытанне, тых мясцін — як гэта ні дзіўна для яго, для гэтай высакароднай сям'і — дзе менш звышпатрыятызму. З далёкіх ды высокіх Гімалаяў расчульвацца тым, што рускія, маўляў, ніколі не былі шавіністамі... Такога нельга дараваць і Рэрыху. Або і такога таксама — у вялікія сыны Расіі амаль з аднолькавым пафасам уключаць і сусветна вялікага Льва Талстога, і кацярынінскага пагромшчыка Пугачова і Касцюшкі — Суворава...

* * *

З трыбуны апошняга ўсесаюзнага пісьменніцкага з'езда, з найвышэйшай, з крамлёўскай трыбуны таленавіты празаік Васілій Бялоў сказаў, што яму, як рускаму, зусім не патрэбна, каб была адна толькі мова для ўсіх, — «это было бы очень скучно...»

* * *

Па радыё — поп пра нашу Ефрасінню Полацкую, што яна не беларуска, бо маці яе з нарманаў, так сказаць, варажка.

А ўчора, па тэлевізары, віншуючы мінчан з пяцідзесяцігоддзем вызвалення ад фашысцкай акупацыі, другі баця барадата даводзіў, што «раньше была Русь, которая называлась СССР, и опять будет Русь, единая и неделимая».

* * *

Намагаючыся шукаць і знаходзіць для пераймання штосьці новае, супернавае ў сваёй і сусветнай літаратуры, мы рызыкуем выглядаць наіўнымі правінцыяламі, калі не міжвольнымі плагіятарамі, дык смешнымі адкрывальнікамі амерык і вынаходнікамі веласіпедаў.

Прасцей, разумней, мэтазгодней быць кожнаму самім сабой, прапускаць сваё бачанне свету праз сэрца, думаючы не пра навізну, а пра шчырасць, якая адна можа ў той ці іншай меры гарантаваць нашу непаўторнасць, пэўнае папаўненне агульналюдскай скарбонкі вечных вартасцей.

* * *

У нас не было многа багатых, адукаваных людзей, якія мелі шмат вольнага часу і для вучобы, і для творчасці, і для пазнавання свету ў падарожжах.

У нас толькі фальклор багаты, у які таленавітыя людзі з беднага, бяспраўнага народа ад гора ці ад радасці заганялі сваю таленавітасць — песнямі, казкамі, прыказкамі, жартамі — у народную памяць, у якой тое багацце праходзіла адбор, прасейванне ў пакаленнях іншых самародных талентаў — таксама безыменных.

* * *

Выпадкова сустрэўся на выдавецкай лесвіцы з Валодзем Васілеўскім, і ён расказаў мне пра сваю радасць. Выняў з папкі тоўстую, на ўвесь захоп жменяй, карэктуру новай кнігі. Зноў родны фальклор, першы том трохтомніка.

У акадэмічную серыю «Беларуская народная творчасць» гэта не ўдалося падключыць — па ўсеагульнай нашай прычыне: грошай няма, — ідзе трохтомнік у «Мастацкай літаратуры». Калі выйдзе — богведама, але ж ідзе! Гэтым свяціліся вочы аднаго з нашых руплíўцаў.

А мне — ужо дома — светла ўявілася, як ён будзе чытаць сваю вялікую і нялёгкую карэктуру. Праца цяжкая дый радасная, як ворыва, як малацьба.

* * *

Прэтэнзіі значна большыя, чым на годны ўдзел у вырашальных гістарычных падзеях — пад Грунвальдам, пад Оршай, — прэтэнзіі на беларускасць Касцюшкі ці Міцкевіча — раздражняюць і засмучаюць, вельмі падобна на «збеларушчванне», крыўлянне на «беларускі лад» песняў суседскіх, рускіх, украінскіх, польскіх, слухаючы якія бывае і сорамна, і балюча. Ад сведчання нашай беднасці, а можа, больш — нашага жабрацтва пры наяўнасці сваіх нацыянальных багаццяў.

* * *

Як нечакана і як прыемна было заўважыць у гушчары дваццатага тома поўнага, трыццацітомнага збору твораў Дастаеўскага, на старонцы 219, выказванне, якое, чаго добрага, упершыню будзе перакладзена на нашу мову:

«Усякая здаровая і зямная сіла верыць у самую сябе і ў сваю праўду, і гэта найпершая адзнака здароўя народнага. Гэтая народная вера ў сябе і ва ўласныя сілы — зусім не застой, а, наадварот, залог жыццёвасці і энергіі жыцця і аніяк не выключае прагрэсу і вялікага поспеху. Без гэтай веры ў саміх сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі».

Будзем жа верыць — і выстаім, і выратуемся, як свабодны народ!

**Іван ВАШКЕВІЧ**

* * *

Над маёй Беларуссю —
Я і Хрыстос!
А навокал аблокі
З гора і слёз,
Продкаў душы навокал раямі,
Неадмоленыя, неаплаканыя,
На той свет
Не адпушчаны намі.
Беларусь, Беларусь!
Ты на ногі устань!
Свой хрыбет надламаны
выпрастай,
Гаспадарна, ладна
Дзяржаваю стань,
З воляй боскай адолей
антыхрыста!
Адбудуй свае храмы,
Царкоўкі, капліцы,
Каб было дзе маліцца
І з Сусветам радніцца.
Можа, трэба яшчэ раз
Нам усім ахрысціцца?
Беларусь, Беларусь!
Ты на ногі устань!
Гаспадарна, уладна
Дзяржаваю стань!

***ЦЫТАТА РУБРЫКІ:***

**«НАРОДЗЕ БЕЛАРУСІ І ЎСЕ НАРОДЫ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ!**

***Слухай голасу тваіх прадстаўнікоў, што працуюць тваім імянем і дзеля твайго шчасця. Шмат сотняў гадоў панавалі на Беларусі чужынцы, а працоўны народ наш гібеў у здзеку, няволі і цемнаце. Бесканечныя войны палівалі нашую старонку рэкамі крыві, а звадкі між народамі і верамі ў самой Беларусі атручвалі дух народны, знішчалі ўсе здабыткі культуры і не давалі тварыцца новым. Аж зразумелі ўрэшце лепшыя сыны Беларусі, што прычына ўсіх няшчасцяў — гэта палітычны заняпад народу Беларускага, яго няволя і пакора, і прагалосілі яны на ўсю Беларусь, што павінен устаць Беларускі народ, скінуць путы няволі і з парабка гаспадаром зрабіцца на сваёй зямлі... Перад сьвітаннем новага дня, які суліць нашай Бацькаўшчыне культурны росквіт і дзяржаўную незалежнасць, павінны абудзіцца ўсе жывыя дэмакратычныя сілы Беларусі».***

*(З Граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 28.11.1918 г.)*

***Вядучы рубрыкі***
***Анатоль ВЯРЦІНСКІ.***

## ПЕНСІЯНЕРЫ, ПРЫХОДЗЬЦЕ ЗАЎТРА...

**Жыццё зараз такое, што кожны стары чалавек, які пераступіў пэўны ўзрост, міжволі задумваецца пра ўласную смерць. Наўрад ці гэтыя людзі імкнуцца хутчэй памерці, імі хутчэй кіруе куды больш прагматычны разлік — колькі будзе каштаваць уласнае пахаванне.**

Напрыклад, самая танная труна ў Віцебскім пахавальным бюро каштуе зараз паўмільёна рублёў. Для параўнання: гэта ўдвая больш, чым памер мінімальнай пенсіі па старасці ў лютым. Але нават гэтыя крохі людзям атрымаць без «бою» не ўдаецца: у шматлікіх аддзяленнях сувязі і сёння яшчэ вісіць таблічка: «Пенсіі выдаюцца толькі за люты». Між тым пенсіянераў у Віцебску амаль 70 тысяч чалавек, ці кожны пяты жыхар. Інфляцыя з'ядае апошнія зберажэнні ветэранаў, уключаючы нават сродкі на ўласнае пахаванне.

Не адстаюць у аблапошванні старых і шматлікія спрытнюгі, якія карыстаюцца натуральным жаданнем людзей хоць неяк выратаваць нажытае. Так, каля 600 віцяблян «клюнулі» на абяцанкі кампаніі «Белінкантраст» падвоіць за квартал суму аддадзеных ім грошай. З панчох і ашчадных кніжак такім чынам у даверлівых гараджан было выцягнута больш за 1 мільярд рублёў. Рэспубліканскае радыё заклікала пацярпеўшых пісаць і званіць у ліквідацыйную камісію «Белінкантраста». Але яе супрацоўнікі не хаваюць ад старых: празвоніце вы, бадай, больш за тое, што вам выдадуць з астаткаў капіталу кампаніі.

Яшчэ 12 тысяч віцяблян дарэмна губляюць час, шукаючы філіял Першага рэспубліканскага інвестфонду, каб вярнуць свае чэкі «Маёмасць». Пенсіянеры тэлефануюць сувязістам, ва ўпраўленне сацыяльнай абароны аблвыканкома, са слязамі ідуць у высокія кабінеты. Са старымі ахвотна згаджаюцца, спачуваюць, але воз і сёння там...

**Аляксандр ТУЛБУСАЎ.**

## ВЕРА І НАДЗЕЯ — АСНОВА ЖЫЦЦЯ

**Рызыкуючы выклікаць у свой адрас раздражнёныя папрокі пэўнай часткі грамадства, усё ж скажу, што, на маю думку, пасля вядомых падзей, звязаных з ліквідацыяй Саюза, асноўнай палітычнай сілай — «усур'ёз і надоўга» — сталі (прынамсі, у нашай краіне) не, не камуністы, не дэмакраты, а... пенсіянеры.**

Дакладней, не сілай, а своеасаблівым таранам, прыкрыўшыся і карыстаючыся якім (састарэлыя людзі ў большасці сваёй гэтага не разумеюць), можна дасягнуць пэўных поспехаў у палітыцы, грамадскім жыцці. Дастаткова толькі паабяцаць не забывацца аб надзённых праблемах гэтай часткі насельніцтва. А яны павераць і будуць верыць нават тады, калі само жыццё будзе красамоўна абвяргаць усе абяцанкі-цацанкі. Будуць верыць, таму што ў гэтай веры — усё іх жыццё, усе духоўныя і матэрыяльныя здабыткі, надзея на паляпшэнне. Ці не таму падчас выбараў ля скрынак для галасавання кожны раз мы бачым у першых радах адныя і тыя ж твары састарэлых людзей? Яны ўжо ўсё страцілі, але ўвесь час тлее думка: а раптам? Лаюць улады, чыноўнікаў, увесь белы свет — і вераць...

Мая маці, Ядвіга Канстанцінаўна, адпрацавала на дзяржаву 36 гадоў простай рабочай на фабрыцы, потым у аэрапорце. У яе працоўнай кніжцы ў графе «Звесткі аб заахвочваннях» няма свабоднага месца ад запісаў накшталт: «За перавыкананне ў працы абавязкаў у гонар 45-й гадавіны Кастрычніка прэміраваць 7 рублямі» (1962 год), «За добрыя тэхніка-эканамічныя паказчыкі і ў гонар свята 8 Сакавіка прэміраваць 3 руб. 50 кап.» (1964 год), «За высокія паказчыкі ў спаборніцтве ў гонар 50-годдзя Вялікага Кастрычніка прэміравана 15 рублямі» (1967 год), «У гонар 50-годдзя БССР і за датэрміновае выкананне плана 3-га года пяцігодкі прэміравана 25 рублямі» (1968 год) і гэтак далей...

Некалькі апошніх гадоў яна свядома шукала больш аплатную працу, каб мець большую пенсію. І смех і грэх: калі ў мінулым годзе прыйшоў час ісці на адпачынак, яна чамусьці яшчэ працавала некалькі месяцаў, хаця, як сама гаварыла, у іх калектыве чалавека адпраўлялі на пенсію літаральна на другі дзень пасля юбілею. Усё высветлілася значна пазней. Гэты час маці баранілася імем... сына-журналіста. Нават калі яе выклікалі ў кабінет да вышэйшага кіраўніцтва і прымусілі напісаць заяву на звальненне, яна ўсё роўна выгадала... яшчэ два тыдні...

Зараз атрымлівае 533 тысячы рублёў пенсіі і лічыцца, як у нас кажуць, «багатыркай» — іншыя атрымліваюць значна менш. Але нават гэтыя грошы можна атрымаць праз два тыдні пасля прызначанай даты. Што датычыцца ўкладаў... На сённяшні дзень тых грошай, што былі пакладзены сям'ёй яшчэ ў 1986—1990 гадах (з улікам шматлікіх індэксацый, кампенсацый), ледзь хопіць на набыццё трох пачкаў больш-менш прыстойных цыгарэт. Але якія б навіны ні прыходзілі са сталіцы, што б ні пісалі і ні гаварылі, маці верыць, што прыйдзе той час, калі ўсё вернуць, калі жыць стане лепш. Зрэшты, магчыма, так і павінна быць. Гэтая вера будзе жыць, пакуль жывуць нашыя бацькі...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## «СЫНОК, ВАЗЬМІ, СЕМАК...»

**Зараз ужо цяжка сказаць дакладна, калі яны ўпершыню з'явіліся на вуліцах гарадоў і пасёлкаў — жанчыны (зрэдку мужчыны) пенсіённага ўзросту з пачкамі цыгарэт у руках або мехам семак на пустой перавернутай скрыні каля ног.**

Год ці больш мінула з таго часу, але за гэты перыяд яны сталі ўжо сапраўднай прыметай жыцця, часу. Хто яны, гэтыя людзі, што вымушае іх ісці на вуліцу і стаяць там гадзінамі і ў снег, і ў дождж? Зразумела, ад добрага жыцця на гэта не пойдзеш. Так, такім чынам многія ў нашым грамадстве зарабляюць сабе на кавалак хлеба: нехта ў прамым сэнсе, некага, хто адчуў смак гэтай спецыфічнай справы, штурхаюць на вуліцу неблагія грошы. Няхай не палічаць спробай палічыць грошы ў чужой кішэні, але паколькі гэтая з'ява стала амаль сацыяльнай, яна вартая таго, каб аб ёй гаварылі ўголас.

Гандляры семкамі набываюць сваю «сыравіну» звычайна оптам на Камароўскім рынку сталіцы па цане 6-7 тысяч рублёў за кілаграм (семкі ў пераважнай большасці з Украіны). Потым, давёўшы дома да ладу, прадаюць невялікімі шклянкамі па 1,5—2,5 тысячы «зайцоў» за адну. Як сцвярджаюць спецыялісты ў гэтай справе, чысты прыбытак складае прыкладна 70 тысяч рублёў з аднаго кілаграма.

Зрэшты, гандляваць аднымі семкамі — рэч даволі простая. Часцей у дадатак «карабейнікі» маюць цыгарэты, шакаладкі, іншую драбязу. У дзень можна прадаць, напрыклад, кілаграм семак, амаль упакоўку шакаладу (25 штук), каля 5 блокаў «LM», блок—другі «Bond», «Саюз-Апалон», некалькі пачкаў «Marlboro». Нават не вельмі спрактыкаваны, але ўжо знаёмы з азамі гандляр мае з усёй гэтай «гаспадаркі» 100—200 долараў у месяц чыстага прыбытку. «Спецыялісты» не лічаць дасягненнем нават лічбу ў 300 долараў. Зразумела, чужыя грошы заўсёды здаюцца лёгкімі, але гэта як сказаць: «карабейнікі» стаяць на «дзяжурстве» з ранку і пакуль не сцямнее. Кожны ў нашым жыцці выжывае як можа...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# ВЫ ЧЫЕ, СТАРЫЯ?




**Жыццё — надзвычай складаная рэч. Аб ім нельга гаварыць толькі ў адным кантэксце, нельга фарбаваць у адзін колер, немагчыма акрэсліць адным радком, адным словам. Яно можа быць адначасова і літасцівым, і жорсткім, светлым і чорным, спакойным і шчаслівым, і поўным болю і шуканняў. Жыццё — гэта ўсё разам, усяго патрохі, яго палітра складаецца з добрага і дрэннага, з кахання і здрады, з мараў і рэальнасці. Бадай, ёсць толькі адна прычына, якая дазваляе яго аб'ектыўна ацэньваць, — узрост, старасць. Пакуль ты малады, поўны здароўя, сілы, юнацкага аптымізму, ты гатовы твар у твар сустракаць шматлікія нечаканасці і ўдары лёсу; зламаны, але няскораны, зноў і зноў кідаць яму выклік. Але... Рана ці позна надыходзіць момант, калі ў спіну знянацку штурхае старасць. І тое, што ніколі не з'ўлялася праблемай раней, становіцца балючым пытаннем дня сённяшняга. Жабрацкая пенсія, пошук лекаў, адсутнасць увагі не толькі ўладаў, але, як яно часта бывае, нават блізкіх і родных людзей... Бадай, толькі старасць дазваляе чалавеку зразумець сапраўдныя каштоўнасці ў жыцці, асэнсаваць пражытае і здзейсненае, дараваць нязначнае. Нездарма ж, напэўна, кажуць: старыя — што малыя. Немаўлятка ніколі не зробіць дрэннага, таму што яно аб ім яшчэ не ведае. А сівы чалавек, які пражыў жыццё, не зробіць благога якраз таму, што яму добра вядомы наступствы здрады ці дрэннага слова. Але хто думае ў маладосці пра гэта? Кінуўшы выпадкова позірк на жабракоў-ветэранаў у пераходзе, ці задумаваўся калі хто з моладзі над тым, што на гэтым месцы праз гады, магчыма, будзе стаяць менавіта ён, цынічны (сучасны) малады чалавек? Мо тады брыдкія словы не пакрыўдзілі б ні яго самога, ні састарэлага чалавека, а ў працягнутую далонь лягло б хай і няшмат, але ад чыстага сэрца — як просьба прабачыць за такое жыццё, усё, чым можна дапамагчы...**

## АЛЁ, ПЕНСІЯНЕР СЛУХАЕ?

**Усё добра, калі малады, калі знаходзішся ў гушчы падзей: ходзіш на працу, вырашаеш глабальныя праблемы, гадуеш маленькіх дзяцей.**

Але гады бягуць незаўважна. Вось сын стаў бацькам сямейства, дачка ўжо водзіць сваіх дзяцей у садок, а на прадпрыемстве, якому было аддадзена амаль усё жыццё, аб'яўляюць, што вы пенсіянер і трэба ісці на законны адпачынак. Нічога, па сутнасці, страшнага не здарылася, проста імгненна стала вельмі шмат вольнага часу. Бывае, праўда, і горш. Сэрца стала пабольваць, ногі ўжо не тыя, або настрой такі, што ў госці да сяброў паехаць сіл не стае. А тут яшчэ і родных раскідала па ўсім свеце. Не, пенсіянеру без тэлефона нельга ніяк, бо, нават каб выклікаць «хуткую дапамогу», яго трэба мець пад рукой.

Якімі ж ільготамі карыстаюцца старыя людзі пры ўстаноўцы тэлефона, пацікавіўся карэспандэнт «Звязды» ва ўпраўленні электрасувязі Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь.

**Інжынер 2-й катэгорыі ўпраўлення Марына Грыневіч:**

— Пры ўстаноўцы тэлефонаў існуе некалькі прыярытэтных накірункаў. Гэта пазачарговая ўстаноўка; першачарговая; пераважная; грамадзянам, якія маюць права на ўстаноўку тэлефона ў выключных выпадках; а завяршае спіс звычайная чарга.

**— Ці маюць пенсіянеры перавагу пры пастаноўцы на чаргу?**

— У нашай краіне такая катэгорыя грамадзян, як пенсіянеры, не маюць ільгот на ўстаноўку тэлефона. Аднак большасць з іх з'яўляюцца ветэранамі працы, а для іх заканадаўствам прадугледжана льгота на пераважную ўстаноўку тэлефона.

**— Якія яшчэ льготы існуюць пры ўстаноўцы тэлефона для нашых грамадзян?**

— Інваліды Айчыннай вайны, інваліды І групы, удзельнікі Айчыннай вайны якія дасягнулі 70-гадовага ўзросту, Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай Працы, поўныя кавалеры ордэнаў Баявой і Працоўнай Славы карыстаюцца асобнай ільготай. З іх плата за ўстаноўку тэлефона не бярэцца.

Для ўдзельнікаў грамадзянскай і Айчыннай войнаў і іх сям'яў, інвалідаў працы ІІ групы і інвалідаў дзяцінства, вязняў канцлагераў, сям'яў загінуўшых ваеннаслужачых і партызан-падпольшчыкаў, дзяцей, якія сталі інвалідамі ў непаўналетнім узросце і страцілі карміцеля, аплата за ўстаноўку тэлефона бярэцца ў памеры 20 працэнтаў ад устаноўленага кошту.

**— Колькі даводзіцца чакаць людзям устаноўкі тэлефона?**

— Гэта залежыць ад кожнага канкрэтнага выпадку і месцазнаходжання патэнцыяльнага абанента. Напрыклад, у прыватным сектары г.Мінска бабулькі чакаюць устаноўкі тэлефона на працягу 15 гадоў. Аднак ужо ў гэтым годзе ўпраўленне электрасувязі плануе задаволіць жыхароў Малінаўкі і Уручча, а таксама часткова і іншых раёнаў сталіцы, якія стаяць у чарзе.

**— Якія нараканні і скаргі паступаюць у ваша ўпраўленне?**

— Многія незадаволены адменай з 1 верасня мінулага года 50-працэнтнай ільготы абанентнай платы за тэлефон пенсіянерам. У асноўным жа скаргі паступаюць па канкрэтных сітуацыях. Напрыклад, удзельнік вайны мае льготу па абанентнай плаце за тэлефон. Пасля яго смерці гэтая льгота на яго сям'ю не распаўсюджваецца. Калі льгота адменена не па закону, у гэтым выпадку мы яе аднаўляем, робім пераразлік і вяртаем грошы. Зразумела, кожны пенсіянер павінен мець тэлефон, бо ён яму вельмі патрэбен.

**Гутарку вёў Сяргей КУРКАЧ.**

## НЯНЕЧКА ДЛЯ СТАРЫХ

**10 гадоў з дня свайго ўзнікнення адзначаюць у гэтыя дні аддзяленні сацыяльнай дапамогі на даму, створаныя ў 1985 годзе Міністэрствам сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь. Дзесяць гадоў таму аддзяленні абслугоўвалі 2 тысячі адзінокіх старых. Сёння ў 172 аддзяленнях сацыяльнай дапамогі на даму на ўліку стаяць 66 тысяч пенсіянераў і інвалідаў, якім неабходна дапамога. Пра асноўныя накірункі дзейнасці аддзяленняў сёння мы папрасілі расказаць Валянціну Нікалаенка, галоўнага спецыяліста па пытаннях сацыяльнага абслугоўвання пенсіянераў.**

— Перш за ўсё мы знаходзім з дапамогай мясцовых уладаў пенсіянераў і інвалідаў, адзінокіх старых людзей, якім патрэбна наша дапамога, і ставім іх на ўлік. Калі чалавека прынялі на надомнае абслугоўванне, сацыяльныя работнікі аддзяленняў не радзей чым за два разы на тыдзень наведваюць «сваіх» старых і выконваюць усё, што ім патрэбна. У аднаго сацыяльнага работніка ў горадзе 8—10 падапечных, у сельскай мясцовасці — 4—8.

**— А што ўкладваецца ў паняцце «выконваюць усё, што ім патрэбна»?**

— Сёння сацыяльны работнік аказвае грашовую і натуральную дапамогу малазабяспечаным грамадзянам. Гэта і бясплатныя талоны на абед, прадуктовыя наборы, і вопратка, абутак і пасцельная бялізна. Сацыяльны работнік знаёміць сваіх падапечных з заканадаўствам, тлумачыць ім існуючыя правы і льготы, абараняе іх інтарэсы ў адпаведных інстанцыях, займаецца пытаннямі прыватызацыі, абмену жылля, прымае ўдзел у арганізацыі вольнага часу па месцы жыхарства. У палажэнні, распрацаваным міністэрствам, агаворваецца таксама дастаўка на дом прадуктаў харчавання, абедаў, медыкаментаў, дапамога ў навядзенні парадку ў кватэры, нарыхтоўцы на зіму агародніны, апрацоўцы прысядзібнага ўчастка, напісанні пісьмаў, выклік урача і многае іншае.

**— Пералік уражвае. І ўсімі гэтымі паслугамі старыя людзі могуць карыстацца бясплатна?**

— Так. У адпаведнасці з нашым палажэннем бясплатна абслугоўваюцца адзінокія састарэлыя, якім споўнілася 55 гадоў — для жанчын, і 60 гадоў — для мужчын, інваліды 1-й і 2-й груп. Карыстаюцца паслугамі бясплатна састарэлыя людзі і інваліды, якія не маюць працаздольных родных, абавязаных утрымліваць іх па закону ў населеным пункце пражывання, а ў гарадах, якія маюць раённае дзяленне, — у раёне пражывання.

**— Старыя людзі ў наш цяжкі час аказаліся ў самым незайздросным стане. Іх у першую чаргу звальняюць з працы, пазбаўляюць апошніх ільгот, і многія проста стаміліся скардзіцца на ўлады за ўсё тое, што адбываецца. А тут — ваша высакародная справа — дапамога самым абяздоленым, бездапаможным людзям. І зыходзіць гэта ад дзяржавы, а не ад нейкай грамадскай арганізацыі. З 70 тысяч тых, каму патрэбна дапамога, вашымі аддзяленнямі ўжо ахоплена 66 тысяч. Гэта большасць. Для многіх састарэлых гэта апошняя магчымасць пратрымацца, а ў што гэта абыходзіцца дзяржаве?**

— Паводле апошніх падлікаў, падтрымка, дапамога адзінокім састарэлым людзям сацыяльнымі работнікамі абыходзіцца дзяржаве ў 20 разоў танней за ўтрыманне іх у дамах-інтэрнатах для састарэлых. Акрамя таго, у нас у рэспубліцы каля 6 тысяч месцаў у дамах-інтэрнатах агульнага тыпу. А тых каму патрэбна дапамога — 70 тысяч. Такім чынам відаць, што вырашыць праблему праз дамы састарэлых немагчыма. Аддзяленні ж дапамаглі наблізіцца да вырашэння гэтай праблемы, наблізіцца да чалавека з тым, каб аказаць яму непасрэдную дапамогу.

**— Хто ў асноўным ідзе да вас на працу ў аддзяленні?**

— Вельмі многа ў нас маладых жанчын, якія выхоўваюць дзяцей і заняты хатняй гаспадаркай, былых медыцынскіх работнікаў, настаўнікаў. Але, незалежна ад усяго, адзначаем іх усіх аднолькава — усе яны вельмі добрыя людзі, псіхолагі па прызванню, людзі, якія валодаюць вялікім чалавечым дарам. Па сутнасці, яны заняты на вельмі непрыстыжнай працы. Зарплата сацыяльнага работніка часцей за ўсё меншая, чым пенсія старога, якога яны наведваюць. Але ў наш час нават гэтыя грошы з'яўляюцца падтрымкай, скажам, хатняй гаспадыні, якая выхоўвае дзяцей. Але галоўнае, як мне здаецца, гэта ўсведамленне таго, што ўсе яны робяць добрую чалавечую справу.

**— Як у будучым плануюць развіваць аддзяленні сацыяльнай дапамогі?**

— Цяпер, на мой погляд, неабходна ствараць раённыя цэнтры сацыяльнага абслугоўвання з іх структурнымі падраздзяленнямі: аддзяленнем па аказанню тэрміновай дапамогі, аддзяленнем дзённага знаходжання. У нас па вуліцах ходзяць бамжы, цяпер з'явіліся бежанцы. Часта чалавеку не трэба насіць 2 разы на тыдзень хлеб і малако, а неабходна аказаць тэрміновую дапамогу, даць месца для начлегу, параіць, куды звярнуцца па дапамогу, дапамагчы знайсці працу. Такі цэнтр ёсць зараз у Брэсце і дзейнічае ён ужо не першы год.

**— Дазвольце, Валянціна Пятроўна, ад імя ўсіх, каму вы дапамаглі, ад сябе асабіста павіншаваць з юбілеем, сказаць «дзякуй» за высакароднасць, дабрату, цяжкую працу ўсім супрацоўнікам аддзяленняў і пажадаць не губляць энтузіязму ў вашай міласэрнай справе.**

**Гутарыла Наталля ГУСАКОВА.**

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА



Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Сямён Шарэцкі** днямі сустрэўся з былымі дзяржаўнымі дзеячамі рэспублікі, якія ў розны час займалі пасады Старшыні Вярхоўнага Савета, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**На здымку: у час сустрэчы.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.**

# ХАТЫНЬ — ЛЮДСКАЯ ПАМЯЦЬ І БОЛЬ

**Хатынь — гэта суровая народная памяць. Хатынь — гэта бронза, камень, бязмерны людскі смутак...**

22 сакавіка 1943 года атрад карнікаў фашысцкага ката Дзірлевангера акружыў вёску. Усе жыхары Хатыні былі сагнаны ў хлеў, а хлеў — падпалены... Сто сорак дзевяць жывых душ сжэрла лютае полымя, сярод іх было 76 дзяцей, 26 вясковых двароў праглынуў бязлітасны агонь...

Батальёны «чорнай смерці» ўчынялі дзікія расправы ва ўсіх кутках нашай радзімы: яшчэ 9200 беларускіх сёл і вёсак былі спалены і зруйнаваны, 296 спаленых разам з жыхарамі вёсак пасля вайны паўсталі з попелу, 136 былі цалкам знішчаны акупантамі, аднаўляць іх ужо не было каму — усе згарэлі жывымі і навек ляглі ў брацкія магілы.

Паўстагоддзя назад адгрымела вайна. З гадамі гора і боль адступаюць. Даўно спарахнелі ў магілах косці тых нелюдзяў, што ступілі нязванымі на нашу зямлю і ператварылі ў попел Хатынь. У апошнія гады людскі паток на мемарыяльны комплекс, што размешчаны на 54-м кіламетры шашы Мінск—Віцебск на месцы былой спаленай вёскі, прыметна зменшыўся. Хочацца верыць, што за часовымі эканамічнымі цяжкасцямі не ачарсцвеюць нашы сэрцы, што не сатруцца з памяці боль і гора мільёнаў закатаваных фашысцкімі нелюдзямі і будзе каму расказаць нашым дзецям пра герояў, што праз мукі і смерць шагнулі ў бяссмерце.



Да людской памяці заклікаюць сёння званы Хатыні. Іх суровы і сумны звон гучыць над светлымі бярозавымі гаямі, над задумлівымі барамі Лагойшчыны, над усёй беларускай зямлёй. Гэта рэквіем у памяць расстраляных, павешаных, закатаваных і жывымі спаленых. Слухайце людзі! Да вашых сэрцаў звяртаюцца хатынскія званы!

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

**Валерый БАРЭЙКА, прэзідэнт СП «Пушэ-Агро»**

# «Дзейнасць «Пушэ-Агро» на Беларусі — гэта крок у развіцці сельскай гаспадаркі рэспублікі ў цэлым»

***Дзейнасць закрытага акцыянернага таварыства «Пушэ» ўжо даўно не абмяжоўваецца толькі пасрэдніцтвам. Практычна з моманту з'яўлення аўтабізнесу адразу быў наладжаны сервіс аўтамабіляў, што азначала: «Пушэ» развівае сферу абслугоўвання. Праўда, зусім хутка ў структуры холдынгавай кампаніі «Пушэ» з'явіўся зусім новы накірунак дзейнасці — сельскагаспадарчы.***

***У ліпені 1995 года ў калгасе «Вішнёўка» Мінскага раёна было завершана будаўніцтва мясаперапрацоўчага комплексу і камбікормавага завода. Так з'явілася сумеснае прадпрыемства «Пушэ-Агро», якое ўзначаліў віцэ-прэзідэнт «Пушэ» па агульных пытаннях Валерый Барэйка. Аб тым, што сабой ўяўляе сёння аграпрамысловае прадпрыемства, якую ролю адыгрывае ў агульнай дзейнасці «Пушэ», — наша размова з кіраўніком «Пушэ-Агро».***



**— Валерый Рыгоравіч, з'яўленне нечага новага ў любой справе звычайна суправаджаецца пытаннямі пазнавальнага характару: што, дзе, калі?**

— Калі гаварыць пра гісторыю з'яўлення новага прадпрыемства, то яна не вельмі доўгая. Падмурак «Пушэ-Агро», можна сказаць, быў закладзены яшчэ ў пачатку 1993 года. Менавіта тады пачалася наша дружба з «Вішнёўкай», з якой цесна працаваў даўні партнёр «Пушэ», супрацоўнік Акадэміі навук Беларусі Генадзь Фільчанкоў. Ён займаўся ў калгасе вытворчасцю біягумусу. Потым нашы інтарэсы значна пашырыліся. І супрацоўніцтва вылілася ў з'яўленне новага аграпрамысловага прадпрыемства. Думаю, няма патрэбы гаварыць аб карысці СП. Першая і асноўная задача «Пушэ-Агро» — вытворчасць на базе айчынных калгасаў і саўгасаў якасных і канкурэнтаздольных прадуктаў харчавання.

Атрымліваецца, што дзейнасць у новым для нас накірунку — не толькі эканамічная, але і палітычная. Беларусь жа, як вядома, сельскагаспадарчая краіна, аднак сёння паліцы айчынных магазінаў перапоўнены імпартным харчаваннем. Таму наша задача — запоўніць магазіны рэспублікі якаснай і адносна таннай айчыннай прадукцыяй.

**— Магутнасці «Пушэ-Агро» дазваляюць гэтага дабіцца?**

— Пакуль іх малавата. Штодзённа мы выпрацоўваем прыкладна 4,5 тоны прадукцыі. Праўда, абсталяванне пры такім аб'ёме загружана пад завязку. Таму ў нашых планах у бліжэйшы час дазакупіць абсталяванне вядомай аўстрыйскай фірмы «Берч Ласка», з якой мы ўжо даўно цесна супрацоўнічаем, і давесці аб'ём перапрацоўкі да 6 тон мяса ў суткі.

**— У якім асартыменце можна набыць прадукцыю «Пушэ-Агро» і дзе?**

— Сёння мы выпускаем дзесьці 30 найменняў каўбас і мясапрадуктаў, і рэалізоўваюцца яны як праз фірменныя магазіны «Пушэ-Трэйдынг», так і праз іншыя гандлёвыя кропкі сталіцы.

**— Калі шчыра, прадукцыя «Пушэ-Агро» ўжо паспела набыць свайго пакупніка?**

— Я ў гэтым не сумняваюся, паколькі ведаю, што многія людзі, якія аддаюць перавагу той жа каўбасе ў фірменнай абалонцы «Пушэ», прыходзяць у магазін перад самым яе завозам. Мяркуйце самі: за высокай цаной мы не гонімся, аднак якасць прадукцыі гарантавана, паколькі «Пушэ-Агро» працуе толькі са свежым мясам. Поўны цыкл перапрацоўкі з моманту забою бычка да моманту з'яўлення мясапрадуктаў на паліцы магазіна займае ўсяго суткі.

**— Валерый Рыгоравіч, на мой погляд, пры такім аб'ёме вытворчасці трэба мець даволі вялікае пагалоўе буйной рагатай жывёлы і свіней. У гэтым плане «Вішнёўка» вытрымлівае аб'ёмы, каб абсталяванне не прастойвала марна?**

— На жаль, не. Таму мы павінны шукаць сыравіну па ўсёй рэспубліцы.

**— У вашых планах закладзена пашырэнне дзейнасці «Пушэ-Агро» ў іншых гаспадарках рэспублікі?**

— Так. У бліжэйшы час мы павінны запусціць вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі ў Нясвіжскім і Капыльскім раёнах. Наогул, я праехаў у пошуках дастойных кліентаў палову Беларусі, вывучаў многія гаспадаркі.

Ведаеце, у рэспубліцы зараз многа гаспадарак, дзе кіраўнікі апусцілі рукі і не ведаюць, што ім рабіць.

**— Якім вам бачыцца ваша прадпрыемства праз год-два?**

— Як і ўсякі нармальны чалавек, я жыву надзеяй. Спадзяюся, што сельскагаспадарчы накірунак у «Пушэ» будзе развівацца і далей. Зыходжу са старой збітай ісціны, што чалавеку заўсёды хочацца есці. А значыць, ён будзе ў любым выпадку аддаваць перавагу набыццю прадуктаў харчавання, чым мэблі, адзення.

Яшчэ ў нашых планах — перапрацоўка малака, адкрыццё хлебапякарняў. І зараз ёсць ужо гатовыя праекты. Аўстрыйцы нам нават прапаноўваюць фінансавую дапамогу ў адкрыцці крэдытнай лініі. Магчыма, што іх грошы і дапамогуць рэалізаваць нашы задумкі, якія стануць чарговым крокам «Пушэ» ў развіцці сельскай гаспадаркі рэспублікі ў цэлым.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



## ЮБІЛЕЙ

*Віншуем дырэктара Мінскага завода шампанскіх він **Тадэвуша БУЛДЫКУ** з юбілеем — 60-годдзем з дня нараджэння.*

*Здароўя, шчасця і поспехаў у працы Вам, Тадэвуш Уладзіміравіч.*

*Мякота Валянціну віншуем з днём нараджэння. Жадаем шчасця, моцнага здароўя ёй і яе сыну Дзіму!*

**Сястра Тамара і яе сям'я.**

**Асацыяцыя былых выхаванцаў дзіцячых дамоў праводзіць улік выхаванцаў часоў ВАВ і просіць паведаміць аб сабе па тэл. (0172) 34-35-71 — з 19 да 21 гадзіны, тэл. (0172) 48-02-85; 62-57-13 — штодзённа на працягу месяца з дня апублікавання аб'явы.**

Згубленае пасведчанне ўдзельніка ВАВ № 887977 серыі А, выдадзенае на імя **Асташонак Ніны Авакумаўны,** лічыць **несапраўдным.**



## БАЛАНС

**АКБ «Аб'яднаны капітал» на 1 студзеня 1996 года**

**АКТЫЎ** **ПАСІЎ**

*(млн. руб.)*

| Назва артыкула | Сума | Назва артыкула | Сума (млн. руб.) |
|---|---|---|---|
| 1. Каса і іншыя грашовыя сродкі | -- | Абавязацельствы: 1. Сродкі Нацыянальнага банка | -- |
| 2. Сродкі ў Нацыянальным банку | 155 | 2. Сродкі банкаў і крэдытных установ | 3278 |
| 3. Сродкі ў банках і крэдытных установах: | 6050 | 2.1. Рэзідэнтаў | 3278 |
| 3.1. У рэзідэнтаў | 6050 | 2.2. Нерэзідэнтаў | -- |
| 3.2. У нерэзідэнтаў | -- | 3. Сродкі кліентаў | 1021 |
| | | 3.1. дзяржаўнага бюджэту | -- |
| 4. Сродкі ў каштоўных паперах | 1818 | 3.2. Юрыдычных асоб | 890 |
| 5. Крэдыты кліентам: | 4922 | 3.3. Фізічных асоб | 131 |
| 5.1. у т.л. пратэрмінаваныя і пралангіраваныя | -- | 4. Выпушчаныя банкам пазыковыя абавязацельствы | -- |
| 6. Інвестыцыйны партфель банка | -- | 5. Іншыя абавязацельствы | 2433 |
| | | Усяго абавязацельстваў: | 6732 |
| 7. Асноўныя сродкі і нематэрыяльныя актывы | 1570 | Уласныя сродкі: | |
| | | 1. Статутны фонд | 9094 |
| 8. Іншыя актывы | 2211 | 2. Іншыя фонды і | |
| ўласныя сродкі | 900 | 3. Неразмеркаваны прыбытак | -- |
| | | Усяго ўласных сродкаў | 9994 |
| **Баланс** | **16726** | **Баланс** | **16726** |

***Даведка: Памер рэзерву на магчымыя страты па пазыках ___—___ млн.руб.***

## Справаздача

**аб прыбытку і стратах АКБ «Аб'яднаны капітал» на 1 студзеня 1996 года**

*(млн. руб.)*

| Прыбыткі банка | | Расходы банка | |
|---|---|---|---|
| Назва даходаў | Сума | Назва расходаў | Сума |
| 1. Атрыманыя працэнты і прыраўнаваныя даходы | 9378 | 1. Выплачаныя працэнты і прыраўнаваныя расходы | 11521 |
| 2. Даходы па аперацыях з каштоўнымі паперамі | 1195 | 2. Расходы па аперацыях з каштоўнымі паперамі | 253 |
| 3. Даходы па аперацыях у замежнай валюце | -- | 3. Расходы па аперацыях у замежнай валюце | -- |
| 4. Атрыманая камісія па паслугах кліентам і банкам | 5461 | 4. Выплачаная камісія па паслугах кліентаў | 11 |
| 5. Іншыя даходы | 10 | 5. Расходы на ўтрыманне апарату банка і іншыя | 1388 |
| 6. Штрафы, пені, няўстойкі | 187 | 6. Іншыя расходы | 1532 |
| | 1388 | 7. Штрафы, пені, няўстойкі | -- |
| Усяго даходаў: | 16.231 | Усяго расходаў: | 14.705 |
| 7. Страты | -- | 8. Прыбытак | 1526 |
| **Баланс** | **16.231** | **Баланс** | **16.231** |

***Даведка. Курсавая розніца па аперацыях у замежнай валюце, аднесеная на спецыяльны рэзервовы рахунак, ___—___ млн.руб.***

**Аўдытарская праверка праведзена фірмай ТАА «Фінаўдыт-кансалтынг»**

## СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.06 | 18.27 | 12.21 |
| Віцебск – | 5.55 | 18.18 | 12.23 |
| Магілёў – | 5.55 | 18.17 | 12.22 |
| Гомель – | 5.50 | 18.15 | 12.25 |
| Гродна – | 6.18 | 18.44 | 12.26 |
| Брэст – | 6.22 | 18.43 | 12.21 |

**МЕСЯЦ**

**Маладзік 19 сакавіка.**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Паўла, Віктара, Нікіфара, Леаніда, Васілісы, Галіны, Феадоры, Анастасіі**

**К. Турыбія**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца невялікая воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Магілёве, Віцебску — 0—2, Мінску, Гродне — 1—3, Гомелі — 2—4, Брэсце — 3—5 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі 25-га ўдзень па захаду невялікія ападкі. Тэмпература ўначы — 8—13, па захаду — 3—8 градусаў марозу, удзень — 1—5 градусаў цяпла, 25-га па захаду — каля нуля.

## Медыцынскі прагноз надвор'я на 23 сакавіка

Надвор'е будзе вызначацца полем павышанага атмасфернага ціску. Істотных змяненняў значэнняў асноўных метэаэлементаў не чакаецца. У такіх умовах магчыма пагаршэнне самаадчування ў метэазалежных хворых, якія рэагуюць на неспрыяльныя ўмовы па геафізічных фактарах (23 сакавіка — неспрыяльны дзень).

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, прытрымлівацца дыеты, рабіць прагулкі па свежым паветры, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, і полівітаміны.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб мерах па стымуляванню жыллёвага будаўніцтва ў сельскай мясцовасці ў 1996-1997 гадах.**

Устанавіць, гаворыцца ва ўказанай пастанове, што: асобам, якія жывуць у сельскай мясцовасці і працуюць у калгасе, саўгасе, іншым сельскагаспадарчым прадпрыемстве, ва ўстановах аховы здароўя, народнай асветы, культуры, фізкультуры і спорту, сацыяльнага забеспячэння, размешчаных у сельскай мясцовасці, і якія атрымалі ў адпаведнасці з Пастановай Кабінета Міністраў ад 28 лістапада 1995 г. № 648 «Аб парадку фінансавання жыллёвага будаўніцтва ў 1996 годзе» бязвыплатныя субсідыі на будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў або маюць права на атрыманне гэтых субсідый, выдзяляецца ў 1996-1997 гадах па іх заявах драўніна на пні (з аплатай у памеры 30 працэнтаў ад устаноўленай таксы на гэту драўніну) у аб'ёме да 130 куб. метраў, у тым ліку 30 куб. метраў мяккалістavых парод, для будаўніцтва індывідуальнага жылога дома агульнай плошчай да 65,5 кв. метра (сям'і да 4 чалавек) з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі) і ў аб'ёме да 150 куб. метраў, у тым ліку 40 куб. метраў мяккалістаvых парод, для будаўніцтва індывідуальнага жылога дома агульнай плошчай да 100 кв. метраў (сям'і з пяці чалавек і больш) з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі).

У такім жа парадку і колькасці, гаворыцца далей у прынятай пастанове, выдзяляецца драўніна на пні для будаўніцтва ў сельскай мясцовасці індывідуальных жылых дамоў з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі) асобам, якія жывуць у гарадах і гарадскіх пасёлках і атрымалі бязвыплатныя субсідыі на будаўніцтва жылых памяшканняў, пры ўмове пераезду іх ва ўстаноўленым парадку ў сельскую мясцовасць на пастаяннае месца жыхарства і паступлення на работу ў калгас, саўгас, іншае сельскагаспадарчае прадпрыемства.

Прыём заяў на выдзяленне драўніны на пні для будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі) ажыццяўляецца райвыканкомамі. Райвыканкомы праводзяць таксама размеркаванне драўніны паміж заяўнікамі па зацверджаных імі спісах;

асобы, указаныя ў пункце 1.1 гэтай пастановы, якія атрымалі драўніну на будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі) і пакінулі работу (выбылі з калгаса) без уважлівай прычыны (па ўласнаму жаданню ці ў сувязі з парушэннем працоўнай дысцыпліны) у перыяд да 10 гадоў або якія не пабудавалі жылога дома на працягу 2 гадоў з моманту атрымання драўніны, абавязаны кампенсаваць у раённы бюджэт кошт адпушчанай ім на пні драўніны на момант звальнення (выбыцця з калгаса) або заканчэння ўстаноўленага тэрміну будаўніцтва жылога дома з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі). У выпадку нямэтавага выкарыстання драўніны, а таксама ў выпадку продажу жылога дома або надворных будынкаў (памяшканні для жывёлы і птушкі) у тэрмін да 10 гадоў пасля заканчэння будаўніцтва кошт адпушчанай на пні драўніны кампенсуецца ў трохразовым памеры (з улікам інфляцыі) на момант нямэтавага яе выкарыстання, продажу жылога дома або надворных будынкаў (памяшканні для жывёлы і птушкі).

Рэкамендавана калгасам, саўгасам, іншым сельскагаспадарчым прадпрыемствам аказваць дапамогу асобам, указаным у пункце 1.1 гэтай пастановы, у будаўніцтве індывідуальных жылых дамоў з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі).

Міністэрству эканомікі і Міністэрству лясной гаспадаркі сумесна з аблвыканкомамі даручана выдзеліць драўніну на пні для мэтаў, прадугледжаных гэтай пастановай згодна з дадаткам. Аблвыканкомам, вытворчым лесагаспадарчым аб'яднанням неабходна давесці заданні па выдзяленню драўніны на пні да райвыканкомаў і лясгасаў.

Прасіць, гаворыцца далей у прынятай пастанове, Ашчадны банк «Беларусбанк» адшукаць магчымасць першачарговага прадастаўлення крэдытаў для будаўніцтва ў сельскай мясцовасці індывідуальных жылых дамоў з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі).

Міністэрствам эканомікі, лясной гаспадаркі, фінансаў, сельскай гаспадаркі і харчавання сумесна з Міністэрствам юстыцыі неабходна ў 2-тыднёвы тэрмін распрацаваць і зацвердзіць парадак і ўмовы выдзялення ў адпаведнасці з гэтай пастановай драўніны на пні для будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі), а таксама кампенсацыі яе кошту ў раённы бюджэт у выпадках, прадугледжаных у пункце 1.2 гэтай пастановы.

На райвыканкомы, у адпаведнасці з гэтай пастановай, ускладзены кантроль за мэтавым выкарыстаннем драўніны, што выдзяляецца для будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў з надворнымі будынкамі (памяшканні для жывёлы і птушкі).

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

# БЕЛАРУСКІХ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ НАВЕДАЎ ЯГОР СТРОЕЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

прысвечана тэме беларуска-расійскіх адносінаў і актывізацыі інтэграцыйных працэсаў паміж дзвюма краінамі. Я. Строеў адзначыў, што Савет Федэрацыі Расіі мае намер усямерна садзейнічаць глыбокай інтэграцыі паміж Расіяй і Беларуссю. «Перакананы, што падтрымана будзе толькі такая інтэграцыя, у працэсе якой грамадзяне нашых дзяржаў нічога не страцяць, а многае атрымаюць. Сёння мы гатовы зрабіць рашаючы крок. Хачу падкрэсліць, што размова не ідзе пра саюз, дзе адзін будзе кіраваць. Размова ідзе аб сапраўднай інтэграцыі, аб стварэнні такой арганізацыі, якая будзе ўлічваць інтарэсы ўсіх краін і не будзе зневажаць нацыянальныя рысы», — падкрэсліў Строеў. Гаворачы аб двухбаковых адносінах Расіі і Беларусі ў межах Садружнасці Незалежных Дзяржаў, спікер верхняй палаты расійскага парламента параўнаў некаторыя астатнія дзяржавы з вярблюдамі, якія марудна ідуць і затрымліваюць рух усяго каравана. Ён лічыць, што патрэбна пашыраць свае адносіны і не азірацца на тых, хто не імкнецца да інтэграцыі. «Для таго, каб выйсці на новы ўзровень збліжэння, трэба стварыць двухбаковы наддзяржаўны, наднацыянальны орган. Дапускаецца стварэнне сумесных структур кіравання, асабліва ў галіне энергетыкі, сувязі і іншых. Перакананы, глыбокая сацыяльная і эканамічная інтэграцыя ў перспектыве прывядзе і да палітычнай», — заявіў Строеў. У прыватнасці, ён паведаміў, што дасягнута дамоўленасць аб стварэнні сумеснай парламенцкай камісіі, якая будзе каардынаваць інтэграцыйныя працэсы.

Тым не менш Строеў лічыць, што сёння гвалтоўнае аб'яднанне, акрамя народнай бяды нічога не прынясе, таму палітыкам трэба кіравацца жаданнем і думкай расійскага і беларускага народаў. На думку Строева, зараз гэтыя жаданні якраз супадаюць. Відаць, гэтак жа мяркуе і Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка, які пасля сустрэчы з расійскім госцем вылецеў на яго радзіму — у Маскву. Паводле некаторых звестак, мэта нечаканага неафіцыйнага візіту беларускага кіраўніка ў Крэмль — удасканаленне палажэнняў саюзнага дагавора.

Падчас наведвання Строевым парламента некалькі пытанняў яму змаглі задаць журналісты, паколькі апошнія крокі ў вышэйшых эшалонах улады як у Расіі, так і ў Беларусі выклікаюць вялікую цікавасць. Расійскі госць адзначыў, што пакуль не вырашана форма саюза паміж дзвюма дзяржавамі: федэрацыя ці канферэрацыя, але «гэта — справа часу». Каменціруючы рашэнне Дзярждумы Расіі аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў, Строеў назваў яго мудрым.

Дарэчы, частку сённяшняга дня Ягор Строеў правядзе якраз у Белавежы. Гэта адзін з пунктаў праграмы наведвання ім Беларусі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# «Камандзіроўан у места Смаленск...»

## Янка Купала і БНР

**Паэт і ўлада. Тэма адвечная, калі не старажытная, ад часоў біблейскага Давіда і міфічнага Арфея.**

Янка Купала і Беларуская Народная Рэспубліка — тэма да апошніх гадоў не крананая (па зразумелых прычынах), бо для ідэалагічных цэнзараў сакральнанепажаданая. Ды і матэрыялаў, што сведчылі б пра гэтыя стасункі, небагата. А якія і ўсплывалі — не ўводзіліся ў шырокі грамадскі, літаратурны ўжытак (напрыклад, верш «25.III.1918—25.III.1920: Гадаўшчына=памінкі»). Па тых самых прычынах.

Таму калі ў архівах Беларускай Народнай Рэспублікі, што захоўваюцца ў Вільні, у адной са спраў мне трапілася даведка пра Янку Купалу, яна падалася мне не столькі шчаслівай, колькі сімвалічнай знаходкай.

Першапачатковы загаловак на папцы каліграфічна выведзены чорным чарнілам па чырвонай вокладцы. «Справа № 3. Розныя паперы, датычашчыя Народнага Сэкрэтарыяту Б.Н.Р. 1918.» (Дзяржаўны архіў Летувы. Фонд 582. Вопіс 2. Адзінка зах. 14). Асноўныя дакументы ў ёй — стандартныя машынапісныя (а часам і ад рукі пісаныя) даведкі=пасведчанні, так званыя водпускі. Тая, што зацікавіла, мела наступны змест:

***«3» жніўня 1918***

***№ 1197***

***Пасьведчэнне***

***Паказчык гэтаго, грамадзянін=беларус Янка Луцэвіч /Беларускі паэт Янка Купала/ быў камандзірован у места Смаленск у сваім часі Народным Сэкрэтарыятам Беларускай Народнай Рэспублікі для сбора колекцый для Беларускай выстаўкі у месці Менску а так само для высьнення у якім палажэнні знаходзіцца там яго сямейство і звароту сям'і ў м. Менск дзе ён мае пастаяннае местожыцяльство.***

***Што подпісам і прыкладам пячаткі сьведчыцца.***

***Старшыня Народнага Сэкрэтарыяту Б.Н.Р.***

***Загадчык Справаў Народнаго Сэкрэтарыяту.***

За Старшыню Народнага Сакратарыята БНР даведку павінен быў падпісаць Раман Скірмунт (з лютага па ліпень 1918 г. старшынёй, як вядома, лічыўся Язэп Варонка).

Гэты гістарычны дакумент сведчыць пра раней невядомыя адносіны паміж Янкам Купалам і БНР, іх непасрэдныя кантакты яшчэ ўлетку 1918 года. Праўда, паразважаўшы над дэталёва вывучаным купалазнаўцамі жыццяпісам нашага песняра, у мяне з'явіліся некаторыя пытанні. *«...быў камандзірован у места Смаленск у сваім часі Народным Сэкрэтарыятам Беларускай Народнай Рэспублікі...»*

БНР была абвешчана ў сакавіку 1918-га. У Смаленск Купала пераехаў прама з Полацка ўвосень 1917 года і жыў там да пачатку 1919=га. Бязвыязна? Але вось адзін патрэбны сказ з энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала» пра 1918-ы ў летапісе жыцця і творчасці паэта.

«21 ліпеня. Купала залічаны на работу агентам аддзела забеспячэння Заходняй вобласці. Часта бываў у камандзіроўках у Смаленскай, Курскай, Магілёўскай губ.»

Акурат праз два тыдні пасля прыняцця на працу агентам забеспячэння і была выдадзена адшуканая ў архівах БНР даведка.

Глухога, з калючым дротам і дзотамі, у сённяшнім разуменні непераходнага фронту паміж РСФСР і Беларуссю, акупіраванай кайзераўскімі войскамі, тады не існавала. Так, з Яраслаўля ў Менск вярнуўся ў 1918 г. Менскі настаўніцкі Інстытут на чале з Усеваладам Ігнатоўскім. Потым Ігнатоўскі яшчэ раз паехаў у глыб Савецкай Расіі, у Саратаў, каб забраць адтуль сваю жонку. Атрымліваецца (гіпатэтычна), мог і Купала падчас службовых камандзіровак заехаць у Менск і мець перамовы з Народным Сакратарыятам БНР пра зварот на Беларусь. Чаму не адбылося паэтава вяртанне на Беларусь летам-восенню 1918 года, невядома.

Пазней у лісце да свайго колішняга сардэчнага апекуна ў пецярбургскі перыяд прафесара Браніслава Эпімах=Шыпілы Купала напіша пра смаленскі перыяд: «Там, жывучы праз увесь цяжкі і жудкі 1918 г., я папраўдзе быў, як непрытомны».

У той «цяжкі і жудкі» 1918 год пад кіраўніцтвам нямецкага мастацтвазнаўцы Альберта Іпеля і ладзілася Першая мастацкая выстаўка. Спачатку ў Менску, а потым і ў Вільні. Як напіша ў сваіх нарысах па гісторыі беларускага мастацтва Мікола Шчакаціхін, «не без уплыву з боку некаторых беларускіх дзеячаў». Маючы перш за ўсё на ўвазе Яна Луцкевіча і ягоныя віленскія зборы.

Як цяпер высвятляецца, да выстаўкі беларускага мастацтва ў Менску, што адбылася ў нашай сталіцы ў верасні 1918 года, меў дачыненне і Янка Купала.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

# ШТО ВЕСНАВЫ НАМ ДЗЕНЬ РЫХТУЕ?

**Ах, вясна! Яе дзівосны водар кружыць галовы не толькі легкадумным сакратаркам і першакурсніцам, але нават і сур'ёзным банкіркам. Яна, летуценніца, прымушае нас усё часцей і часцей углядацца ў люстэрка прыдзірлівым вокам. Можа, вага павялічылася? Можа, талію ўжо адшукаць цяжка?**



ВЯДОМА Ж, узнікае самае надзённае жаночае пытанне «Што апрануць?». Прычым, адказ на гэты крык душы не залежыць ні ад нашага заробку, ні ад нашага сацыяльнага статусу. Мільянерка і жабрачка, усе мы аднолькава заломваем свае рукі, «пушчаем» амаль натуральную слязу і крычым мужам і палюбоўнікам: «Усе жанчыны як жанчыны, а адной мне няма чаго апрануць на вясну!» Бо тое, што вісіць у нашай шафе, канешне, састарэла і выйшла з моды, і нам абавязкова трэба нешта новенькае, такое, каб усе навокал толькі войкалі ад нашай звышэлегантнасці.

Пасля сварак, боек і пагроз нарэшце муж ці бацька кідаюць нам патрэбную суму грошай: «Толькі адчапіся. Дай уздыхнуць. І да наступнага стагоддзя да мяне не звяртайся». Мы, вядома, горача абяцаем: «Вось толькі гэтую сукеначку куплю -- і ўсё. Завязваю. Буду хадзіць у лахманах і гумавых ботах».

Праўда, недзе ў галаве круціцца думка: «А як жа леты пляжны перыяд?» Але гэта будзе потым. Сёння ж нас хвалюе вясна. І хіба толькі нас?

Вясною і мужчыны робяцца падобнымі на сакавіцкіх катоў. Вочы іхнія блішчаць, галовы, як на шарнірах, паварочваюцца за кожнай «спадніцай». Яны, небаракі, часам губляюць нітку размовы, шкарпэткі пад чужым ложкам і ўласныя галовы.

А каб галовы тыя губляліся часцей, то нам, жанчынам прыемным ва ўсіх адносінах, даводзіцца добра падрыхтавацца да вясны. Пагледзець «Бурду», схадзіць у Дом мадэляў, пачытаць сёе-тое.

І даведацца, што самым модным стылем на гэты сезон з'яўляецца стыль Жаклін Кенэдзі. Так-так, той самай Жаклін, што была жонкай прэзідэнта, а потым жонкай мільярдэра Анасіса. На дзіва стройная, з добрай фігурай, яна вызначалася жаноцкасцю. І таму сённяшняя мода патрабуе ад нас менавіта мяккасці, вытанчанасці, эратычнасці. Нават самая дзелавая жанчына проста павінна мець у гардэробе рэчы, якія падкрэсліваюць жаноцкасць: карунакавае жабо, бюсце і чаравікі на высокім тонкім абцасе.

Зыходзячы з гэтага моднага вобраза, трэба выбіраць і тыя тканіны, якія «пойдуць» на веснавыя строі. Патрабаванні да іх -- яркасць, насычанасць, пяшчотнасць. Яны павінны быць эластычнымі, добра драпіравацца, «шапацець» пры хадзе. Лён, баваўна і шыфон будуць фаварытамі гэтага сезона. Яны лёгкія, прыгожыя, сапраўды «веснавыя» тканіны. Нават для модных мужчын мода прапаноўвае тканіны з перламутравым бляскам - шоўк, крэп-жаржэт, лён з сінтэтыкай, атлас. Шэрсць, замша, жакард падыдуць для касцюма з пінжака і штаноў. А малюнкі на тканіне могуць быць самыя разнастайныя -- клетка, тонкая палоска. Колеры -- жоўты, крэмавы, перламутравы.

Дэвіз жаночай моды 96-га года -- празрыстасць і бляск. Таму самае галоўнае ў тканінах -- чысціня колеру, глянцавая паверхня. Фактура тканін -- дробназярністая, быццам бы пакрытая лакам.

Вядомая ўсім лялька Барбі таксама дае нам модныя парады на гэты сезон. Яна раіць падкрэсліваць бюст і клубы, але рабіць гэта без вульгарнасці, «на мяжы». Спакойныя колеры -- карычнева-ружовы, шэра-блакітны, шэра-карычневы -- нададуць нам рамантычнасці і загадкавасці.

Даўжыня спадніц -- самая дэмакратычная, да калена. Модныя каляпюшкі -- без палёў. Панчохі лепш за ўсё насіць са швом, яны падкрэсліваюць лінію нагі. Валасы трэба завіваць у напаўзабытыя «вялікія кучары».

Вясной будзе панаваць стыль «нью-Дыёр». А гэта азначае, што вялікія дэкальтэ, надзвычай кароткія шорты і штаны, якія шчыльна абцягваюць клубы, -- самыя модныя.

Веснавыя тэмы наступныя.

«Настальгія» -- успамін аб модзе 40-х гадоў. Розныя банты і банцікі. Рамантычныя рушы. Конусападобны сілуэт сукенак.

«Празрыстае паветра» -- светлыя колеры. Сукенка быццам бы струменіцца ўздоўж цела. Розныя матэрыялы «наслойваюцца» адзін на адзін.

«Багацце зямлі» -- спартыўнае адзенне з натуральных тканін. Дэталей -- мінімум. Каўняры-стойкі.

Простыя па сілуэту сукенкі і касцюмы чорнага, белага, чырвонага колераў маюць так званы «малы аб'ём». Плечы ў іх натуральныя, а не падкладныя. Касцюмы не абцяжарваюцца шматлікімі ўпрыгажэннямі. Адзінымі дазволенымі моднымі аксесуарамі могуць быць маленькія дэкаратыўныя хустачкі. Дадатак -- акуляры. Тыя, хто носіць іх, хай не саромеюцца: сёння акуляры з'яўляюцца надзвычай моднай дэталлю.

Касцюм, прыдуманы славутай французжанкай Коко Шанэль, як класіка папулярны заўжды. Каруні, маленькія ліфы ў сукенках, высокія абцасы -- аж 12 сантыметраў. Сумкі мяняюць сваю форму: яны стануць трохвугольнымі, носяцца на раменьчыку праз плячо. Цвёрдая аснова зробіць іх прывабнымі заўсёды, нават калі туды запхана амаль уся Камароўка.



Афіцыйнае адзенне для бізнес-лэдзі -- гэта сціпласць і фрывольнасць адначасова. Так, блузка з празрыстага капрону не павінна замінаць справе. Але калі ўжо так атрымаецца, то... вы не вінаватыя, далібог. Гэта мода сёння такая гарэзлівая. Спадніцы -- клёш, кветкі, матылькі на тканіне могуць упрыгожыць і самую дзелавітую з бухгалтарак і банкірак.

Стыль «Шукальніца прыгод» патрабуе выкарыстання скуры, футра, кісяі. Нават татуіроўкі! Яны даўно ўжо модныя на Захадзе і Усходзе, зараз прыйшла і наша чарга.

Вось такія парады. Усё гэта Яе Вялікасць Мода прапануе нам без усякага прымусу: жадаеце -- апранайцеся, а не жадаеце -- ... Зрэшты, вы ў любым выпадку зробіце з сябе Чароўную Незнаёмку. Ці ўжо зрабілі?

**Ніна ПРАКОПЧЫК.**

## МАДЭЛЯМІ МОГУЦЬ БЫЦЬ І ТАЎСТУШКІ

**Рэвалюцыю ў галіне айчыннага мадэлінгу збіраецца ажыццявіць Саша Варламаў. Па яго меркаванню, мадэлямі могуць быць не толькі даўганогія худышкі, але і вялікія прыгожыя жанчыны.**

-- За мяжой нават часопісы такія выдаюцца -- «Вялікая прыгожая жанчына», -- кажа дырэктар агенцтва мадэляў. -- Больш таго, у замежных агенцтвах працуе шмат поўных мадэляў. І яны ўдзельнічаюць у шоу, паказах, здымках. Попыт на іх не меншы, чым на стандартных манекеншчыц. Тлумачыцца ж гэта проста: параметры «ідэальных вешалак» маюць студэнткі, школьніцы і толькі нямногія жанчыны ва ўзросце.

Пераважная большасць прадстаўніц чароўнай палавіны бальзакаўскага ўзросту носяць вопратку ад 48-га памеру. І жадаюць яе бачыць на такіх жа манекеншчыцах. Таму я запрашаю вялікіх прыгажунь на кастынг, які адбудзецца з 13 па 16 красавіка ў межах выстаўкі «Мода-96. Вясна» ў Палацы спорту.

**Паліна КРЫЛОВА.**

## ЛІЛІІ Ў ВАЛАСАХ І ПЁРЫ НА ПАЗНОГЦЯХ

МОДА ў стрыжках і прычосках, на шчасце, застаецца дэмакратычнай. Аднак выразна прасочваецца тэндэнцыя да дасканалых ліній. Адыходзяць у мінулае «рваныя» чубкі і віскі. Пры гэтым захоўваецца лёгкасць стрыжкі. Дасягаецца гэта шляхам укладкі -- простай, натуральнай. Выключэннем з'яўляюцца вячэрнія прычоскі, у якіх павінны прысутнічаць элементы ўрачыстасці і элегантнасці.

Для дзяўчат і жанчын, якія аддаюць перавагу спартыўнаму стылю, застаюцца актуальнымі кароткія стрыжкі. Аднак лінія віска ўжо не вострая, як гэта было даволі доўга. Віскі набываюць форму, якая хутчэй нагадвае мужчынскія бакенбарды. Лінія патыліцы выстрыгаецца ў залежнасці ад індывідуальных асаблівасцей. Але мне асабіста імпануе мяккая, плаўная лінія патыліцы. Даўжыня чубка можа вар'іравацца ад суперкароткай (калі гэта дазваляе форма лба) да лініі броваў, але ні ў якім разе валасы не павінны закрываць вочы.

Па-ранейшаму модная форма карэ, толькі крыху відазмененая. Для аматарак спакойнага ладу жыцця лінія карэ мяккая, крыху закругленая. Калі ж вы дзелавая і рашучая жанчына, да строгага касцюма падыдзе карэ з дасканалай лініяй. Падкруціце канцы валасоў уверх -- вы будзеце непаўторнай.

Аматаркам доўгіх валасоў і кос мода дае ўсе карты ў рукі. Па-ранейшаму карыстаецца папулярнасцю стыль 60-х гадоў. Асноўны аб'ём у прычосцы сканцэнтраваны на франтальна-цемянной зоне. Прамы прабор і спакойныя ліній бакавых зон надаюць знешняму выгляду элегантнасць і ўтоенасць.

Не памылюся, калі скажу, што практычна ўсіх цікавіць, якая колеравая гама будзе моднай. Яркія неонавыя колеры мы пачынаем забываць. Папулярныя натуральныя адценні. Валасы пажадана фарбаваць тон у тон ці на тон цямней. Але «піскам» застаецца рыжа-каштанавая гама. Карыстаюцца папулярнасцю і русыя колеры, аднак і тут пажадана прысутнасць каштанавага ці чырвонага адцення.

Калі ж вас чакае такая радасная падзея, як вяселле, раю не баяцца «развесці агарод» на галаве: у моду ўварваліся (хаця і не адразу) упрыгажэнні з жывых кветак. Фларысты раяць выкарыстоўваць архідэі і лілеі.

Вобраз не будзе закончаным, калі рукі недагледжаныя. Тым больш, што час мяняецца да лепшага: у мужчын абуджаецца жаданне выглядаць джэнтльменамі і цалаваць руку жанчыне. Пазногці? Так, гэта, балючае пытанне для многіх. Аднак зараз з'явіўся тэхналогіі, дзякуючы якім вы заўсёды можаце мець цудоўныя пазногці. Для асоб смелых і яркіх прапануюцца пазногці, якія маюць упрыгажэнні з паўкаштоўных металаў і каменяў, пазалоты, пёраў. Яны не накладваюцца, а нарошчваюцца, так што трымаюцца такія пазногці надзейна. Зразумела, што гэта ўпрыгожванне для прэзентацый, банкетаў, але не для дома.



**Ягор МІЛЯГА.**

# ДУХІ, ЯК СРОДАК ВЫРАЖЭННЯ ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦІ

**Думаю, не памылюся, калі скажу, што для любой жанчыны духі -- гэта неад'емная частка туалета. Не пабаюся сказаць больш: удала падабраныя духі становяцца для жанчын свайго роду талісманам.**

А мужчынам духі даюць цудоўную магчымасць разам з гамай пахаў паднесці даме сэрца ўсю гаму пачуццяў. Напэўна таму духамі карысталіся яшчэ ў Старажытным Рыме. Аднак мой расказ не пра гісторыю духоў. Я хачу расказаць вам пра духі нашага часу, нашага дня. І пачну, вядома, з расказу пра французскія духі. Так што, калі ласка, завітайце ў свет «Lancome» -- свет прыгажосці і шарму.

Фірма «Lancome» узнікла ў 1935 годзе. Сёння яна шырока вядома як фірма па вытворчасці сродкаў для догляду скуры твару і цела, дэкаратыўнай касметыкі. Шэраг духоў гэтай фірмы стаў яе візітнай карткай. Духі выпускаюцца рознай канцэнтрацыі і выкарыстоўваюцца ў адпаведнасці з эпізодам і часам.

Туалетную ваду (канцэнтрацыя 7--10 працэнтаў) ідэальна выкарыстоўваць у выхадныя дні, вольны час, накіроўваючыся на прагулку па свежым паветры. Гэта больш лёгкая і сціплая версія. Вы можаце карыстацца вадой некалькі разоў на дзень, пажадана распырскваць яе шырокімі жэстамі на адзенне (але не на шоўк, футра і жэмчуг).

Парфумерная вада (ці туалетныя духі) мае канцэнтрацыю 15--20 працэнтаў і яе лепш выкарыстоўваць удзень, хаця гэты сродак, безумоўна, падыходзіць і для вечара. Гэта вытанчаная версія, блізкая да духоў. Наносіць ваду трэба ў невялікай колькасці на скуру і адзенне, зноў жа не на шоўк, футра, жэмчуг.

Духі. Ідэальная канцэнтрацыя для вечара -- 20--30 працэнтаў. Гэта найбольш высакародная і раскошная версія, увасабленне элегантнасці і спакусы. Дастаткова нанесці ўсяго некалькі кропель на шыю і дэкальтэ, за вушамі і пад каленямі.

Пах духоў развіваецца паступова, дзесьці праз кожную гадзіну. Першы пах, які мы адчуваем, -- гэта галаўныя ноты. Свежыя і лёгкія, яны знікаюць праз некалькі хвілін. Затым развіваюцца сардэчныя ноты, якія мы адчуваем прыблізна на працягу некалькіх гадзін. За гэты час развіваецца спалучэнне кампанентаў -- гармонія кветкавых і агародніных нот раскрывае ўсю інтэнсіўнасць паху. Нарэшце, цёплыя канечныя ноты. Яны характарызуюцца драўнінымі пахамі і водарам спецый. І паказваюць, наколькі духі стойкія. Ну, а зараз пагаворым пра найбольш папулярныя духі.

«Magie noire» («Чорная магія») -- лідэр фірмы «Lancome», класіка французскай парфумерыі. Агародніна-амбравы пах з доляй аскомістасці, крыху цяжкі, з намёкам на спакусу. Гэта пах, які нагадвае таемнасць, магію ночы. Не выпадкова флакон паўтарае форму дэкальтэ, а ў афармленні выкарыстаны чорны з золатам -- колеры раскошы і элегантнасці.

«Climat» («Кліма») -- яшчэ адзін прыклад класікі французскай парфумерыі. Аднак у параўнанні з папярэднімі духамі яны больш лёгкія, свежыя. Нават крыху зеленаваты колер духоў гаворыць аб заспакаенні летняга вячэрняга брызу. Спакойны і элегантны пах зрабіў духі «Climat» сапраўды любімымі духамі нашых чароўных жанчын.

«Tresor» («Скарб»). Гэтыя духі на працягу апошніх гадоў з'яўляюцца сімвалам фірмы «Lancome». Флакон у выглядзе перавернутай піраміды. Цёмна-аранжавы колер духоў з'яўляецца колерам фірмы. Кветкава-агародніны, але не прыкра-саладжавы, а хутчэй пяшчотны пах карыстаецца вялікай папулярнасцю да гэтага часу. Такімі духамі спецыялісты раяць карыстацца жанчынам рамантычнага стылю, якія любяць сям'ю і хатнюю ўтульнасць. Сімвалам духоў «Tresor» стала Ізабэла Раселіні -- ідэал жанчыны фірмы.

«Poeme» («Паэма») -- апошняя распрацоўка спецыялістаў фірмы. Гэтыя духі з'явіліся на рынку ў 1995 годзе, у гонар 60-годдзя «Lancome». Гэта зусім новыя, унікальныя духі. Яны ствараліся для больш моднай, сучаснай жанчыны. Духі «Паэма» павінны сімвалізаваць вяртанне паэзіі ў жыццё. Духі спалучаюць у сабе абсалютна процілеглыя цёплую і халодную гамы. Упершыню ў сусветнай парфумернай практыцы ў адным флаконе суструэліся дзве кветкі, якія раней ніколі не прымяняліся разам: гімалайскі мак, што расце ў снягах Гімалаяў, і дурнап'ян, жыхар пустыняў. Асабіста я ўлюбіўся ў гэтыя духі, калі можна так сказаць, з першага паху.

Колькі ж каштуюць французскія араматы? Туалетная вада -- ад 33 да 52 долараў ЗША, парфумерная вада -- ад 36 да 88 долараў. Духі -- гэта і зразумела -- каштуюць крыху даражэй -- ад 74 да 90 долараў. Нятанна. Аднак не трэба забываць, што духі -- выражэнне Вашай скрытай ці яркай індывідуальнасці. Кажучы іншымі словамі, Вашы духі -- гэта Вы сама.

**Ягор МІЛЯГА.**

*Фота і матэрыялы прадастаўлены магазінам «Lancome».*

## ВАША ЗДАРОЎЕ

# Вясна. Ачышчаемся

Пачатак цёплай пары года супадае з раўнадзенствам. Звычайна ў гэты час назіраюцца бясконцае пазяханне і праславутая веснавая стомленасць. Павелічэнне сонечнай актыўнасці хаця і стымулюе арганізм, аднак прыносіць яму клопаты. З упэўненасцю можна сказаць, што ў гэты перыяд павышаецца ўзровень гармонаў у крыві, узмацняецца рост клетак, а ўвесь працэс абмену рэчываў настройваецца на больш інтэнсіўную хвалю. У арганізме павялічваецца патрэбнасць у энергіі як раз у той самы момант, калі не засталося ніякіх рэзерваў.

Таму мы павінны ачысціцца і дапамагчы арганізму перайсці на летні рэжым. Лепш за ўсё мы гэта зробім, калі аблегчым работу органаў, якія кітайская медыцына тысячу гадоў таму назвала «веснавымі органамі»: печань і жоўцевы пузыр.

Цудоўным сродкам, які ачышчае арганізм, служыць лімонна-перцавы ліманад. Гатуецца ён так: у шклянку мінеральнай вады выціскаецца дзве лыжкі лімоннага соку, дабаўляецца дзве дробкі перцу і сталовая лыжка кляновага сіропу. Такі кактэйль утрымлівае шмат вітамінаў, мікраэлементаў, папаўняе энергію, ачышчае і аблягчае выдаленне розных адходаў абмену рэчываў.

Штодзённа трэба выпіваць тры-чатыры шклянкі такога напітку. Пры гэтым абмежаваць у сваім рацыёне вострыя стравы, пазбягаць ужывання мяса, мучных вырабаў і алкаголю. Бялок трэба есці пераважна ў выглядзе тварагу, малака, йогурту з дабаўкамі са свежых садавіны і агародніны.

## ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ

# «Ратуйце, вяснушкі!»



**Як толькі пачынае мацней прыграваць веснавое сонейка, у нашай пошце ўсё часцей з'яўляюцца пісьмы з просьбай расказаць, як пазбавіцца ад вяснушак. Чамусьці моладзь заўсёды баіцца іх паяўлення на твары і імкнецца ўсімі спосабамі знішчыць. Між тым, бяскрыўдныя вяснушкі ніколі не псуюць знешнасць, наадварот, як правіла, надаюць твару нават нейкае своеасаблівае зачараванне.**

Урэшце, аб густах не спрачаюцца. Калі ж вы так катэгарычна супраць вяснушак, то лепей пастарайцеся папярэдзіць іх паяўленне, чым потым выводзіць. Для гэтага карыстайцеся ахоўнымі крэмамі і пудрай. Перад выхадам на вуліцу ў сонечны дзень касметолагі раяць нанесці тонкі слой крэму ад загару («Шчыт», «Прамень», «Фатон»), а потым прыпудрыць парашкападобнай пудрай («Паўднёвая», «Курортная»).

Народная медыцына рэкамендуе для адбельвання скуры сок пятрушкі. Дробна парэзаную зеляніну пятрушкі заліваюць кіпенем на 20—30 хвілін, працэджваюць, ахалоджваюць і праціраюць настоем твар 2-3 разы на дзень. Яшчэ адзін сродак — сок дзьмухаўцу. Ім можна змазваць кожную вяснушку або пігментную пляму на працягу вясны і лета. Калі сок высахне, твар трэба працерці сыроваткай ці кіслым малаком.

Для гэтай жа мэты выкарыстоўваюць сок агуркоў, лімона, цыбулі, а таксама кашку хрэну (1 сталовую лыжку хрэну перамяшаць з 1 чайнай лыжкай кіслага малака). Добра змяшаць сок каліны са смятанай або сыраквашай і нанесці на вяснушкі.

Асвяжаюць і адбельваюць скуру і маскі з лісцяў парэчак, шчаўя, пладоў і лісцяў рабіны.

-1260-

## РАПТАМ СПАТРЭБІЦЦА

# Зберагчы гараж ад узлому




**Адносна спакойна могуць адчуваць сябе аўтааматары, якія маюць уласныя гаражы. Але ж зламыснікі прыстасаваліся зразаць завесы. Таму прапануем прыслухацца да нашых парад.**

Па-першае, рэкамендуем хаця б павялічыць плошчу магчымага зрэзу. Па-другое, неабходна побач з завесамі з аднаго боку (лепш з абодвух) прыварыць спецыяльныя «бабышкі», як паказана па малюнку. У выніку разам з павелічэннем плошчы зрэзу значна памяншаецца рабочы ход нажоўкі, і перапілаваць завесы будзе не так ужо проста.

Тым, хто толькі будуе гараж, раім устанавіць спецыяльныя кранштэйны ў выглядзе вугалкоў так, як гэта паказана на другім малюнку. Яны прадухіляць адкрыванне варот, нават калі завесы ўсё ж будуць зрэзаны, напрыклад газавай зваркай.

Кранштэйны неабходна ўстанавіць (прыварыць) зверху і знізу каля кожнай палавіны варот. Пры гэтым у адпаведных месцах сцяны трэба выдзеўбці пазы. Такія ж кранштэйны спатрэбяцца і для завесаў брамкі, калі яна ёсць. У штодзённай эксплуатацыі яны не патрабуюць ніякага догляду за сабою, пра іх можна проста забыцца. А ў патрэбны момант, не сумнявайцеся, яны не падвядуць.




**Мал. 1**. «Бабышкі».

**Мал. 2.** Устаноўка кранштэйнаў: 1 — брамка; 2 — кранштэйн брамкі; 3 — каркас варот; 4 — выраз у каркасе і сцяне, куды заходзяць кранштэйны; 5 — кранштэйн палавіны варот; 6 — сцяна.

## МУЖЧЫНА Ў ЛЮСТЭРКУ

# Які касцюм купляць?

**Адказ: «Таннейшы і прыгажэйшы» — не падыходзіць: касцюмы цяпер дарагія, таму, набываючы гэту рэч, кіруйцеся наступнымі правіламі.**

Высокаму мужчыну добры будзе двухбортны пінжак, які зашпільваецца на два гузікі і мае яшчэ два верхнія дэкаратыўныя гузікі. Увогуле, чым больш гузікаў, тым лепш выглядае касцюм на высокім чалавеку, і тым горш — на невысокім ды яшчэ і поўным. Калі ж пінжак аднабортны і купляецца высокім мужчынам, ён павінен зашпільвацца, сама меней, на тры гузікі. Для прысадзістага мужчыны будзе дастаткова аднаго.

У касцюме для высокіх пінжакі найлепш са светлай або клетчатай тканіны, а штаны — з цёмнай. Калі пінжак папаўся паласаты, то няхай палоска будзе ледзь бачная. Штаны высокага чалавека не павінны быць занадта вузкімі.

Поўным і невысокім мужчынам рэкамендуецца аднабортны пінжак (з адным гузікам) з тканіны без малюнка або ў нешырокую палоску. Штаны — без манжэтаў, пажадана таго ж колеру, што і пінжак. Шырыня штаноў — не празмерная, інакш фігура будзе здавацца яшчэ больш прысадзістай.

Калі ўжо з'явіўся жывоцік, прыйдзецца насіць касцюм-тройку — камізэлька аптычна памяншае паўнату.

**Выбраўшы адзенне такім чынам, вы ўбачыце, што і грошы патрацілі не дарэма, і касцюм на вас выглядае прыгожа.**

-1261-

## МАЛЕНЬКІЯ ХІТРАСЦІ

# Соль на ўсе лады

**Соль — універсальны сродак. Яна прыдатная не толькі для прыгатавання ежы, але яшчэ шмат для чаго... Пераканайцеся ў гэтым самі.**

- Хуткі спосаб пачысціць дыван — насыпаць на яго дробнай солі, намачыць венік цёплай вадой і лёгкімі рухамі змесці соль — дыван «памаладзее».

- Калі пасля чысткі цыбулі або разбірання селядца пацёрці рукі соллю, а потым памыць — непрыемны пах знікне.



- Жоўтыя плямы на ванне і ракавіне можна пачысціць падагрэтым воцатам з соллю.

- Таматную пасту ў адчыненым слоіку прысыпце соллю і наліце крыху алею — паста не запляснее.

- Калі ў крухмал дабавіць соль, бялізна прыгожа блішчыць.

- Махровыя халаты і ручнікі будуць мяккімі і пушыстымі, калі пасля мыцця падтрымаць іх крыху ў салёнай вадзе, пасля гэтага спаласнуць, высушыць і не прасаваць.




- Плямы ад тлушчу на пліце можна вычысціць, калі пасыпаць гарачую пліту соллю і працерці газетай.

- Каб вада ў грэлцы даўжэй не астывала, дабаўце ў яе крыху солі.

- Тупыя нажніцы і нажы лягчэй завастрыць, калі патрымаць лязо ў слабым салявым растворы.

- Калі каўнер пінжака зашмальцаваўся, у 25 г нашатырнага спірту развядзіце 5 г солі. Патрыце зашмальцаванае месца вільготным тампонам, намочаным у гэтым растворы.

-1262-

## ХАТНІЯ КЛОПАТЫ

# Грампласцінкі можна памыць

**Ужо два-тры дзесяцігоддзі як магнітафон сур'ёзна пачаў выцясняць з дому грампласцінкі. Многія, асабліва моладзь, лічаць, што больш выгадна мець і захоўваць унікальныя гукавыя запісы на магнітнай стужцы. Магчыма, гэта і так, аднак у кватэрах людзей старэйшага пакалення ёсць яшчэ многа запісаў на грампласцінках, і развітвацца з імі яны не збіраюцца. Адно дрэнна: калі іголка гуказдымальніка бяжыць па гукавой дарожцы, пласцінка збірае статычную электрычнасць і таму прыцягвае пыл, як магніт — жалезнае пілавінне. Пыл збіраецца нават калі пласцінка ў пакеце. З-за яго гук губляе былую чысціню. Не засмучайцеся! Пласцінкі можна памыць.**

Для гэтага вам спатрэбіцца двойчы дыстыляваная вада. А каб палепшыць намочвальнасць, можна дабавіць да яе паўпрацэнта якога-небудзь нейтральнага паверхнева-актыўнага рэчыва (ПАР), напрыклад «Фільпону» (ён выкарыстоўваецца ў фотасправе), або дзіцячага шампуню. Можна ўзяць і 10—15 працэнтаў этылавага спірту, прычым лепш гідролізнага. Вымыць пласцінку можна і чыстым чатыроххлорыстым вугляродам. Ён прадаецца ў гаспадарчых магазінах з этыкеткай «плямавыводнік». Праўда, не ўсякі плямавыводнік — CCl4.

Састаў для мыцця наліваюць у чыстую пасудзіну і праціраюць пласцінку па ходу гукавых дарожак рулончыкам новага, пажадана стэрыльнага, бінту. Забруджаны кавалак бінту апускаць другі раз у раствор не варта. Яго трэба адрэзаць. Пасля гэтага пласцінку неабходна абавязкова прамыць зноў-такі двойчы дыстыляванай вадой. Сушаць пласцінкі ў месцы, дзе мала пылу, напрыклад у ванным пакоі.

І яшчэ парада. Перш чым паставіць на прайгравальнік нават свежавымыты дыск, пачысціце яго пэндзлікам з натуральных валасоў. Можна не новым, але абавязкова чыстым.

Час ад часу трэба мыць і іголку гуказдымальніка. Нягледзячы на тое, што іх вырабляюць са звышцвёрдага штучнага алмазу, тэрмін службы іголак абмежаваны — каля тысячы гадзін. Для мыцця іголак патрэбна чыстая шчотка (падыдзе зубная з кароткім шчаціннем) і крыху любога адэкалону ці спірту. Праціраюць іголку, зняўшы яе разам з іголкатрымальнікам, і абавязкова ў накірунку руху пласцінкі адносна іголкі.

Усе гэтыя парады, калі іх выконваць рэгулярна, дазволяць павялічыць тэрмін службы пласцінак у некалькі разоў.

## НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК

# «Латаем» дах

Калі на вашым доме ці дачным доміку прадзіравіўся дах (напрыклад, лопнуў шыфер, прагніла дошка, пржавеў металічны ліст), яго можна лёгка адрамантаваць, паставіўшы латку.

Пашкоджанае месца трэба моцна змазаць нітрафарбай, налажыць любую тканіну, яе таксама пакрыць фарбай, зверху — зноў тканіна, і зноў фарба да тае пары, пакуль не атрымаецца чатырохслойнае пакрыццё. Такая латка служыць доўга.

-1263-

# УСХОДНІ ГАРАСКОП

## НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

**З ДЭЛІ перадае кар. ІТАР-ТАСС Юрый КАЗЬМІН**

КАЗЯРОГУ ў гэтыя дні неабходна зрабіць пэўныя крокі з тым, каб стварыць умовы для заключэння важнай здзелкі. Зоркі раяць вам устрымацца ад кантактаў з малазнаёмымі дзелавымі партнёрамі. Вялікая магчымасць, што вы можаце аказацца ўцягнутымі ў нявыгадную для вас справу. Маладому чалавеку трэба больш увагі ўдзяліць вучобе.

Для ВАДАЛЕЯ наступае вельмі небяспечны перыяд. Вялікая магчымасць наламаць дроў на службе. Вас пастаянна бянтэжыць няпэўнасць у асабістых справах, праблемы здаюцца зусім непераадольнымі. Сітуацыя ўжо ў бліжэйшыя дні можа і змяніцца. Закаханыя не заўважаюць, што адбываецца вакол. Нядаўна паступіўшаму на службу будзе даручана важнае заданне.

Астролагі раяць РЫБАМ зрабіць тую каштоўную пакупку, да якой вы даўно прыглядаецеся. Не варта нават сумнявацца, бо сямейны бюджэт будзе ў бліжэйшы час зноў папоўнены. Крыніца паступлення пакуль не вызначана, але ва ўказаннях астролагаў наконт пакупкі можаце не сумнявацца. Служачым могуць быць прадастаўлены некаторыя льготы. Маладой жанчыне будзе зроблена прапанова перайсці на больш цікавае для вас месца службы.

Удала ідуць справы ў АВЕНА. Вы атрымаеце адразу некалькі выгадных дзелавых прапаноў. Менавіта цяпер падпішыце ўсе здзелкі, якія прынясуць вам адчувальны прыбытак. Адна з вашых выдатных ідэй таксама дапаможа завязаць новыя знаёмствы. Асабліва ўдала складваюцца справы ў тых, хто заняты ў рэкламным бізнесе, журналістыцы. На выхадныя можна выехаць на прыроду. Магчыма, атрымаеце прапанову зазірнуць у госці да даўніх сяброў.

Дробязі не даюць магчымасці ЦЯЛЬЦУ сканцэнтравацца на выкананні галоўнага і вельмі важнага задання. Вы дарэмна губляеце час, замест таго, каб скарыстаць яго на патрэбныя справы. Гэта ўносіць пэўную неразбярыху ў планы і нервознасць у адносінах з акружаючымі. Памятайце, што ад выканання галоўнага задання залежыць цяпер ваша прасоўванне па службе.

Дакладна весці фінансавыя справы раяць астролагі БЛІЗНЯТАМ. Карыснасць гэтай парады вы адчуеце ўжо ў бліжэйшы час. Некаторыя складанасці ў бізнесе кампенсуюцца ўстанаўленнем поўнага ўзаемаразумення ў сям'і. Асцерагайцеся прастудных захворванняў, якія могуць грунтоўна перашкодзіць увасабленню вашых задум. Будзьце больш уважлівымі ў магазінах.

Больш дзелавой актыўнасці трэба праявіць у гэтыя дні РАКУ. Калі вы хочаце прасунуцца руху па службе, то вам варта ўзяцца за тую справу, якая для іншых здаецца вельмі складанай. Занятым у бізнесе могуць прапанаваць стаць членам прэстыжнага міжнароднага клуба. Не звяртайце ўвагі на плёткі, яны адцягваюць ад галоўнай справы. Не заводзьце выпадковых знаёмстваў.

Зноў рушыць да намечанай мэты ЛЕЎ. Вашы ініцыятывы на гэтым тыдні будуць высока ацэнены начальствам, але не забывайце і аб справах сямейных. У віры штодзённых клопатаў не хапае часу больш увагі ўдзяляць членам сваёй сям'і, пастарайцеся апраўдаць іх чаканні, але ў канцы тыдня гэта можа аказацца складаным. Планеты падказваюць, што прыгожая дама зноў пакліча вас у свет мараў, закружыць віхурай кахання.

ДЗЕВЕ лепш устрымацца ад прыняцця важных рашэнняў, якія могуць аказаць значны ўплыў на далейшы ход падзей. Вы можаце дапусціць памылку. Пазбегнуць яе зможаце, калі памяняеце месца службы. Нечаканая сварка з суседзямі закончыцца ўсталяваннем поўнага міру. Закаханы малады чалавек трапіць у пастку, пастаўленую яго даўнім сапернікам.

Зноў вызначаюцца розумам і абаяннем ШАЛІ. Ваша з'яўленне ў грамадстве заўсёды прыцягвае ўвагу акружаючых. Калі вы заняты ў кіно, то вам абавязкова прапануюць новую ролю, якая ўзніме ваш прэстыж у вачах сяброў на новы, яшчэ больш высокі ўзровень. У той жа час не трэба займацца эксперыментатарствам. Навучэнцам пажадана больш часу праводзіць над падручнікамі, набліжаюцца важныя экзамены.

СКАРПІЁНУ ў гэтыя дні трэба папоўніць прыметна збяднелы сямейны бюджэт. Не шукайце незвычайных для вас спосабаў зарабіць, вялікая магчымасць, што трапіце ў пастку махляроў і застанецеся без грошай. У гэтыя дні маладым людзям пажадана ўстрымацца ад ужывання любых спіртных напояў. У адносінах з каханым у дамы наступае складаны перыяд.

СТРАЛЬЦУ неабходна актывізаваць сваю дзейнасць на службе. У справах у бізнесменаў, звязаных з гандлем, наступае часовы застой, але ўжо ў бліжэйшыя дні ўсё зноў закруціцца ў сваім прывычным для вас парадку, а нядаўняя здзелка прынясе прыбытак. У той жа час пажадана трымацца далей ад людзей мала вам знаёмых, у бізнесе яны вам не партнёры. Для некаторых з вас стане неабходным захаванне дыеты.

**Аляксандр Іванавіч прыйшоў ў рэдакцыю «Звязды» напярэдадні судовага працэсу па справе аб забойстве яго дачкі, 14-гадовай Наташы, расказаў пра сваё гора і папрасіў: «Напішыце праўду. Абараніце маё дзіця ад ілжы і бруду».**

У той ліпеньскі вечар леташняга года на дыскатэку ў клуб вёскі Дубаўцы заявіўся нетутэйшы малады чалавек, на якога проста нельга было не звярнуць увагі па прычыне бруднага, вымазанага мазутам вайсковага адзення. Незнаёмец знаходзіўся ўжо пад вельмі моцным «шафэ», аднак усё прыкладваўся і прыкладваўся да пластыкавай бутэлькі з самагонкай. Прычапіўся да адной дзяўчыны, паклаў ёй на плячо руку: «Ну што, прыгожая, пойдзем піць?» Дзяўчына ад яго — як ад заразы... Затое пэўны кантынгент адпачываючых, само сабой, палічыў за грэх адмовіцца ад «халявы» і ахвотна склаў кампанію вайскоўцу. Падставы для святкавання ў апошняга былі адразу дзве. Па-першае, госцю вёскі якраз стукнула 26 гадоў. А па-другое, заканчвалася яго камандзіроўка ў Ваўкавыскі раён і як тут абысціся без развітальнага «банкета»...

... Кантрактніка Сяргея Літвінюка ў вайсковай часці, дыслацыраванай ў Баранавічах, ведаюць са студзеня леташняга года. Хутка высветлілася, які «падарунак» атрымалі ў беларускай арміі. Трактарыст-бульдазерыст рэгулярна спазняўся на службу, з'яўляўся ў часці п'яным. Не выпадкова літаральна за пару месяцаў у яго паслужным спісе з'явіўся пяцісутачны арышт. Ну дзе вы сёння на «грамадзянцы» ўбачыце такую кадравую палітыку?

Аднаго «праколу» хопіць, каб апынуцца на вуліцы. Тут жа... указваць на вароты часці Літвінюку яўна не спяшаліся. Як потым паведаміць следчаму начальнік інжынернай службы маёр Цуцаеў, гэта быў добры спецыяліст сваёй справы. А што? Ведае толк у тэхніцы, працаваў на ёй у калгасе, на будоўлі. Словам, не якая-небудзь «зелень», учарашні школьнік, а чалавек з вопытам. Што ж датычыць скандальных ці, гаворачы армейскай тэрміналогіяй, нестатутных паводзінаў, дык гэты недахоп спаўна кампенсуецца яго ўменнем добра рыць зямлю.

У пачатку чэрвеня «каштоўнага кадра» разам з яго непасрэдным начальнікам старшым лейтэнантам Лук'янчуком і салдатам тэрміновай службы Карачаевым камандзіравалі выконваць адказнае заданне ў гарнізон, размешчаны непадалёк ад вёскі Дубаўцы Ваўкавыскага раёна. Тут рыхтаваліся да паказальных вучэнняў і трэба было вазіць з кар'еру пясок. Адпачываў жа Літвінюк як звычайна. І ў чарговы раз «заляцеў», на гэты раз пры спробе пранесці гарэлку ў размяшчэнне роты. Узводны Лук'янчук, у якога ўжо ў пячонцы сядзелі выбрыкі падначаленага, напісаў камандаванню рапарт, каб гора-кантрактніка звольнілі з войска. Аднак вучэнні паспяхова скончыліся, і афіцэр адбыў ў Баранавічы. А Літвінюк з Карачаевым засталіся рамантаваць «КрАЗ», пасля чаго з дазволу маёра Цуцаева ўзяліся за «шэфскую дапамогу» мясцоваму насельніцтву. Праўда, гэта акцыя насіла не зусім гуманітарны характар. Пракапалі, скажам, воіны каля хаты траншэю для сцёку вады — з кліента паўтара літра «самаробнай». Служба лепей не трэба, на зайздрасць усім беларускім п'яніцам, якія яшчэ здольны трымаць у руках руль бульдозера: кульнуў чарку, закусіў, выспаўся... І ні нарадаў табе, ні пляца, ні вучэбнай трывогі і, галоўнае, ніякага кантролю з боку начальнікаў — сам сабе гаспадар.

## ГЭТА МЫ, ГОСПАДЗІ...

# Апошняе слова Наташы А.

У прызначаны дзень, калі Літвінюка з напарнікам павінны былі забраць у Баранавічы, ніхто з афіцэраў не прыехаў, што, аднак, не вельмі засмуціла трактарыста на кантракце. Ды і калі сумаваць? «Служба» была распісана літаральна па гадзінах. У асабліва напружаным рэжыме Літвінюк «працаваў» у выхадны, другога ліпеня. Спачатку «рабацягу-салдаціка» пачаставалі на вясковым вяселлі. Мала, не дайшоў да «кандыцыі» — тут як тут прадстаўнікі тутэйшай моладзі. Адна пляшка на траіх, другая, яшчэ... Канешне, купляць самагонку ў вёску Лазы пехатой не пайшлі, паехалі на КрАЗе. Кантрактнік — за рулём, дружкі з гітарай — побач. А на заканчэнне, вядома ж, танцы, ажно ў два прыёмы — спачатку ў вёсцы Плебанаўцы, а затым у Дубаўцах.

Дыскатэка яшчэ працягвалася, калі ачумелы ад самагонкі Літвінюк, спатыкаючыся, выйшаў, дакладней сказаць, выпаўз на вуліцу. Тут бы яму і зваліцца ды праспацца, не — ўбачыў, як ад клуба аддаляецца дзяўчына (школьніца з Мінска Наташа А., пераведзеная ў дзевяты клас з падзякай бацькам за выхаванне дачкі, была ў бабулі на канікулах), дагнаў яе. На першым допыце Літвінюк раскажа, даслоўна, наступнае: «Мне здалося, што дзяўчына нечым засмучана. Жадаючы яе развесяліць, завёў размову на агульныя тэмы, але яна не хацела са мной гаварыць. Я паспрабаваў абняць яе, аднак дзяўчына ўдарыла мяне ў твар, у адказ я яе штурхнуў і яна ўпала ў кювет...»

Судмедэкспертыза засведчыць, што Літвінюк нанёс дзяўчынцы не менш сямі ўдараў. Згвалціўшы і задушыўшы сваю ахвяру, ён паплёўся да КрАЗа — адпачываць. Выцягнуўся каля бампера, заснуў. Прачнуўшыся, глытнуў вады і зноў «на бакавую», цяпер ужо ў кабіне. Прыкладна ў поўдзень сеў за руль і накіраваўся ў магазін за пячэннем і кефірам. Неўзабаве Літвінюка забрала міліцыя, а падпалкоўнік, які прыехаў з Баранавіч, паведаміў кантрактніку, што, аказваецца, ён яшчэ трыццатага чэрвеня, за тры дні да ўчыненага забойства, звольнены са службы (як высветлілася пазней, з фармулёўкай «за ўчынкі, якія дыскрэдытуюць вайсковае званне») і выключаны са спісаў асабовага саставу часці. Кропка, маўляў, ты ўжо не наш...

У той жа дзень Літвінюк заявіў следчаму, што яго звольнілі «заднім чыслом», у сувязі з чым пракуратура накіравала запыт міністру абароны генерал-лейтэнанту Л.Мальцаву. Быў атрыманы адказ, што «дата выдання загаду аб звальненні адпавядае сапраўднасці» але «разам з тым па віне шэрага службовых асоб Літвінюк своечасова ў часць вернуты не быў, а працягваў знаходзіцца ў вёсцы. Падрыхтаваны загад аб пакаранні службовых асоб, якія садзейнічалі ўчыненню Літвінюком злачынства».

Моцна, канешне, сказана — «садзейнічалі». Хаця, па праўдзе, гэта садзейнічанне адбылося зусім не трыццатага чэрвеня, калі па скандальна вядомага трактарыста абавязаны былі прыехаць з Баранавіч (забралі б яго — Наташа пайшла б у дзевяты клас), і нават не тады, калі «каштоўнаму спецыялісту» адной рукой аб'яўлялі пятую ці сёмую вымову, а другой даручалі адказныя заданні дзеля ўмацавання нашай абараназдольнасці. Справа ў тым, што на допыце Літвінюк сам прыгадаў сваё не вельмі далёкае мінулае, а канкрэтней, 1992 год. Тады ён жыў у Эстоніі і, пагарэўшы на спробе абраваць кватэру, дзесяць месяцаў правёў у Талінскай турме. Вярнуўся ў Беларусь, швэндаўся з аднаго месца працы на другое. І раптам (трэба ж так!) беларускаму войску ну ніяк нельга было абысціся без такога кадра. Ніхто лепей за яго ні з зямлёй, ні з пяском не ўправіцца. І гэта ў той час, калі сотні і тысячы здаровых мужчын, цудоўных прафесіяналаў аказаліся беспрацоўнымі. Калі ў загадзе міністра абароны чорным па беламу напісана, што «адбор кандыдатаў на службу па кантракту павінен праводзіцца на конкурснай аснове, шляхам індывідуальнай работы»... Дзе ж ён, той індывідуальны падыход? І хто ж тады быў канкурэнтам у Літвінюка, калі менавіта гэты спецыяліст выйграў конкурс? Няўжо адны толькі адпетыя рэцыдывісты ці хранічныя алкаголікі?

... Наташына адзенне забрала з морга яе цётка. У бацькоў і сваякоў дзяўчынкі складвалася ўражанне, што гэтыя рэчы, а таксама адзенне Літвінюка быццам і не цікавілі следства, бо толькі 14 верасня, больш чым праз два месяцы пасля забойства, следчы Ваўкавыскай міжрайпракуратуры А.Брыль прызначыў экспертызу ў сталічным Інстытуце праблем крыміналогіі, крыміналістыкі і судовай экспертызы. 5 кастрычніка кіраўніцтва інстытута дасылае ў пракуратуру адказ, што не можа выканаць патрэбную работу, паколькі яму адмоўлена ў арэндзе памяшканняў у будынку Вярхоўнага суда і трэба шукаць іншае месца для лабараторыі.

Нарэшце, 28 лістапада следчы Ваўкавыскай міжрайпракуратуры А.Зайцаў падпісвае даведку аб тым, што «да гэтага часу рэчавыя доказы не паступілі». Дзякуй Богу, што іншыя рэчы, накіраваныя ў гродзенскае бюро судова-медыцынскай экспертызы, усё ж не згубіліся...

Тым часам Літвінюк, калі параўноўваць з першымі допытамі, пачынае «гнуць» зусім у адваротным напрамку. Спачатку — «раскайваюся, быў бы цвярозы — такога б не ўчыніў». У далейшым — «не забіваў» і нават «не гвалціў», бо ўсё адбывалася па «ўзаемнай згодзе». На гэтым жа ён упарта стаяў і ў зале суда.

Апошняе слова за Наташу сказала калегія па крымінальных справах Гродзенскага абласнога суда пад старшынствам Леаніда Галубовіча. Увесь бруд, выліты забойцам на сваю ахвяру, быў абвергнуты. Літвінюк прыгавораны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 23 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**13.55** Шматгалоссе.
**14.30** Алімпійскі сілуэт. Плаванне.
**14.50** «Чысты голас». Канцэрт.
**15.20** Беларускі дом.
**16.00** «Заставайцеся з намі!» Сустрэча супрацоўнікаў Белтэлерадыёкампаніі з жыхарамі Магілёўскай і Гомельскай абласцей.
**16.30** Зорная ростань. Тэлевізійны конкурс маладых артыстаў эстрады.
**17.10** Тэлевізійны Дом кіно. Фестываль «Белы Бусел».
**17.50** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Асенні кактэйль». Музычная праграма.
**18.30** Галерэя. Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Анатоль Лябедзька. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай.
**19.05** Па вашых просьбах. «Падранкі». Маст. фільм.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Навіны.
**21.45** «Ноч святога Лаўрэнція». Маст. фільм (Італія).
**23.45** Відзьма-нявідзьма.
**0.45** Цёмны пакой.

### ГРТ

**12.55** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Адвольны танец. Перадача з Канады.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Аўтамабіль і я».
**14.40** У свеце жывёл.
**15.20** «Акно ў Еўропу». Вядучы Д. Кісялёў.
**15.50** Бамонд.
**16.10** «Шчаслівы выпадак».
**17.00** Навіны.
**17.20** Вясёлыя гісторыі ў часопісе «Ералаш».
**17.40** Тэлескоп.
**18.10** «Залатая серыя». Год 1985-ы. «Самая абаяльная і прываблівая».
**19.45** Спакойнай ночы, малышы!»
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** «Дэтэктыўнае агенцтва «Месяцавае святло».
**21.45** «Дні».
**22.25** «Брэйн рынг».
**23.15** «Калекцыя Першага канала». Джан Марыя Валантэ ў крымінальнай драме «Шчасліўчык Лучана» да **2.10.**

### Канал «Расія»

**7.00, 13.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**11.15** Пілігрым.
**12.00** Свята «Труда».
**12.30** «Паэт у Расіі — больш, чым паэт». Праграма Я. Еўтушэнкі.
**13.20** Дэ факта.
**13.35** «Бланш». Шматсерыйны тэлефільм (Канада). 1-я серыя.
**14.25** Караоке па-руску.
**14.45** Сігнальны экземпляр.
**15.00** Імперыя гульняў. «Гладыятары».
**15.50** Кліп-антракт. П. Кіркораў.
**15.55** Футбол. Чэмпіянат Расіі. «Спартак» (Масква) — «Чарнаморац» (Новарасійск).
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Суботні вечар з Раланам Быкавым.
**21.05** Зусім сакрэтна.
**22.45** Рака часу.
**22.50** Аўтаімгненне.
**22.55** Праграма «А».
**23.55**—0.40 Адамаў яблык.

### Санкт-Пецярбург

**12.35** «Алімпійская гонка». Дак. фільм (Нарвегія).
**13.05** «За вочы». Музычна-забаўляльная праграма.
**13.30** «Яшчэ адна Расія». Відэаканал.
**15.00** «Ці любіце вы вучэбны тэатр?»
**15.30, 18.30, 21.00** Інфарм ТБ.
**15.40** Мы і банк.
**16.20** Зебра.
**17.10** Тэлеканал «Не хочаш — не глядзі».
**17.55** Тэле-граф.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.55** Спартыўная праграма.
**20.25** «Жах прыходзіць у поўню». Тэлеспектакль цыкла «Уік-энд з дэтэктывам».
**21.20** «Гаварыце... мне цікава». Маст. фільм (Францыя).
**22.40** Музычны рай.

### НТБ

**17.00** РЭН-ТВ прадстаўляе: «Дог-шоу. Я і мая сабака».
**17.30** Вернісаж Іллі Рэзніка.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.30** Праграма Сяргея Дарэнкі «Характары».
**19.10** Серыял па выхадных «Круты Уокер: правасуддзе па-тэхаску». 21-я серыя (ЗША).
**20.00** Надоечы.
**20.45** Лялькі.
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Свет кіно. «Джэймс Бонд — агент 007». Фільм пяты «Ты жывеш толькі двойчы» (ЗША).
**23.35** Трэці глаз.
**0.20--2.55** Начны канал. «Плэйбой».

*Віншуем Святлану Хаменка з нараджэннем сына. Жадаем моцнага здароўя сыну і маці, многа добрых і светлых дзён жыцця.*

*Супрацоўнікі газеты «Звязда».*

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД



**Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы.**

**Па гарызанталях і вертыкалях:** 1. Приказ. 2. Время. 3. Громкий смех. 4. Стужа. 5. Сапог. 6. Свора. 7. Излом (реки, дороги). 8. Форель. 9. Уклон. 10. Размер. 11. Кровля. 12. Усилие. 13. Запах. 14. Подземелье. 15. Завоеватель. 16. Движение. 17. Намерение. 18. Роща. 19. Басня. 20. Хворост. 21. Багрец. 22. Пояс, ремень. 23. Любитель. 24. Палач. 25. Почёт. 26. Ужас. 27. Стул. 28. Обида. 29. Волынщик. 30. Захват. 31. Стон. 32. Сундук. 33. Число. 34. Басня. 35. Бурт (овощей, картофеля). 36. Почва. 37. Тёща. 38. Кипяток. 39. Окрестность. 40. Аир. 41. Судьба. 42. Разведчик. 43. Знакомец. 44. Облик.

**Склала Ніна ГАРБАЧЭНКА.**
г. Мінск.

## ПРАВЕРЦЕ АДКАЗЫ

**КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД (14 сакавіка).** Па гарызанталях і вертыкалях: 1. Канюшына. 2. Замах. 3. Кірмаш. 4. Прагал. 5. Нерат. 6. Парастак. 7. Маладзік. 8. Прыцемак. 9. Любая. 10. Загад. 11. Завадатар. 12. Дыван. 13. Пералетак. 14. Узбраенне. 15. Знавец. 16. Панарад. 17. Валадар. 18. Азадак. 19. Дадатак. 20. Ляжак. 21. Вапна. 22. Пашча. 23. Падстава. 24. Падатак. 25. Скарынка. 26. Падпал. 27. Знічка. 28. Жабрак. 29. Зносак. 30. Хмара. 31. Гаспадыня. 32. Нарыс. 33. Стома. 34. Капыл. 35. Зваротак. 36. Накрыўка.

**КРЫПТАГРАМА (14 сакавіка).** Ключавыя словы ў ёй — дзея, працэсія, шынок, вальс. А зашыфраваныя словы народнай мудрасці такія: «Паспешлівыя рашэнні прыводзяць да раскаяння».

## ГАЛАВАЛОМКА

Падзяліце квадрат на чатыры часткі і складзіце іх такім чынам, каб па ўсіх гарызанталях, вертыкалях і абедзвюх дыяганалях сума прыведзеных у клетачках лічбаў была роўная 20. Калі вы зробіце гэта правільна, то па літарах, якія стаяць каля кожнай лічбы, вы прачытаеце трапную народную прымаўку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 3 А | 9 Я | 7 В | 6 Е |
| 6 Л | 7 А | 9 — | 3 В |
| 1 І | 7 К | 4 Д | 3 Ы |
| 3 С | 4 І | 7 Я | 1 Л |

**Склаў Рыгор ЯКУШ.**
г. Мінск.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 142.400 Індэкс 63850.
Зак. № 1475.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12